№ 28 (961) 5 кастрычніка 2016
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
# Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

**НОВЫ ФАРМАТ — 24 СТАРОНКІ**



# Як расійская прапаганда маніпулюе нашымі думкамі

**Расія імкнецца да перадзелу карты свету і ўдасканальвае спосабы выкарыстання дэзынфармацыі і прапаганды супраць сваіх суседзяў, пішуць аналітыкі Цэнтра еўрапейскай палітыкі і аналізу ў сваім новым дакладзе.** **Старонка 3.**



# Назіра і Мансур: чаму яны бягуць?

Чачэнцы ў Брэсце — выклік для беларускай міласэрнасці. Спецыяльны рэпартаж — **старонка 10.**

**91-гадовы ветэран вайны прыйшоў на пікет Дашкевіча,** каб паставіць подпіс за нацыянальны сцяг. **Старонка 5.**

**«Дзе наша Віленшчына, Нёмну хвалі?..»** Пра невядомае ў вядомым вершы Уладзіміра Дубоўкі піша гісторык Алесь Пашкевіч. **Старонка 18.**

**«Што ні кажыце, а п'яніца на вытворчасці — чалавек патрэбны і выгадны»** Апавяданне Таццяны Барысік «Страусава доля». **Старонка 22.**

**Вечны горад**
Усе дарогі вядуць у Рым — лагістыка — Асліная брама — Калізей — адчуваць — ньёкі — згубіцца — Торэ Арджэнціна — карбанара — Чынэчыта — людзі — вада — прыгажосць — сустрэцца — піца — Кампа дэй Ф'ёры — мора. На ўласным досведзе піша Андрэй Дзмітранок. **Старонка 14.**

### Ад рэдактара

Халодная вайна разгараецца. Расія робіць выгляд, што рыхтуецца да вырашальнай схваткі з ЗША, спадзяецца ў выніку аднавіць свой статус сусветнай звышдзяржавы. Масква выйшла з дамовы з Вашынгтонам аб перапрацоўцы запасаў плутонію, прыдатных для вырабу атамнай зброі. Прычым з наўмысна дзёрзкай фармулёўкай: да таго часу, пакуль не будуць знятыя санкцыі і не кампенсаваная шкода ад іх.

У Сірыю Расія перакінула самыя сучасныя комплексы супрацьпаветранай абароны С-400 і «Антэй». Ані тэрарысты, ані паўстанцы не маюць авіяцыі. Гэтыя комплексы павінны абараніць расійскія сілы ў выпадку патэнцыйнай канфрантацыі з натаўскімі. Цяжка сабе ўявіць, да чаго магла б прывесці такая канфрантацыя. Ні ў часы СССР, ні пасля Расія і Амерыка ніколі ў адкрытую не ваявалі, ніхто не ведае, чыя зброя лепшая на практыцы. Але чыя б ні была лепшая, у атамнай вайне не можа быць пераможцы.

Новая халодная вайна б'е па Беларусі эканамічна. Але любая «гарачая вайна» можа прывесці проста да гібелі ўсіх беларусаў. Толькі цяжка паверыць, што цяперашняя расійская эліта адмовіцца ад яхтаў і палацаў (**старонка 8**) і сыдзе ў бункеры.

Трывожныя прадчуванні нашы, але і ў трывожную пару ствараюцца вялікія творы мастацтва.

Пра вельмі прыгожы Вечны горад расказвае вельмі прыгожа Андрэй Дзмітранок (**старонка 14**).

Рэкамендуем таксама душэўныя апавяданні Таццяны Барысік і Віктара Шукеловіча (**старонкі 22 і 23**).

Цэнтрам жа нумара стала складаная тэма ўцекачоў — іх хваля зачапіла Беларусь толькі краечкам. Гуманізм кажа: дапамагаць. Здаровы сэнс: не пускаць. У Еўропе іх да мільёна, у нас, у Брэсце, на мяжы — некалькі соцень. Чаму яны бягуць? Ад чаго? Цікавы рэпартаж — **старонка 10**.

# 96,4%: «Наша Ніва» адгадала пераможцаў выбараў на 106 акругах

Перад парламенцкімі выбарамі «Наша Ніва» апублікавала прагноз (чытай у №27) — перамогу якіх кандыдатаў можна лічыць узгодненай з кіраўніцтвам краіны.

Аналізуючы месца працы чалавека, а не яго асобу, мы лёгка адгадалі 106 са 110 будучых дэпутатаў.

У якіх выпадках адбылася неспадзяванка?

Ад Каліноўскай акругі №108 пераможцам назвалі Максіма Міська, старшыню праўлення Беларускага фонду міру. Гэтая грамадская арганізацыя пераважна аб'ядноўвае бюджэтнікаў і спраўна пастаўляе праўладных назіральнікаў на выбары. Ён жа, Міська, — першы намеснік старшыні Беларускага саюза сувораўцаў і кадэтаў.

А вось намеснік дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі навук Вадзім Лакіза застаўся ні з чым. Яго доўгі час падтрымлівала «Белая Русь», але нешта пайшло не так.

Яшчэ адна тэхнічная замена ў Мінску адбылася на акрузе №110. Замест дырэктаркі гімназіі №5 Лады Захаравай пераможцай назвалі Вольгу Мычко, галоўную доктарку хоспіса.

Выбар у дэпутаты юрысткі з Аб'яднанай грамадзянскай партыі Ганны Канапацкай прадказаць, здаецца, было немагчыма.

Нарэшце, у Асіповіцкай акрузе прайграў цяперашні дэпутат Мікалай Калтуноў. Зафіксаваная перамога алімпійскага чэмпіёна, весляра Аляксандра Багдановіча, дыскваліфікаванага за допінг.

У Брэстчыне, Віцебшчыне, Гродзеншчыне і Міншчыне прагноз быў цалкам дакладным. Абраны склад парламента, найхутчэй, будзе такім жа несамастойным, як іх папярэднікі.

# У Палату прадстаўнікоў упершыню прапусцілі па дэпутаце ад апазіцыі і ад ТБМ

Лідзія Ярмошына абвесціла пераможцай на Кастрычніцкай акрузе №97 ад Мінска Ганну Канапацкую. Такім чынам, у Палату прадстаўнікоў упершыню прапускаюць дэпутата ад апазіцыі.

Ганна Канапацкая нарадзілася 29 кастрычніка 1976 года.

Яна прадпрымальніца, дырэктарка ТАА «Грынрэй». Летась задэклaравала даход 293,8 мільёна рублёў.

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька расказаў «Нашай Ніве», што яна ў партыі даўно, ад часу яе паўставання. Раней яна была кіраўніцай мінскай гарадской арганізацыі партыі.

«Прызначэнне ў дэпутаты Канапацкай — гэта найперш пстрычка па носе Таццяне Караткевіч», — мяркуе журналіст Зміцер Панкавец.

«Ганна Канапацкая не абраная, а прызначаная пераможцай выбараў. Не яе віна ў гэтым, але факт застаецца фактам», — адзначае журналіст Ягор Марціновіч.

А вось прызначэнне ў дэпутаты Алены Анісім з Таварыства беларускай мовы прадказвалі яшчэ да выбараў. Яе паставілі на першае месца ў Стаўбцоўска-Нясвіжскай акрузе Мінскай вобласці. Алена Анісім — даўні актывіст руху за нацыянальнае адраджэнне.

Ганна Канапацкая са студэнцкіх гадоў уваходзіць у Аб'яднаную грамадзянскую партыю.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Як звязацца з незалежнымі дэпутаткамі Палаты прадстаўнікоў**

Лісты Алене Анісім можна дасылаць на электронную пошту alenaanisim@gmail.com.

Лісты Ганне Канапацкай — на пошту a.kanopatskaya@ucpb.org

**Анекдот з нагоды**

Сітуацыя ў эканоміцы такая, што на поўную адсутнасць апазіцыі ў парламенце не хапае грошай.

# Фомачкіну, які пранёс сцяг Расіі на Паралімпіядзе ў Рыа, падораць кватэру

Беларускаму чыноўніку, які пранёс расійскі сцяг на адкрыцці Паралімпіяды ў Рыа-дэ-Жанейра, падораць кватэру. Пра гэта напісала прадстаўніца расійскага МЗС Марыя Захарава. Сертыфікат на кватэру ў Маскве Андрэю Фомачкіну выпісаў расійскі праваслаўны бізнэсмен і аўтагоншчык Сяргей Шмакаў.



**Самае чытанае на nn.by за верасень 2016**

1 Праваабаронцы: Амапаўцы збівалі падлеткаў і пагражалі сэксуальным гвалтам

2 Нечаканы паварот у канфлікце на АЗС: тэлеканал «Россія 24» ўвогуле нельга трансляваць у Беларусі

3 Юлія Чарняўская абураецца транслітарацыяй у пашпарце: Я стала «Жуліжа Чернявскажа»

4 110 кандыдатаў, якія будуць «абраныя» ў парламент — праверце спіс пасля выбараў

5 Упершыню за 17 гадоў грамадзяніна Беларусі пакаралі за абразу роднай мовы

6 Пазнайце гербы беларускіх гарадоў ТЭСТ

7 Мастацтвазнаўца абвінавачіла дактароў мінскай паліклінікі ў чэрствасці і хамстве

8 Хлопцы, якіх больш няма: праект беларускага фатографа Аляксандра Васюковіча, які выклікаў шал у Расіі

9 15 фактаў пра беларускую мову ТЭСТ

10 Аляксандр Лукашэнка на «Харлеі» ўзначаліў калону байкераў ФОТАФАКТ

# Як расійская прапаганда маніпулюе нашымі думкамі

Расія імкнецца да перадзелу карты свету і ўдасканальвае спосабы выкарыстання дэзынфармацыі і прапаганды супраць сваіх суседзяў, пішуць аналітыкі Цэнтра еўрапейскай палітыкі і аналізу ў сваім новым дакладзе.

65-старонкавы дакумент апісвае тыповыя прыёмы інфармацыйнай вайны, якую вядзе Крэмль, і прапануе спосабы супрацьстаяння.

Расійскі ўрад выкарыстоўвае прапаганду не так, як гэта рабілася раней, пішуць аналітыкі Эдвард Лукас і Пётр Памяранцаў. Расійскія СМІ цяпер не стараюцца пераканаць насельніцтва іншай краіны ў сваёй праваце. Ім галоўнае — стварыць атмасферу параноі ці пасіўнасці, падзяляць еўрапейскія краіны на варагуючыя групы. Гэта спосаб дэзарганізацыі і дэмаралізацыі праціўніка.

Даклад Лукаса—Памяранцава прысвечаны сітуацыі ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, але, як адзначаюць аўтары, аналагічныя метады расійская прапаганда выкарыстоўвае і ў Азіі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыцы, Заходняй Еўропе.




Яшчэ з сярэдзіны 1990-х гадоў «эксперты» маскоўскага Інстытута краін СНД заяўлялі, што ў Беларусі на самай справе існуюць два народы — «беларусы» ўсе за саюз з Расіяй, а супраць выступае… 15-працэнтная этнічная група «ліцвінаў», якая жыве на захадзе краіны.

Тыя самыя тэзісы дагэтуль агучваюцца адносна ўкраінскай Галіцыі — прапагандысты пераконваюць, што галічане этнічна і культурна не маюць нічога супольнага з насельніцтвам астатняй Украіны, што гэта проста іншы народ.

Лухта? Але менавіта гэта гадамі дзяўбуць расійскія СМІ — тэлеканалы, сетка сайтаў Sputnik, а таксама сотні псеўданезалежных сайтаў тыпу «Імперыя.бай» і «Імхаклуб.бай», а таксама спецыяльна арганізаваныя групы інтэрнэт-ботаў.

Галоўная ідэя расійская прапаганды: усе сілы, якія не згодныя з расійскай замежнай палітыкай, з'яўляюцца русафобамі і марыянеткамі ЗША. Пры гэтым ЗША малююцца як эгаістычны і беспрынцыпны сусветны монстр, які імкнецца да сусветнага панавання, а Расія — як галоўная сіла, маральная і шчырая, якая можа абараніць свет ад амерыканскай пагрозы.

### Кожнай краіне — свая легенда

У залежнасці ад краіны выкарыстоўваюцца тыя ці іншыя метады. Гэтак, у Польшчы расійская прапаганда засяроджваецца на тым, што заходнія ўплывы разбураюць хрысціянскія каштоўнасці насельніцтва.

Украінцаў, беларусаў і жыхароў краін Балтыі пераконваюць у тым, што іх краіны без саюзу з Расіяй не маюць будучыні.

У сваю чаргу, для заходняй аўдыторыі эліты Украіны і краін Балтыі малююць татальнымі карупцыянерамі і нацыстамі.

Фінаў абвінавачваюць у тым, што пры разводах фінска-расійскіх пар фінскія ўлады «адбіраюць дзяцей», адначасова агучваюцца пагрозы на той выпадак, калі Фінляндыя і Швецыя вырашаць далучыцца да НАТА.

### Рэфлексіўны кантроль

Любая крытыка ў бок Масквы адхіляецца як ілжывая, нешчырая, прапагандысцкая, як двудушны вынік выкарыстання «падвойных стандартаў». Дыскусіі ў інтэрнэце пры гэтым маскоўскія прапагандысты спрабуюць кантраляваць, выкарыстоўваючы найманых інтэрнэт-ботаў.

Выкарыстоўваюцца яшчэ савецкія метады ваеннай прапаганды: акрамя распаўсюджвання фэйкавых паведамленняў і чутак, гэта і так званы «рэфлексіўны кантроль», пры якім асноўныя рэсурсы інфармацыйнай атакі не скіраваныя адкрыта на праціўніка, але на рэальную ці ўяўную дэканструкцыю аднаго важнага для праціўніка тэзіса, ідэі ці канцэпцыі.

**Галоўная ідэя расійская прапаганды: усе сілы, якія не згодныя з расійскай замежнай палітыкай, з'яўляюцца русафобамі і марыянеткамі ЗША**

Такім чынам праціўнік сам пачынае сумнявацца ў сабе, пачынаюцца ўнутраныя спрэчкі, дэзарганізуецца ідэйная аснова ці працэс прыняцця канкрэтных палітычных рашэнняў.

Гэткая нахабная прапаганда, якая скажае ўяўленні пра рэчаіснасць унутры самой Расіі, а таксама дэзарыентуе пэўныя групы ў іншых краінах, павінна ўплываць на палітыку замежных урадаў (у тым ліку проста запалохваючы іх), падрываць давер людзей да свайго ўрада, распальвае варожасць паміж нацыямі.

### Кожнаму — па чаканнях

У адрозненне ад савецкіх часоў, Крэмль не трымаецца нейкай адзінай нязменнай ідэалогіі. Прапагандысцкія атакі вядуцца адразу з усіх магчымых кірункаў.

У савецкія часы антызаходняя агітацыя вялася заўсёды з камуністычных, левых ці антыкаланіяльных пазіцый. Цяпер адкрытыя і прыхаваныя крамлёўскія прапагандысты могуць біць у грамадскую свядомасць той ці іншай краіны адразу з некалькіх бакоў.

Фінансаваныя Масквой інтэрнэт-сайты для нацыяналістаў гавораць адно.

Працяг на старонцы 4.



**«Русафобія»**

Што б ні рабілі ў Беларусі ўлады для нацыянальнай мовы і культуры, нават рэстаўрацыю помнікаў архітэктуры, некаторыя сайты ў Расіі адразу вышукваюць у гэтым «русафобію».

Беларусь і беларусаў некаторыя расійскія СМІ малююць як нахлебнікаў, якія цалкам існуюць за кошт Расіі. А гэты тэзіс ужо выкарыстоўваецца як нагода выстаўляць любыя, нават самыя абсурдныя, прэтэнзіі і патрабаванні да нашай краіны.

Кожны самастойны крок беларускай замежнай палітыкі ці выказванне свайго меркавання ў сферы двухбаковых эканамічных адносін пракрамлёўскімі СМІ адразу запісваецца ў праяву «антырасійскасці», «нацыяналізму» і «няўдзячнасці».

Усё гэта распальвае варожасць расіян да Беларусі ды антыдзяржаўныя настроі сярод тых беларусаў, якія знаходзяцца ў расійскай інфармацыйнай прасторы.

**І пра Хатынь**

Чаму ў расійскіх СМІ ў апошнія гады з'явілася так шмат публікацый пра польска-ўкраінскі этнічны канфлікт падчас Другой сусветнай вайны? Маскоўскія СМІ спрабуюць нацкаваць палякаў на ўкраінцаў і наадварот. Кампанія мае ўскладніць еўрапейскую інтэграцыю Украіны.

Тое самае з тэмай Хатыні. Каб распаліць варожасць паміж беларусамі і ўкраінцамі, віну за спаленне беларускай вёскі ў 1943 годзе цалкам перакладваюць на 118-ы паліцэйскі батальён, як быццам бы на месцы экзекуцыі не было нямецкіх падраздзяленняў — сумнавядомага батальёна Дырлевангера. Пры гэтым абвінавачванні гучаць толькі ў бок заходнеўкраінскіх нацыяналістаў, якія былі ў складзе батальёна, хоць галоўным чалавекам з батальёна, які ўдзельнічаў у забойствах, быў Рыгор Васюра — былы старшы лейтэнант Чырвонай Арміі родам з Усходняй Украіны.

І людзі вераць! Часта можна сустрэць тых, хто ўжо ўпэўнены, што «Хатынь спалілі бандэраўцы», хоць украінцы-нацыяналісты ў батальёне былі «мельнікаўцамі» — то бок ворагамі «бандэраўцаў», а ў батальёне шмат было і расіян.

Гэты год адзначыўся новай спробай падобнай прапагандысцкай аперацыі, скіраванай на пагаршэнне беларуска-польскіх дачыненняў. Гэтым разам была ўзнятая тэма злачынстваў атрада польскіх партызан Рамуальда Райса супраць беларусаў Беласточчыны пасля вайны. Толькі разумная інфармацыйная палітыка Мінска, Варшавы і беларускага незалежнага грамадства на гэты раз не дазволіла падняць градус міжнацыянальнай варожасці.

# Як расійская прапаганда маніпулюе нашымі думкамі

Працяг са старонкі 3.

Для левакоў — другое. Нязменным будзе толькі галоўнае пасланне: вінаватыя Амерыка і Еўрасаюз.

Такім чынам, адзначаюць аўтары даклада, Крэмль знаходзіць слухачоў і сярод нямецкіх левых, і сярод французскіх ультраправых, і сярод польскіх шавіністаў, сярод часткі еўрапейскіх кансерватыўных сялян і бунтарскай моладзі.

«У цэлым пуцінская прапаганда гуляе на ўжо існуючых слабых месцах і існуючых маргінальных групах, — гаворыцца ў дакладзе. — Неапаганцы лічаць прывабным панславізм. Манархісты — крытыку слабасцей дэмакратыі. Антысеміты павераць, што Украінай кіруюць яўрэі. Баязліўцам нагадваюць, як Захад здрадзіў Польшчы ў мінулым і наганяюць страху, што гэта адбудзецца зноў. Тым, хто баіцца Нямеччыны, настойліва паўтараюць, што Расія — меншае зло».

Намацаўшы прыдатнае месца, людзей ператвараюць у механізм перадачы прапаганды і знішчэння іх уласнага грамадства.

Сучасная маскоўская прапаганда ў Заходняй Еўропе падае сябе як голас слабай, бяспраўнай меншасці, як слова праўды, якое цудам прабіваецца праз цэнзуру магутнага Захаду.

Аднак прапагандысцкі апарат Масквы аплачваецца мільярдамі даляраў з расійскага бюджэту, а ў некаторых краінах СНД мае больш уплыву на аўдыторыю, чым мясцовыя СМІ.

Сучасная расійская прапаганда, пішуць аўтары, дакладна скіраваная на канкрэтную аўдыторыю, робіцца на высокім тэхнічным узроўні. А яшчэ яна цынічная ў перакручванні фактаў і стварэнні фэйкаў. Дадаткова розныя фарматы кантэнту, ад артыкулаў і радыёпраграмаў да серыялаў і ролікаў на *Youtube*, эмацыйна ўздзейнічаюць на гледача і чытача.

Асабліва гэта датычыцца Беларусі, дзе значная частка насельніцтва глядзіць расійскае тэлебачанне, атрымлівае расійскія ідэалагічныя ўстаноўкі, нават не заўважаючы гэтага, амаль усё жыццё праводзіць у расійскамоўным інтэрнэце.

Расійская «белая» і «чорная» прапаганда з'яўляецца элементам «гібрыдных баявых дзеянняў», якія аб'ядноўваюць агрэсіўную інфармацыйную палітыку, падрыўныя дзеянні спецслужб, адкрыты палітычны і эканамічны ціск, кібер-аперацыі, выкарыстанне параміліарных узброеных фарміраванняў і рэгулярнай арміі.

У значнай ступені, адзначаюць аўтары, расійская прапаганда — гэта нават не інфармацыйная вайна, а вайна проста супраць інфармацыі як такой.

Такая вайна мае на мэце знішчыць адзіную інфармацыйную прастору ўнутры краіны-ахвяры, разбіць яе на зачыненыя «гета», жыхарамі каторых будзе лягчэй маніпуляваць, знішчыць давер да галоўных СМІ ў краіне і паміж людзьмі ў цэлым. Можна сказаць, што гэта ўдалося зрабіць у рускамоўнай частцы Украіны, што стала перадумовай вайны.

### Што рабіць?

Аўтары даклада прапанавалі свае рэкамендацыі па абароне ад пуцінскай машыны дэзынфармацыі і падзялілі іх на тры групы.

У кароткатэрміновай перспектыве варта стварыць сетку цэнтраў, якія будуць аналізаваць тэндэнцыі ў СМІ і сацыяльных сетках, выяўляць сляды варожай прапаганды і цэнтры яе распаўсюду, аператыўна рэагаваць на дэзынфармацыю і маніпуляцыі. Таксама ў інтэрнэце можна выяўляць асобаў і трэнды з высокім патэнцыялам даверу ў палярызаваных аўдыторый, а потым выкарыстоўваць гэтыя магчымасці для будавання даверу паміж аўдыторыямі.

Няма сэнсу і немагчыма, пішуць аўтары даклада, намагацца вывучыць і дэзавуіраваць кожнае хлуслівае паведамленне расійскіх СМІ. Але, пішуць Эдвард Лукас і Пётр Памяранцаў, ёсць тры важныя задачы — і тут іх рэкамендацыі прыдатныя для Беларусі.

1. Важна мець агульнанацыянальныя тэлеканалы з высокім узроўнем даверу, якія будуць прыкладам незалежнай журналістыкі, скіраванай на патрэбы ўсяго грамадства і пры гэтым блізкія да жыцця і праблем звычайнага грамадзяніна.

2. Важна мець сваю індустрыю забаўляльнага кантэнту, здольную канкураваць з такім кантэнтам у расійскіх медыя, бо часта людзі глядзяць расійскія навіны толькі таму, што перад імі ці пасля іх ідуць цікавы фільм ці перадача.

3. Важна вучыць дзяцей арыентавацца ў сучасным інфармацыйным свеце, умець ацэньваць праўдзівасць інфармацыі, аналізаваць яе, адасабляць эмоцыі і ацэначныя заявы ад фактаў.

Вядома, каб ажыццявіць гэтыя прапановы ў адаптаваным для нашай сітуацыі выглядзе, стаўленне беларускіх уладаў да незалежных СМІ, стаўленне СМІ да беларускіх уладаў павінны памяняцца, як і адносіны ў грамадстве ў цэлым.

Аднак калі мы хочам захаваць незалежную беларускую дзяржаву ад пагрозы інфармацыйнай агрэсіі, якая можа з'явіцца пачаткам агрэсіі ўжо ваеннай, то нам прыйдзецца працаваць у гэтым кірунку, вучыцца давяраць, каб пабудаваць салідарнае нацыянальнае грамадства.

**Аляксандр Гелагаеў**









**«Каталікі — не беларусы»?**

У Беларусі падобнага тыпу прапаганда існуе ў дзвюх асноўных інкарнацыях — «савецкай» і «расійска-імперскай», якія ў залежнасці ад патрэбаў выкарыстоўваюцца для нападаў на беларускую нацыянальную ідэнтычнасць, беларускія ўлады і патрыятычнае грамадства з розных, часам дыяметральна супрацьлеглых, пазіцый і для распальвання ідэалагічных і рэлігійных канфліктаў унутры беларускай нацыі.

Часта рысай такой прапаганды з'яўляецца варожасць да каталіцтва (аж да адмаўлення католікам у праве называцца беларусамі), якая пры гэтым спалучаецца з ўяўнай «абароная традыцыйных каштоўнасцяў» — хоць якраз суседняя каталіцкая Польшча гэтыя каштоўнасці абараняе значна больш паслядоўна, чым Расія.

Тыя ж аўтары рассыпаюцца ў пахвалах польскаму шавіністу Раману Дмоўскаму і адначасова крытыкуюць паланізацыю Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд, якую планавалі і праводзілі ягоныя паслядоўнікі.

Варта сачыць і за з'яўленнем рэсурсаў быццам бы нацыяналістычнага кшталту, якія сваім радыкалізмам дыскрэдытуюць нацыянальныя ідэі ўнутры краіны і ў свеце.

**Аперацыя «Інфекцыя»**

Класічным прыкладам «чорнай» прапаганды з'яўляецца савецкая аперацыя «Інфекцыя». У 1983 годзе індыйская газета *The Patriot*, якую фінансаваў КДБ, апублікавала артыкул, у якім абвінавацiла ЗША ў стварэнні і распаўсюджванні віруса СНІД. Потым яго перапосцілі многія іншыя выданні, пасля чаго ўжо як «паважаная заходняя публікацыя» ён з'явіўся ў савецкіх газетах.

Падобную гісторыю ўжо ў наш час запусцілі праз сайт *Pravda.ru*, які «паведаміў», што 20 украінскіх жаўнераў памерлі ў Харкаўскай вобласці ад смяротнага віруса, занесенага з ЗША. Праз некалькі тыдняў эпідэмія «смяротнага віруса» кудысьці прапала, аднак «асадачак», які застаўся, замацаваў у свядомасці многіх чытачоў расійскіх СМІ вобраз украінскіх жаўнераў, на якіх амерыканскія дактары-забойцы ставяць нацысцкія эксперыменты.

Зусім нядаўні выпадак адбыўся з удзелам ананімнага сайта www.belvpo.com, які называе сябе беларускім праектам. У маі 2016 года сайт апублікаваў артыкул «Літва испытывает біологическое оружие на своих военных». Артыкул вельмі хутка і шырока распаўсюдзілі пракрамлёўскія СМІ.

**Каб паспяхова супрацьстаяць прапагандзе падобнага кшталту, варта:**

— імкнуцца да больш якаснай працы нацыянальных СМІ, падвышаць іх аўтарытэт высокім узроўнем аб'ектыўнасці матэрыялаў,

— спрыяць дыялогу розных груп унутры краіны, вучыцца будаваць адзіную нацыю нават часта нязгодных паміж сабой людзей.

# 91-гадовы ветэран вайны прыйшоў на пікет Дашкевіча, каб паставіць подпіс за нацыянальны сцяг



Мікалай Макаравіч разам з жонкай, фота Мікалая Аўтуховіча.




«Ён адмыслова для гэтай місіі надзеў усе баявыя ўзнагароды, а на развітанне ўзняў над Менскам бел-чырвона-белы сцяг. Ён выглядаў велічна».

У суботу 1 кастрычніка інтэрнэт ускалыхнуў допіс Змітра Дашкевіча, які расказаў у фэйсбуку, што падпісацца за нацыянальны сцяг прыехаў 91-гадовы ветэран.

«Ён адмыслова для гэтай місіі надзеў усе баявыя ўзнагароды, а на развітанне ўзняў над Менскам бел-чырвона-белы сцяг. Ён выглядаў велічна — нават «воўчая зграя» не асмелілася кінуцца да яго і скласці пратакол», — так апісаў падзею Дашкевіч.

А на наступны дзень «Наша Ніва» наведалася ў госці да састарэлага партызана — Мікалай Сурын жыве са сваёй 75-гадовай жонкай непадалёк ад Малінаўкі.

Гаворыць Мікалай Макаравіч павольна, удумліва — узрост. Свой расповед ён пачаў з падзеяў вайны, якую сустрэў падлеткам у роднай вёсцы ў Чашніцкім раёне, а скончыў — у Заходняй Украіне.

Тады, у 1943 годзе, усім у ягонай кампаніі споўнілася па 18 гадоў, і яны вырашылі, што ўжо дастаткова дарослыя, каб узяць у рукі зброю — трапілі ў брыгаду імя Аляксея Данукалава.

«Нас было трое, — прыгадвае мужчына, — адзін, самы жвавы, пайшоў у лес шукаць партызан, знайшоў, і мы сабралі пажыткі ды пайшлі да іх у лес. Там нас сустрэў дазор з вялізным нямецкім кулямётам.

## Біў бандэраўцаў, партызаніў на Віцебшчыне, на памяць чытае Багдановіча

Нам сказалі, што мы яшчэ малыя, а мы ім у адказ: дык нам жа па 18! Ну і доўга нас ніхто не адгаворваў, засталіся».

Пасля былі першыя баі, «рэйкавая вайна», страта сяброў — з іх траіх дадому вярнуўся толькі ён.

«Мы дыверсіі розныя рабілі, шкодзілі акупантам. Найбольш запомніўся момант, як пільнавалі нямецкую калону — замаскіраваліся абапал дарогі, давай чакаць. А там і немцы ехалі, мы іх з засады пастралялі, 15 машын спалілі! А яны потым у адказ па нас з мінамётаў. Кагосьці і пахаваць давялося... А потым неяк з кальца выходзілі, немцы на нас супрацьпяхотныя бомбы скідалі — ляціць нібы скрынка такая, рассыпаецца потым. І вось такая ўзарвалася каля майго сябра, з якім разам у лес пайшлі, — бачу, яго ўжо на нямецкім шынялі параненага нясуць. Я да медыкаў прыйшоў, што яго аперавалі, гляджу, а ў Жоржыка вышэй за калена нага наскрозь прабітая. Я вярнуўся на пазіцыі, а яго жывым болей і не пабачыў», — кажа Мікалай Макаравіч. Другі сябар загінуў недзе на Захадзе, далучыўшыся пры наступленні да рэгулярнага войска.

З вайны ў Мікалая Макаравіча ёсць толькі адзін здымак — стаіць на палічцы побач з кнігай Уладзіміра Арлова.

«Вось такі і быў, — паказвае фота ветэран, — колькі маладым перажыў усяго! Памятаю, сам суправаджаў у тыл параненых ва Ушачы — была такая партызанская медыцынская служба, праўда, у кіно пра яе не кажуць: пару коней, за імі яшчэ адзін, а паміж імі штосьці накшталт насілак, ну і канвой, канечне. Вось так ішлі толькі ноччу, па грэблях — гэта калі на дрыгве бярвенне мосціш, каб коні не танулі, але ўсё адно выцягваеш. І вось потым я сам захварэў на тыф, сілы пакінулі, а лазарэт наш захапілі немцы. Але яны не зразумелі, што мы партызаны — адправілі ў аўстрыйскі лагер для працоўных, а не ваеннапалонных».

Тым часам бацьку юнага партызана на радзіме немцы ўжо пасадзілі ў турму — Мікалай Макаравіч расказвае гісторыю пра падступныя гульні паліцыі.

«Сем'і ж як рабілі: калі хто ў партызанах, дык казалі, што гэны загінуў ужо недзе ці яшчэ як. Але немцавы прыслужнікі хітрылі. Зайшоў такі адзін да майго бацькі і кажа: Мікола просіць махоркі перадаць. Бацька паверыў і прынёс яму самасаду, а на наступны дзень па яго ўжо прыехалі — ён так выдаў, што я насамрэч жывы і партызаню», — прыгадвае Мікалай.

Потым ягоны бацька яшчэ выйдзе і павое, але загіне ад раненняў.

Дарэчы, чашніцкі бургамістр (супрацоўнік акупацыйнай адміністрацыі) разам з сынам — сябрам Мікалая — таксама пайшлі ў партызаны і загінулі, ваюючы з немцамі, але пра гэта хлопец даведаўся ўжо потым, калі вызваліўся з аўстрыйскага лагера і патрапіў разам з войскам у Заходнюю Украіну.

«Недзе пад Мукачава нас накіравалі ў вёскі супакойваць бандэраўцаў, што там лютавалі.

Працяг на старонцы 6.




Мікалай Сурын справа.

# 91-гадовы ветэран вайны прыйшоў на пікет Дашкевіча, каб паставіць подпіс за нацыянальны сцяг

Працяг са старонкі 5.

Мы там багата байцоў страцілі. Я тады ўжо ведаў, што яны супраць і тых, і тых ваююць, але неяк не разумеў. Хаця большасць мясцовых іх падтрымлівала, не прымала савецкую ўладу», — прыгадвае ветэран.

Ва Украіне Мікалай ваяваў з 1945 па 1948 год, а потым вярнуўся да цывільнага жыцця.

Лёс занёс у Кабардзіна-Балкарыю, дзе ён разам з сябрам-беларусам спрабаваў паступіць на прэстыжны геолага-выведвальны факультэт, але правалiўся, бо там не далі веры двум беларусам, якія пабывалі за мяжою ў палоне, — давялося ісці на настаўніцкі факультэт у іншую ВНУ.

«Мы на другой спробе вырашылі не пісаць у анкеце, што былі ў палоне, — кажа Мікалай Макаравіч, — нас узялі, але на лекцыях увесь час усім нагадвалі, што выявяць тых, хто ўтойвае. У выніку на 3-м курсе выклікалі ў аддзел кадраў, там сядзеў чэкіст, лацкан адцягнуў, паказаў свой значык, пагаварылі, але мяне ўжо не адлічылі».

На чужыне хлопец зацікавіўся фатаграфіяй, а потым вярнуўся ў Беларусь, працаваў у тэатральным інстытуце ды шмат дзе.

Тут ужо пачаў цікавіцца і нацыянальнай гісторыяй — у гэтай цікавасці вытокі таго, што ён на 92 годзе прыехаў аддаць свой подпіс за нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг.

«Я лічу што гісторыю нельга вераломна перакройваць, сцяг гэты забараняць, ён жа ж быў, калі ў Беларусі абвясцілі першую рэспубліку! А герб «Пагоня» — дык зусім спрадвеку нашанскі. Так вось сімвалы забаранілі, цяпер мову калечаць — гэтак і нацыя знікне», — кажа ветэран і дадае, што за Саветамі пра нацыянальныя сімвалы даведацца было цяжка, таму да ўсведамлення іх каштоўнасці ён прыйшоў пакрысе, вывучаючы розныя крыніцы.

А ў адказ на звыклую прэтэнзію, што пад бел-чырвона-белым сцягам хадзілі паліцаі, ветэран кажа, што за часамі вайны ніколі такога не бачыў, але самой магчымасці не выключае — кажа, што няма чаго пра гэта цяпер думаць, бо тады рознай навалачы хапала, якая чым заўгодна не грэбавала, не тое што сцягам.

«Партызанаў таксама парознаму ўспрымаць можна. Былі і такія, пра якіх казалі, што ўдзень немцы прыходзяць рабаваць, а ноччу — яны. Што ў паліцыю, што ў партызаны, таксама розныя зладзюгі ішлі, якім вайна — маці родная, абы накрасці, а сцягам якім заўгодна прыкрыцца былі гатовыя. Памятаю, ужо пры канцы вайны, як парадку стала больш, за марадзёрствы партызаны самі ж сваіх проста расстрэльвалі — каб іншых застрашыць, а як там напачатку вайны было, дык і цяжка падумаць», — мяркуе ветэран.

Кажа таксама, што партызаны звычайна заходзілі браць «на патрэбы» да сваякоў тых, хто служыў паліцыі.

Таксама ветэран мяркуе, што фармат сучаснага свята Перамогі трэба змяніць.

«Каб не так пампезна адзначаць — штосьці ў гэтым ёсць. Забываць не варта, канечне, як мы тую чуму адолелі, але і прыдумаць штосьці іншае, каб больш смутку было, памяці», — кажа Мікалай Макаравіч і расказвае таксама, што, хаця і ваяваў пяць гадоў, медаля «За перамогу над Германіяй» так і не атрымаў: той, хто афармляў спіс, не ўключыў Сурына, ці то забыўшыся, ці то палічыўшы, што партызаніць — гэта не ваяваць.

Таксама Мікалай Макаравіч не ўхваляе папулярызацыю г.зв. «лініі Сталіна» — кажа, што тая «лінія» ў вайне ніякай ролі не адыграла, а праз загады Сталіна людзей несправядліва саджалі ды забівалі і ўсяляк інакш здзекаваліся. Чаго яго хваліць тады?

Не бачыць плёну ён і ў інтэграцыі з Расіяй: маўляў, трэба з Еўропай шчыльней супрацоўнічаць, багацейшымі будзем.

Але ўсё ж гаварыць шмат 91-гадоваму ветэрану не лёгка, часам свае словы ўстаўляе і жонка — настаўніца гісторыі Тамара Антонаўна.

Яна расказала, што ў іхняй кватэры некалі збіраліся цэлыя літаратурныя бяседы: сын Бураўкіна, яе дачка, яшчэ моладзь. Чыталі разам вечарамі Караткевіча, Блока ды іншых.

Таксама жанчына дадала, што яны з Мікалаем Макаравічам маюць поўныя зборы твораў бадай што ўсіх беларускіх пісьменнікаў ды яшчэ і з аўтографамі! Ейны муж дагэтуль можа прачытаць на памяць «Веранiку» Багдановіча, а сама яна таксама пакінула подпіс за наданне бел-чырвона-беламу сцягу статусу каштоўнасці.

«Я і сваім дзецям заўсёды ў школе казала, што гэта наш сцяг, а ў ВКЛ мова дзяржаўная была — старабеларуская. Пасля таго ганебнага рэферэндуму ў нашай школе павесілі чырвона-зялёны сцяг у «дзяржаўным кутку». Дык мае хлопцы ўсё яго зрывалі ды вешалі наш, а завуч даводзілася за свае грошы купляць новы і ўвесь час мяняць. Доўга так цягнулася, потым яна проста да мяне падышла ды папрасіла, каб я на клас паўплывала і пераканала больш так не рабіць, бо ў яе сын тады памёр, грошай бракавала, я яе пашкадавала», — расказала гісторыю з працоўных часоў Тамара Антонаўна.

Таксама яна прыгадала, што была знаёмая з усімі класікамі беларускай літаратуры. Некалі вучыла сына намесніцы міністра культуры, а тая разам з Быкавым, Караткевічам ды іншымі ляцела ў Амерыку. І яе сын, паграджаючы ўцячы з хаты, папрасіў узяць з той дэлегацыяй яго настаўніцу. Тады, маўляў, Барадулін сказаў, што вельмі добра, што ёсць такія настаўніцы, а яна запомніла ягоную пахвалу на ўсё жыццё.

А развіталіся Сурыны пасланнем да моладзі.

«Імкніцеся да лепшага жыцця, — сказалі яны, — больш ніколі вайны на нашай зямлі не дапускайце і кніжак чытайце болей».

**Арцём Гарбацэвіч**





**Фота, зробленыя Мікалаем. Такіх у яго сотні, на здымках ёсць і класікі беларускай літаратуры. Стары партызан усё наракае, што ніяк не можа выдаць альбом, бо чалавек, які ўзяўся, не можа давесці справу да розуму.**




**Пасярэдзіне — фота маладога Мікалая, зробленае недзе ў 1946 годзе.**



**Мікалай Сурын і Тамара Антонаўна з унукам колькі гадоў таму.**

# На фота трапіў чарговы прэзідэнцкі аўтамабіль — «Ролс-Ройс»

Такі можа каштаваць ад 170 да 380 тысяч еўра.



У сеціве з'явілася фота, зробленае на адной з заправак на трасе М1. На ім — Rolls-Royce Phantom Coupe з «прэзідэнцкімі нумарамі» — 001BY — у суправаджэнні спецпадраздзялення ДАІ «Страла». Першапачаткова фота было апублікаванае ў закрытым вайбер-чаце.

Як стала вядома Auto.tut.by з уласных крыніц, аўтамабіль з'явіўся ў прэзідэнцкім гаражы яшчэ ў 2009 годзе, нідзе асабліва не «свяціўся», але зрэдку з'яўляўся на дарогах недалёка ад Мінска. Пагаворваюць, што купэ Аляксандр Лукашэнка любіць кіраваць сам.

Удакладніць у прэс-службе кіраўніка дзяржавы, куды менавіта ён ездзіў на гэтай машыне па трасе М1, а таксама ці належыць яна Лукашэнку, пакуль не ўдалося.

# Міліцыя папярэдзіла арганізатараў «дзіцячага казацкага клуба» на Віцебшчыне, што працяг дзейнасці можа прывесці да іх дэпартацыі

«Наша Ніва» паведамляла пра спробы вывозіць беларускіх дзяцей у ваенізаваныя лагеры ў Расіі, дзе іх школілі ў тым ліку баевікі «ДНР». Дачыненне да гэтага мелі псеўдаказацкія структуры.

Другая публікацыя «Нашай Нівы» на тую ж тэму датавалася 16 верасня, калі выявіўся новы кіраўнік «беларускай дэлегацыі» на чарговых дзіцячых зборах пад кіраўніцтвам баевікоў Данбаса. Гэта быў расійскі казак Аляксандр Шаўчэнка, які раней ужо фігураваў у нашых расследаваннях як адзін з «выхавацеляў» пры «ваенна-патрыятычных» клубах Віцебскай епархіі.


Казак Шаўчэнка — у шапцы.

Цяпер гэты Аляксандр Шаўчэнка апублікаваў вялізны тэкст на сайце так званай карпарацыі «Енот», у якім прызнаў, што беларускія ўлады спынілі дзейнасць сумнеўных дзіцячых клубаў у Віцебску.

Шаўчэнка абвінавачў беларускія ўлады ў праследзе расійскіх арганізацый, а «Нашу Ніву»... у супрацоўніцтве з «Ісламскай дзяржавай».

«Найбольш абуральныя факты звязаныя з праследамі прарасійскіх грамадскіх арганізацый у выніку прамых даносаў «Нашай Нівы», — піша Шаўчэнка. Кіраўнікі і ўдзельнікі патрыятычных клубаў падвяргаюцца сістэматычнаму ціску, адзначае ён.

Напрыклад, дзіцяча-юнацкі ваенна-патрыятычны клуб з г. Віцебска, створаны ў 2011 членамі Віцебскага казацкага паста «Вароты Паазер'я» Тацціянай Гаўрылінай і яе мужам Міхаілам Гаўрылінам, «усе гэтыя гады паспяхова працаваў, набыўшы папулярнасць у мясцовай моладзі. Маючы цалкам афіцыйны статус, ён у розны час дзейнічаў у складзе розных дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. Сябры клуба неаднаразова выязджалі ў Расію для ўдзелу ў вайскова-патрыятычных мерапрыемствах». Паводле Шаўчэнкі, «ніякіх нараканняў з боку афіцыйных уладаў праца клуба не выклікала».

Далей Шаўчэнка расказвае, што сітуацыя змянілася пасля таго, як дзейнасць клуба заўважылі журналісты.

«У 2014 годзе без тлумачэння прычын віцебскі клуб быў адхілены ад удзелу ў Друцкіх зборах, прычым ініцыятарам гэтай акцыі стаў пробашч мясцовага друцкага праваслаўнага прыходу Алег Плаксіцкі. У 2015 годзе з-за схаванага і яўнага процідзеяння царкоўных чыноўнікаў клубу не ўдалося атрымаць афіцыйнага статусу ў рамках структур Віцебскай епархіі [насамрэч, у 2015 годзе клуб «казакоў» яшчэ гастраляваў на Віцебшчыне па лініі Віцебскай епархіі, тут Шаўчэнка проста спрабуе адвесці падазрэнні ад сваіх кантактаў — НН].

Але пасля вяртання з падмаскоўных збораў клуб зацкавала «Наша Ніва», да якой далучыліся афіцыйныя выданні.

Услед за гэтым афіцыйную праверку пачало Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь. Па яе выніках афіцыйна было абвешчана, што прэтэнзій да арганізатараў і ўдзельнікаў гэтай паездкі ў праваахоўных органаў няма, аднак у прыватнай гутарцы з кіраўнікамі клуба было сказана, што яны ўсё роўна застаюцца пад падазрэннем, і ў выпадку, калі яны яшчэ раз дадуць такога кшталту «інфармацыйную нагоду» для «белапазіцыі», да іх будуць прыняты меры, ажно да дэпартацыі з Беларусі. Фактычна гэта азначала забарону на працу з дзецьмі і моладдзю», — піша Шаўчэнка.

З гэтага часу тэлефоны членаў сям'і Гаўрылiных сталі праслухоўвацца, а электронная пошта — перыядычна ўзломваецца са знікненнем дасланых лістоў, сцвярджае Шаўчэнка.

«У выніку дзейнасць клуба прыпынілася і ён фактычна спыніў сваё існаванне», — піша Шаўчэнка і дадае, што «ніводная з арганізацый расійскіх суайчыннікаў, уключаючы казацкія аб'яднанні, пратэсту супраць цкавання членаў клуба не выказала. Абыякавымі засталіся і расійскія афіцыйныя асобы».

Пры гэтым Шаўчэнка піша, што той самы рэзанансны выезд адбыўся, калі клуб ужо перайшоў пад апеку віцебскай арганізацыі афганцаў, кіраўнік якой нават знайшоў сродкі, каб часткова пакрыць дзецям кошт паездкі.

Таксама Шаўчэнка глыбока прааналізаваў змест сайта «Нашай Нівы» і прыйшоў да высновы, што беларуская газета звязаная са структурамі «Ісламскай дзяржавы» — пра гэта «сведчыць» жнівеньскі перадрук з агенцтва *Reuters* пра паразу сілаў Асада пад Алепа.

Пры канцы свайго тэксту Шаўчэнка заклікае расійскіх дыпламатаў, спецслужбы і паліцыю РФ звярнуць увагу на «спрыянне беларускіх уладаў русафобскай дзейнасці «Нашай Нівы», як і ўсёй беларускай апазіцыі».

Пад артыкулам Шаўчэнка падпісвае сябе як «старшій научный сотрудник Інстітута соціології РАН, хорунжій Московского казачьего отряда им. Св.блгв. великого князя Александра Невского».

**Арцём Гарбацэвіч**

# «У аўтара сіфіліс мозгу!» — Чаргінец пра паэму аб ім

У 73-м нумары «Народнай волі» за 20 верасня выйшла сатырычная паэма за аўтарствам Макара Друкара (псеўданім невядомага) пад назвай «Даў заданне Праўдзівы напісаць «Вайну і мір».

Вершаваная паэма адлюстроўвае літаратурныя працэсы ў Беларусі. Паводле сюжэта, старшыню праўладнага саюза творцаў Трындунца (алюзія на Чаргінца) выклікае да сябе Правадыр і дае загад напісаць штосьці роўнае «Вайне і міру», інакш той трапіць у няласку.



Ад безвыходнасці члены саюза выклікаюць дух Караткевіча, каб папрасіць яго надыктаваць геніяльны твор.

Але той злосна адмаўляе, пасля чаго ў сне Трындунец трапляе на Парнас, дзе бачыць Быкава, Караткевіча, Танка ды іншых, і ўцякае ад іх.

Заканчваецца паэма тым, што Чэхаў і Талстой пераконваюць Трындунца ў ягонай уласнай адоранасці і той сядае пісаць твор пад назвай «Правадыр».

«Наша Ніва» запыталася ў старшыні пралукашэнкаўскага Саюза пісьменнікаў Мікалая Чаргінца, што ён думае пра паэму.

«Я паглядзеў гэта... Скажу словамі Чэхава: калі вас пакусаў сабака, гэта не значыць, што трэба адказваць яму тым жа», — сказаў Чаргінец, пасля чаго выказаўся пра аўтара даволі рэзка.

«Нейкі недапечаны, у якога імя няма нават — гэта ж псеўданім аўтара! Гэта прыдурак! Сіфілісам заражаны! Памойму, у яго сіфіліс мозгу, а яго перадрукаваў [... — эпітэты выдаленыя рэдактарам НН] Новікаў [Аляксандр Новікаў — літаратурны крытык]. Вось і ўся ацэнка. Што там цікавага ёсць апроч хамства, таннага прычым? Апроч зайздрасці? Бяздарныя словы, літаратурай і не пахне, верша і блізка няма. І грош цана такой газеце, якая гэта друкуе», — разышоўся Чаргінец.

Таксама мы яго спыталі, як ён будзе вырашаць пытанне, абазначае ў паэме — загад «Правадыра» стварыць твор на ўзроўні «Вайны і міру».

«Слухайце, трэба ж правільна разумець: Лукашэнка меў на ўвазе творы, якія могуць расцэньвацца як «Вайна і мір», — сказаў Чаргінец. — І мы такога ж меркавання. У нас ёсць свае кнігі і пісьменнікі. Гэта кнігі Быкава, і Шамякіна, і Танка, і многіх іншых. А наш сучасны пісьменнік! Пачытайце Ільінскага «Шапка Мономаха», Гніламёдава «Расія», пачытайце Бандарэнку пра Першую сусветную вайну, Марчука, Матвіенкі «Авіяносец Калчак». Гэта выбітныя творы, якія могуць выходзіць у свет».

Таксама Мікалай Чаргінец дадаў, што «той паўдурак», які напісаў твор, наадварот, мусіў ганарыцца беларускай літаратурай, але прамяняў гонар на ганарар ад «Народнай волі».

«Гэта не ўвойдзе ў аналы гісторыі беларускай літаратуры, і мае калегі таксама плюнулі ў той бок», — рэзюмаваў Чаргінец.

**АЯ**

# Двое бізнэсменаў са спісу найбагацейшых людзей Расіі «прадалі» бабулі Аліны Кабаевай кватэры

Двое бізнэсменаў, якія ўваходзяць у спіс найбагацейшых людзей Расіі па версіі *Forbes* — Генадзь Цімчанка і Пётр Колбін, — прадалі тры кватэры ў элітных раёнах Масквы і Санкт-Пецярбурга бабулі старшыні рады дырэктараў «Нацыянальнай медыягрупы», алімпійскай чэмпіёнкі па мастацкай гімнастыцы Аліны Кабаевай. Дакументы, якія пацвярджаюць факты здзелак, ёсць у распараджэнні тэлеканала «Дождь».

Гаворка ідзе пра дзве кватэры ў доме на Арбаце ў Маскве і кватэру ў доме з відам на Петрапаўлаўскі сабор у цэнтры Санкт-Пецярбурга. Згодна з выпіскамі з адзінага дзяржаўнага рэестра правоў на нерухомую маёмасць, гэтая нерухомасць у снежні 2015 года была пераафармлена бізнэсменамі Генадзем Цімчанкам і Пятром Колбіным



на імя Ганны Зацапілінай. Так клічуць бабулю Аліны Кабаевай.

Плошча дзвюх суседніх двухпакаёвых кватэр Зацапілінай у Маскве — 601 квадратны метр; плошча пецярбургскай нерухомасці — 211 квадратных метраў.

Па адрасе Арбат, 18, дзе былі кватэры Колбіна, размешчаны сяміпавярховы дом клубнага тыпу з відам на Стары Арбат. У 2009 годзе «Новая газета» пісала, што ў будынку размешчана ўсяго 10 кватэр. Дом на Мытнінскай набярэжнай, 3 у Санкт-Пецярбургу знаходзіцца насупраць вострава, дзе размешчана Петрапаўлаўская крэпасць. Трохпавярховы дом пабудаваны ў 1899 годзе, у 2002 годзе да яго была дабудавана двухпавярховая мансарда. Да рэканструкцыі гісторык архітэктуры Андрэй Пунін залічваў дом да «найлепшых узораў позняй эклектыкі на Петраградскім баку».

Гэта не ўся элітная нерухомасць, якая перайшла Зацапілінай у апошні час. У сакавіку 2016 года агенцтва *Reuters* апублікавала матэрыял пра партнёра Аркадзя Ратэнберга Рыгора Баеўскага, які, як сцвярджаюць журналісты, перадаваў або прадаваў нерухомасць некалькім жанчынам, «звязаным з прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным».

Спасылаючыся на матэрыялы міжнароднай Арганізацыі журналістаў-следчых, агенцтва расказала, што Баеўскі перадаваў элітную нерухомасць Кацярыне Ціханавай (яе *Reuters* раней называла малодшай дачкой расійскага прэзідэнта), студэнтцы Алісе Харчовай, якая пазіравала для календара да дня нараджэння Пуціна, і дзвюм сваячкам Аліны Кабаевай — сястры Лейсан Кабаевай і бабулі Ганне Зацапілінай. Тады прэс-сакратар прэзідэнта РФ Дзмітрый Пяскоў адмовіўся каментаваць матэрыял *Reuters*, назваўшы яго «інфармацыйным укідам», які быў ажыццёўлены з мэтай «разгайдаць сітуацыю ў краіне».

**tvrain.ru**

# «Мачы казлоў, ратуй Расію»

З такімі крыкамі «Ветэраны Данбаса» разграмілі выставу беларускага фатографа ў Маскве.

Скандалам была адзначаная выстава Аляксандра Васюковіча.

Яна прайшла ў Сахараўскім цэнтры, выстаўлены былі работы з праекта «Фота на памяць».

Васюковіч паказаў публіцы фатаграфіі ўкраінскіх вайскоўцаў, зробленыя ў зоне антытэрарыстычнай аперацыі ва Украіне. Асаблівасць фотаў у тым, што на іх адзначана, каторы з воінаў загінуў.

28 верасня ў будынак увярваўся чалавек, які абліў некалькі фатаграфій фарбай з балончыкаў. Ён назвася «кандыдатам філасофскіх навук, мастаком Антонам Белікавым».

«Застенчівый фашист, улыбчівый гаденыш», — зневажаў беларускага фатографа нападнік. Гэтым не скончылася. Не паспеў Васюковіч адысці ад першага налёту, як на выставу заявіліся сябры арганізацыі «Саюз добраахвотнікаў Данбаса». Гэтыя проста парвалі экспанаты і запатрабавалі выклікаць дырэктара.

З «ветэранамі Данбаса» быў мясцовы дэпутат Дзмітрый Захараў са слоікам чырвонай фарбы, на якой было напісана: «Кроў дзяцей Данбаса, забітых украінскай арміяй».

Фатограф Аляксандр Васюковіч здымае для партала «Тут.бай».

«Шкада, што людзі не спрабуюць разабрацца ў чымсьці, а бачаць тое, што хочуць бачыць. Гэта проста яшчэ адно сведчанне таго, у які час мы жывём, — сказаў Васюковіч «Нашай Ніве». — Ну і вельмі радуе, што на адкрыцці і сустрэчы са мной прыйшло людзей значна больш. Ніякага страху я не адчуваю, — падкрэсліў Васюковіч. — Калі мне трэба будзе зноў ехаць у Маскву, то я паеду. Гэтая серыя нясе цалкам антываенны пасыл. Таму яе не любяць прыхільнікі вайны з абодвух бакоў», — адзначыў фатограф.




**Васюковіч паказаў публіцы фатаграфіі ўкраінскіх вайскоўцаў, зробленыя ў зоне антытэрарыстычнай аперацыі ва Украіне. Асаблівасць фотаў у тым, што на іх адзначана, каторы з воінаў загінуў.**

**Андрэй Дынько**

# У расійскага палкоўніка паліцыі канфіскавалі тону даляраў

Дагэтуль няясна, чыю «чорную касу» — трымаў гэты чалавек.

Палкоўніка Дзмітрыя Захарчанку затрымалі 9 верасня. Пры ператрусах у яго было канфіскавана больш за 120 мільёнаў даляраў і два мільёны еўра — сума эквівалентная дзевяці мільярдам расійскіх рублёў. Было падлічана, што вага грошай перавышала тону!

38-гадовы Захарчанка таксама, як сцвярджаецца, меў 300 мільёнаў даляраў на рахунках у замежных банках, заведзеных на імя свайго бацькі.

СМІ дагэтуль разыходзяцца ў ацэнках, што за чорную касу трымаў гэты палкоўнік.

**СГ**



# Дзяўчына, якая дала адпор рабаўніку з пісталетам: «Чаму грошы не аддала? Я і сама не ведаю…»

Мужная дзяўчына з Мінска, якая дала адпор узброеным рабаўнікам ламбарда, распавяла «Нашай Ніве» падрабязнасці незвычайнай гісторыі.

Яўгенія Анíковіч, таваразнаўца па адукацыі, працуе прыёмшчыцай тавару ў мінскіх ламбардах з 2011 года. У пачатку ліпеня 24-гадовая дзяўчына ўладкавалася на новую працу ў адну з устаноў сеткі «Плацінум-ламбард».

На той момант яна і ўявіць сабе не магла, што праз пару месяцаў, увечары 15 верасня, да яе завітае не чарговы кліент з гадзіннікам ці тэлефонам, а самыя сапраўдныя рабаўнікі з пісталетам.

Мужчыны — а іх было двое — з'явіліся ў невялікім памяшканні на праспекце Пушкіна каля 8 вечара.

«На той момант кліентаў у ламбардзе больш не было. Адзін застаўся каля дзвярэй — ці то пільнаваць, каб ніхто не ішоў, ці то яны ведалі, колькі прыкладна трэба службе аховы, каб прыехаць, турбаваліся пра гэта. Другі адразу накіраваўся да мяне. Падышоў да акенца, нацягнуў на галаву капюшон і наставіў на мяне пісталет», — распавяла «Нашай Ніве» Яўгенія.

На руках у мужчыны былі сінія медыцынскія аднаразовыя пальчаткі, такія прадаюцца ў кожнай аптэцы. Рабаўнік адразу пачаў патрабаваць у дзяўчыны, каб тая аддала яму грошы.



«Што ён там даслоўна казаў, я і не памятаю ўжо: была ў шоку, такое адчуванне, што гэта ўсё ці то не на самай справе, ці то не са мной адбываецца. Больш-менш узгадала наш дыялог, толькі калі сама паглядзела тое відэа», — усміхаецца сёння Яўгенія.

Праўда, на той момант ёй было не надта смешна.

«Пісталет, хутчэй за ўсё, быў несапраўдны: муляж альбо цацачны. Праўда, пра гэта я даведалася ўжо пасля, мне распавёў следчы — кажа, што сапраўдная зброя цяжкая і халодная. А ў рабаўніка пісталет быў цёплым і лёгкім. Але ж тады я не ведала, сапраўдны ён ці не», — кажа дзяўчына.

На той момант у касе ламбарда было каля 2 тысяч рублёў (20 мільёнаў «старымі» грашыма). Плюс золата. Але рабаўнік патрабаваў, каб Яўгенія аддала яму толькі пачак дзесяцірублёвак.

«Больш нічога не хацеў. Не ведаю чаму, — паціскае плячыма дзяўчына. — У тым пачку было недзе рублёў трыста-чатырыста, не больш».

Чаму яна адмовілася аддаваць злачынцу грошы, Яўгенія і сама не ведае. Кажа, было вельмі страшна, цалкам верылася, што мужчына можа і стрэліць у яе. Аднак, нягледзячы на страх, штосьці вось унутры «перамкнула» — і ўсё, кажа яна.

«Чаму грошы не аддала? Не ведаю нават, пра што я ў той момант думала. Я ж ніколі не магла і ўявіць, што траплю ў такую сітуацыю, таму плану, як сябе паводзіць, у мяне не было. Так вось проста атрымалася, што не аддала, што рызыкавала жыццём за чужыя грошы. Чаму — і сама не разумею», — смяецца Яўгенія.

Падчас «перамоў» са злачынцам дзяўчына зразумела, што той п'яны.

«Ды і потым было бачна, што ён расслабіўся і толькі палохае, страляць не будзе. І я паспрабавала выхапіць у яго пісталет, праўда, не выйшла, — кажа Яўгенія. — Ну і ён пачаў мне пагражаць трошкі: маўляў, вы прыгожая, а зараз сабе нашкодзіце... Я яму адказваю: вы ж таксама прыгожы малады чалавек, але што ж вы робіце?»

Дзяўчына працягвала размаўляць з рабаўніком, бо чакала службу аховы.

«Я адразу выклікала ахоўнікаў, націснуўшы кнопку, як толькі ўбачыла пісталет, — тлумачыць яна. — Ну і цягнула час размаўляючы, каб гэтых паспелі затрымаць».

Праўда, мужчыны паспелі збегчы да прыезду аховы.

«Не ведаю, колькі ахоўнікі ехалі. Шчыра, для мяне ўся тая сітуацыя цягнулася нібы вечнасць», — прызнаецца Яўгенія.

Ад гэтай гісторыі дзяўчына адыходзіла цяжка. Кажа, думала пра ўсё гэта яшчэ некалькі дзён. Яна жыве з бацькамі, цяпер маці, канечне, хвалюецца. Аднак хадзіць на працу Яўгенія не баіцца і мяняць яе таксама не збіраецца.

«Не, звальняцца не думаю. Папрасіла свайго хлопца сустракаць мяне ў 10 вечара, калі ламбард зачыняецца, ды і ўсё», — кажа яна.

Заробак у дзяўчыны невялікі — каля 6 мільёнаў рублёў.

«Той з пісталетам казаў жа мне: «Давай, зайка, мне грошы, а то я мала зарабляю». А я ж яму адказала: «Я таксама працую тут за капейкі, дык што, мне таксама ламбарды рабаваць?» — пасміхаецца Яўгенія.

Па вялікім рахунку, гэтая гісторыя не толькі напалохала Яўгенію, але і надала ёй упэўненасці ў сабе.

«Што, калі штосьці такое здарыцца яшчэ раз? Не ведаю. Можа, балончык сабе куплю, на будучыню, можа, яшчэ штось. Карацей, прыдумаю, што рабіць, — смяецца дзяўчына. — Ужо буду гатовая!»

**Улад Швядовіч**

# Праваабаронцы: Амапаўцы збівалі падлеткаў і пагражалі сэксуальным гвалтам

**Да праваабаронцаў-вясноўцаў звярнулася мама непаўналетняга А., якая расказала, што яе сына і яго сябра М. супрацоўнікі мінскага АМАПу збівалі ў аўтазаку і пагражалі сэксуальнай расправай.**

Увечары 18 ліпеня 2016 непаўналетнія А. і М. гулялі па Цэнтральным раёне г. Мінска, выпілі невялікую колькасць алкагольных напояў, трохі пазней пазнаёміліся з кампаніяй падлеткаў. Калі апошнія даведаліся, што хлопцы выпівалі, папярэдзілі, што недалёка знаходзіцца аддзяленне міліцыі, і параілі ісці на найбліжэйшы прыпынак грамадскага транспарту.

А. і М. паслухаліся парады, аднак не паспелі дайсці да месца, як іх паклікалі супрацоўнікі АМАПу. Хлопцы спалохаліся затрымання, сталі ўцякаць. Праз некаторы час яны палічылі, што іх больш не даганяюць, спакойным крокам працягнулі ісці да прыпынку. Але нечакана да іх ззаду падбег супрацоўнік АМАПу і беспадстаўна ўдарыў кулаком у галаву М., з-за чаго той упаў. А. стаў зноў уцякаць, аднак вярнуўся і ўбачыў, што М. усё яшчэ ляжыць на зямлі і ў яго пад вокам велізарная гематома.



Ілюстрацыйнае фота.

Пасля гэтага хлопцаў пагрузілі ў аўтазак і павезлі на медыцынскі агляд. У спецмашыне знаходзіліся яшчэ трое непаўналетніх затрыманых хлопцаў.

Калі аўтазак крануўся, А. падышоў да супрацоўніка АМАПу Ш. і хацеў папрасіць, каб машыну спынілі, таму што яму стала кепска. Машына стала прытармажваць, А. проста не ўтрымаўся і зваліўся на Ш.

Пасля гэтага, сцвярджае мама падлетка, амапаўцы пачалі рукамі і нагамі біць па галаве і тулаве не толькі А., але і яго сябра М., затым паклалі іх тварам у падлогу, надзелі кайданкі за спінай і працягнулі збіваць.

Збіццё працягвалася доўга, але самае горшае пачалося, калі трое сведкаў, што сядзелі ў аўтазаку, пакінулі яго. Да хлопцаў наблізіўся адзін з супрацоўнікаў АМАПу і выказаў шкадаванне, што ім няма 18 гадоў, інакш ён з задавальненнем бы ажыццявіў над імі гвалтоўны анальны палавы акт і ў будучыні яны ў месцах пазбаўлення волі сталі б асобамі з нізкім сацыяльным статусам. Пасля такіх пагроз іх стрыножылі тварам уніз, пачуўся гук здыманых штаноў, М. і часткова А. на галовы палілася нейкая вадкасць.

Пасля неаднаразовых скаргаў у юнакоў былі ўзяты зрэз валасоў, і генетычная экспертыза пацвердзіла на галаве сляды мачы. Аднак праверка не змагла выявіць, хто канкрэтна з супрацоўнікаў праваахоўных органаў гэта зрабіў.

Гвалтоўныя дзеянні ў дачыненні да хлопцаў таксама пацвярджаюцца вынікамі медыцынскага агляду і паказаннямі сведак.

«Майго сына цяпер абвінавачваюць у крымінальным злачынстве — гвалце ў дачыненні да супрацоўніка АМАПу, які выявіўся ў нанясенні яму ўдару па твары», — кажа мама А.

Яна лічыць, што пасля таго, як амапаўцы ўсвядомілі, што нарабілі, яны напісалі заяву на непаўналетніх А. і М., аднак пазней сказалі, што біў толькі адзін — менавіта яе сын.

Як сцвярджае пацярпелы супрацоўнік АМАПу Ш., пасля таго, як аўтазак крануўся, хлопец падняўся з лаўкі, падышоў і ўдарыў яго па твары.

Таксама на падлеткаў склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт. 17.3 КаАП, дзе стандартнымі выразамі гаварыцца: «знаходзіўся ў п'яным выглядзе ў грамадскім месцы».

Праваабаронцы ў сваім паведамленні ўказваюць прозвішчы трох супрацоўнікаў АМАПу, якія маюць дачыненне да інцыдэнту.

Амапаўцы сцвярджаюць, што не наносілі юнакам ніводнага ўдару.

Мама А. ужо звярнулася са скаргамі аб неправамерным ужыванні фізічнай сілы супрацоўнікамі АМАПу да А. і М. у пракуратуру, Міністэрства ўнутраных спраў і Следчы камітэт.

Жанчына знайшла старонкі ў сацыяльнай сетцы супрацоўнікаў АМАПу і здзівілася, колькі агрэсіі ў іх статусах і на фотаздымках.

Праваабаронца Павел Сапелка падкрэслівае: «Незалежна ад таго, ці з'яўляюцца непаўналетнія вінаватымі ў правапарушэннях, прымяненне ў дачыненні да іх жорсткага, бесчалавечнага, зневажальнага абыходжання недапушчальна».

**Паводле spring96.org**

# Назіра і Мансур: чаму яны бягуць?


Назіра з дзецьмі.

Удзень 23 верасня на пляцоўцы перад пешаходным мостам, што вядзе на брэсцкі чыгуначны вакзал, паціху пачынаюць збірацца чачэнцы. Гэтыя людзі ўжо не першы месяц намагаюцца выехаць праз Брэст у Польшчу. Агулам прыходзіць больш за сотню чалавек. Чачэнцы збіраюцца ў чаканні гуманітаркі з Мінска — праваабаронцы і простыя людзі павінны прывезці ім цёплых рэчаў.

Апранутыя чачэнцы сапраўды лёгка: многія ў кашулях ці лёгкіх вясновых куртках, на нагах — шлёпанцы. Ніхто не разлічваў, што ў Брэсце ім прыйдзецца сядзець восенню, людзі планавалі з'ехаць у Еўропу яшчэ ўлетку.

Пераважная большасць тых, хто прыйшоў, — жанчыны і дзеці.

«Там, дзе шмат жанчын, шмат мужчын не будзе, — афарыстычна кажа нам адна з чачэнак. — Дый ганебна гэта для мужчыны — па драбязу хадзіць».

Неўзабаве пад'язджаюць міліцыянты. Даведаўшыся, што валанцёры будуць раздаваць рэчы бежанцам, міліцыянты выказваюць спадзеў, што гэта не зацягнецца надоўга. Валанцёры абяцаюць укласціся ў паўгадзіны.

Але машына з гуманітаркай затрымліваецца. У чаканні яе чачэнскія жанчыны падыходзяць да журналістаў са сваімі праблемамі. Хтосьці просіць, каб падказалі, дзе знайсці якую працу ці падпрацоўку, бо грошы ўжо сканчаюцца. Хтосьці скардзіцца на стаўленне да іх мясцовых.

«Мне ў мясцовай бальніцы адмовілі ў прыёме ў гінеколага. Нават за грошы не хочуць прымаць, УГД зрабілі — і ўсё», — кажа Таіта.

Яна цяжарная, пайшоў ужо 9-ы месяц. Дзе будзе нараджаць дзіця, і сама пакуль не ведае. На здымнай кватэры яе чакаюць яшчэ двое малых.

«Куды ісці? Ніхто не дапамагае. Нават Чырвоны Крыж», — паціскае плячыма Таіта.

Да мясцовага аддзялення Чырвонага Крыжа сапраўды чуваць шмат прэтэнзій. Актывісты, якія дапамагаюць чачэнцам, распавялі, што ў Чырвоным Крыжы ім адказалі так: «Дык калі мы будзем займацца чачэнцамі, іх яшчэ больш сюды пасунецца!»

Таксісты, якія чакаюць ля вакзала кліентаў, таксама пацвярджаюць, што беларуская талерантнасць — міф.

«Загнаць бы тых чачэнцаў у хлеў ды спаліць усіх, — дзеліцца думкамі адзін. — Што яны лезуць сюды?»

«Ды нічога, зараз пахаладае, дык яны і перадохнуць», — супакойвае яго калега.

Праўда, некаторыя з таксістаў ужо засвоілі новы від заробку. Некаторыя адвозяць у Чачню сем'і, якім тэрмінова трэба вярнуцца. Двое кіроўцаў нядаўна завезлі адну сям'ю проста ў Грозны. За некалькі дзён дарогі туды-назад таксісты зарабілі 500 даляраў на дваіх. Кажуць, з'ездзілі нармальна, без эксцэсаў, яшчэ і пачастункі прывезлі: кавуны і аджыку. А для чачэнцаў ехаць такім чынам і танней, і хутчэй, і зручней, чым цягніком з перасадкамі.

Але ж з'ехаць у Еўропу праз Брэст намагаюцца не толькі чачэнцы. Адна з жанчынаў расказвае, што яна курдка з Грузіі. Сцвярджае, што з яе нацыянальнасцю нармальнага жыцця ў Грузіі няма.

Тым часам пад'язджае машына з гуманітарнай дапамогай. Акрамя абутку і вопраткі, у ёй памперсы, трохі лекаў і цацак. Вопраткі шмат — прычэп (які, дарэчы, бясплатна пазычыла сетка заправак А-100) запоўнены цалкам. Валанцёры арганізоўваюць некалькі «пунктаў» проста на газоне: у адзін зносяць дзіцячыя і жаночыя рэчы, у другі — мужчынскія.

Чачэнцы адразу закрываюць твары: жанчыны павязваюць хусткі, мужчыны і дзеці надзяваюць марлевыя павязкі. Яны ведаюць, што журналісты пачнуць здымаць, і вельмі баяцца гэтага. Кажуць, што калі «засвецяць» твары, то потым, калі ўсё ж прыйдзецца вярнуцца ў Чачню, могуць быць вялікія праблемы. Не баяцца камер літаральна адзінкі. Сярод іх і вядомы ўжо Абдула, які выступае своеасаблівым «спікерам» у зносінах з прэсай. Ён перакідваецца жартамі і з журналістамі, і з міліцыяй. Дарэчы, у месенджары «WhatsApp» Абдула сам сабе падпісаў так: «Цар Брэста».

Людзі пачынаюць выбіраць сабе рэчы. Мужчыны, нягледзячы на тое, што «дробязь — ганебна», таксама актыўна разбіраюць вопратку.

# Хто дапамагае мігрантам і чаму



**Наста Лойка, праваабаронца з арганізацыі «Human Constanta»:**

«Два гады займаюся дапамогай мігрантам. Нашы людзі шмат у чым бяспраўныя, а мігранты маюць яшчэ менш правоў. Тым больш яны часта не ведаюць мовы.

Што тычыцца менавіта чэчэнцаў, то я ведаю, што сёння адбываецца ў Чачні. І дапамогу ім я лічу сваім маральным абавязкам.

Шмат хто ставіцца да чачэнскіх бежанцаў негатыўна проста таму, што гэтыя людзі — іншыя. У іх іншыя веравызнанне, выгляд, манеры паводзінаў. І плюс у нас часта вельмі негатыўна ўспрымаюць усё, што ўвогуле звязана з Расіяй, адпаведна, гэта транслюецца на бежанцаў.

Сітуацыя ў Брэсце — гэта мясцовы крызіс, на які варта рэагаваць уладам, але нічога крытычнага там не адбываецца. Дый мясцовыя жыхары нармальна на тых бежанцах нажываюцца, здаючы ім кватэры».



**Міхаіл Мацкевіч, валанцёр:**

«Дапамагаць бежанцам трэба таму, што яны бежанцы, а мы, беларусы, у гісторыі заўжды дапамагалі тым, хто ў цяжкім становішчы».



**Ганна Бадзяка, валанцёрка:**

«У падобнай сітуацыі можа апынуцца кожны з нас. Хіба маглі мы — ці самі жыхары Данбаса — яшчэ некалькі год таму ўявіць вайну ва Украіне, напрыклад?

У межах ініцыятывы *Human Constanta* мы пачалі збіраць цёплыя рэчы для ўцекачоў — усяго за некалькі дзён людзі прынеслі столькі, што гэта ўсё ледзь змясцілася ў машыну і прычэп. Дзіцячыя рэчы ўцекачы разабралі імгненна, разышліся таксама дзіцячы, мужчынскі і жаночы абутак, мужчынская вопратка. Разам з рэчамі неабыякавыя людзі прыносілі таксама падгузнікі і лекі.

Цяпер у нас з'явіўся пункт збору рэчаў, лекаў, падгузнікаў — усё гэта можна прыносіць у «Калі ласка» (Мінск, Машэрава, 9, офіс 111) з 10:00 да 18:00 па буднях і з 12:00 да 20:00 у суботу».



**Таццяна Бяляк, студэнтка:**

«Я паглядзела фільм французскай журналісткі «Чачня. Вайна без следу». Я зразумела, што адбываецца і што гэтым людзям трэба дапамагчы».



**Таццяна Гацура, мама чатырох дзяцей:**

«Я дапамагаю людзям проста таму, што ім патрэбна дапамога. І ўсё.

І ў сітуацыі з чачэнскімі бежанцамі мяне вельмі засмучае пазіцыя беларускіх СМІ. Яны не пішуць, чаму гэтыя людзі бягуць. А там, у Расіі, адбываюцца страшныя рэчы».

**Улад Швядовіч**

Неўзабаве зноў актывізуецца міліцыя. Імправізаваныя «пункты раздачы», арганізаваныя у людным месцы, канечне, мазоляць ім вочы. Але ж ніякіх дзеянняў міліцыянты не прадпрымаюць, толькі ветліва прапануюць перанесці раздачу з пляцоўкі перад мостам убок, пад дрэвы. Таксама пакідаюць валанцёрам свае кантакты і абяцаюць, што ў наступны раз дапамогуць, выдзеляць і месца, і людзей, каб раздача праходзіла больш арганізавана.

Тым часам людзі працягваюць корпацца ў рэчах, але знайсці патрэбнае ўдаецца не ўсім.

«Памеру майго няма», — уздыхае Назіра. Яна прыйшла сюды з трыма малымі дочкамі. Сёетое для дзяцей знайшлося, а самой ёй патрэбная цёплая куртка і боты. Аднак ані таго, ані другога Назіра падабраць не змагла. Дый дзеці замерзлі, трэба вяртацца ўжо дамоў — на здымную кватэру ў цэнтры Брэста, дзе яе застаўся чакаць муж.

Назіра і Мансур (імёны змененыя, сапраўдныя імёны і прозвішчы вядомыя Рэдакцыі) сядзяць у Брэсце не так доўга, як іншыя — яны прыехалі толькі ў жніўні. Але ж, кажуць, грошы паціху канчаюцца і ў іх. Але назад, у Чачню, яны ўжо не вернуцца.

Назіры — 44 гады, Мансур на год старэйшы. У іх трое дзяцей.

Назіра, як і большасць чачэнскіх жанчынаў сярэдніх гадоў, ужо ператварылася ў тыповую матрону. Мансур — сухі і мускулісты, спакойны, але ў ім адчуваецца гатоўнасць і рашучасць драпежніка.

Менавіта праз Мансура і яго пакручастую біяграфію сям'я і бяжыць з Чачні.

«Я ж на трох войнах быў: і ў Абхазіі, і на дзвюх чачэнскіх. Мне трэ' было ў структуры нейкай працаваць, у міліцыі ці яшчэ дзе... Трэба так было, проста трэба так было, паверце. Мірным жыццём мне б не далі спакойна жыць. Такія людзі павінны толькі ў сістэме працаваць. Інакш — «на рэзультат» пойдзеш. Ведаеце, што такое «на рэзультат», не? Ну, гэта як... паказчыкі, ці што. Нібыта затрымалі баевіка. Пераапрануць у камуфляж, застрэляць, кінуць у лесе з аўтаматам — нібыта ты баявік. Могуць перад гэтым яшчэ і на падвале патрымаць, каб барада вялікая вырасла, — кажа Мансур. — Такая ў нас сістэма».

**«Загнаць бы тых чачэнцаў у хлеў ды спаліць усіх», — так сказаў мне таксіст у Брэсце. Так думае немалая частка людзей. І гэта праз 70 гадоў пасля Хатыні. Беларусь таксама зачапіла вялікая праблема нашага часу: што робіць з уцекачамі? Гуманізм кажа: дапамагаць. Здаровы сэнс: не пускаць. Прымаць уцекачоў з Расіі — значыць прызнаць, што не ўсё так сонечна ў дзяржаве Пуціна. А гэта палітычна небяспечна. Гнаць іх упрочкі — значыць праявіць чэрствасць.**




Чачэнскія дзеці гуляюць на чыгуначным вакзале Брэста.

Мансур нарадзіўся і вырас у Грозным, у вялікай сям'і: 5 братоў і сястра. Бацька быў звычайным рабацягам.

Неўзабаве пасля школы, у 1989 годзе, Мансур пайшоў у армію — тады яшчэ савецкую. Служыў пад Масквой у ВПС: аэрадром ахоўваў. Быў адзіным чачэнцам, але ж праблемаў з саслужыўцамі не было.

«Яшчэ калі я ў арміі быў, Дудаеў ужо набіраў моц у Чачні. Шмат хто з чачэнцаў, што служылі ў Саюзе, пакідалі вайсковыя часці, вярталіся самавольна дамоў, такія хадзілі чуткі. Але я даслужыў свае два гады. У 1991 «дэмбельнуўся», вярнуўся ў Грозны. І пасля трапіў у Абхазію. Шчыра раскажу: побач з нашым домам вайсковая часць была. Ну і я неяк пабачыў: аўтобусы там стаяць, людзі бегаюць... Я падышоў, пытаюся: а што тут? Кажуць: у Абхазію едуць. Ну, я сям'і сказаў, што паеду ў Расію на заробкі. А сам — таксама ў Абхазію, — распавядае Мансур. — У Абхазіі мы паваявалі трохі. Нават не трохі, нармальна так паваявалі. Я туды не па грошы паехаў. Так, прыгоды шукаць, можна сказаць. Дый мы не зараблялі там. Не, можа, хтосьці вышэй там за нас грошы і атрымліваў, але не мы.

У Абхазіі мы спачатку прыехалі ў Гудауту. Там нас узброілі. А я ж нядаўна з арміі вярнуўся, бачу: і зброя савецкая, і форма таксама. Апранулі нас, абулі... і паехалі мы ваяваць».

Страшна не было, кажа Мансур. Там не да гэтага...

Пасля Абхазіі ён вярнуўся ў Грозны. Падпрацоўваў там, сям, на будоўлях.

«Потым у нас пачалося.

Памятаю, як у 1994-м у горад зайшла так званая апазіцыя — тыя, хто за Расію быў. Хацелі горад узяць. А я выйшаў якраз у горад і наткнуўся на іх выпадкова. І раптам сустрэў хлопца, з якім ваяваў у Абхазіі. Пытаюся: а ты чаго тут? А ён кажа: горад бяром, ад плошчы Мінутка — Лабазанаў [Руслан Лабазанаў, палявы камандзір, падтрымліваў у 1994 антыдудаеўскія сілы — рэд.] ідзе, ад Чарнарэчча — Гантаміраў [Біслан Гантаміраў, палявы кіраўнік антыдудаеўскай апазіцыі ў 1994—95 — рэд.]. А я ўжо ведаў, што штурм праваліўся фактычна, кажу: ты глядзі, там вашых усіх замачылі ўжо. А я гляджу: у іх па два аўтаматы ў некаторых... Ну, думаю, трэба сабе аўтамат урваць, таму кажу: давай з вамі пайду, давайце мне ствол. Ты ж мяне ведаеш, кажу, таму хлопцу. Але не далі, — пасміхаецца Мансур. — Ну і я сышоў адтуль спакойна, а ўвечары ўжо па тэлебачанні гляджу: злавілі іх усіх, вядуць па горадзе. Знаёмага таго я больш не бачыў».

Ну а далей ужо пачалася сапраўдная вайна, Грозны пачалі бамбіць.

«Ну і бацька мне кажа: ты што дома сядзіш? У Абхазіі ваяваў, то і цяпер ідзі! — узгадвае Мансур. — Я выйшаў у горад, там ужо стварaліся атрады. Запісаўся. Так два гады і прайшло... Пра незалежнасць Чачні я тады асабліва і не задумваўся. Вайна ж і ёсць вайна: страляюць, бамбяць. Значыць, трэба ісці.

Першая вайна скончылася. Потым я дамоў вярнуўся. Нічога не рабіў, у хаце сядзеў іды. Часам працаваў — вартаўніком, напрыклад. Кайфаваў, гарэлку піў... Мяне лавілі пару разоў, нават палкамі білі аднойчы — дзесяць udараў. Я мусульманін, але выконваць гэта ўсё не заўсёды атрымліваецца.

Але я разумеў, што Чачню не пакінуць у спакоі. Ужо пачаўся сярод саміх чачэнцаў раскол: адны, простыя салдаты, цяпер баевікі, а іншыя ўжо — вахабіты.

Затым Ямадаеў у Гудермесе вайнушку замуціў [у ліпені 1998 года у Гудермесе адбылася сутычка паміж батальёнам нацыянальнай гвардыі пад камандаваннем генерала Суліма Ямадаева, які праводзіў антывахабіцкую кампанію, і шарыяцкай гвардыяй — **Рэд.**]... і адтуль пайшло, тут, там пачалі страляць. Ужо чачэнцы супраць чачэнцаў пайшлі».

Працяг на старонцы 12.




Раздача гуманітарных рэчаў, якія сабралі валанцёры ў Мінску.

# Назіра і Мансур: чаму яны бягуць?

Працяг са старонкі 11.

Пасля Шаміль Басаеў зайшоў у Дагестан. Было ясна, сцвярджае Мансур, што ён Дагестана не захопіць, назад у Чачню вернецца, а за ім і рускія прыйдуць.

«Я сам нікога не падтрымліваў — ані Басаева, ані Масхадава... Я за Чачню ваяваў, — кажа Мансур. — Але ведаў і Басаева, і Гелаева [Руслан (Хамзат) Гелаеў, адзін з самых вядомых палявых камандзіраў, вылучаўся жорсткасцю — Рэд.]... За адным сталом з імі сядзеў. Яны ж пачыналі ўсе з Абхазіі, мы ведалі адзін аднаго. Я быў звычайны радавы, але лічыўся ўжо «стары». І яны прыслухоўваліся заўсёды да такіх людзей».

Калі абмяркоўваўся нейкі план, можна было сказаць таму ж Гелаеву: Хамзат, так не пойдзе, трэба інакш — запэўнівае суразмоўца. Яны слухалі.

«Шаміль Басаеў увогуле быў разумны чалавек. Ён быў стратэг. Няпраўда, што ён фанацік. Ён быў сапраўдны генерал, які ведае і ўмее камандаваць людзьмі.

Я ўпершыню пазнаёміўся з ім у Абхазіі, калі Сухумі бралі. Мы зайшлі ў горад. Шаміль крычыць: параненых забіраем, забітых забіраем! Ён тады камандзірам нашай брыгады быў. А камандзірам быў чаму? Бо меў выхад на зброю. Тады камандзірам аўтаматычна станавіўся той, у каго рэсурсы, хто можа армію ўзброіць. А праз Шаміля выдзялялі рускія і зброю, і форму, і абсталяванне, тэхніку. Не прадавалі — выдзялялі. Новая зброя была абсалютна. Патроны ва ўсіх — выключна разрыўныя. У той час рускія нашымі рукамі хацелі Абхазію забраць. Дый Шэварднадзэ потым казаў, што яны — грузіны — тую вайну чачэнам прайгралі, — расказвае Мансур. — Але ж розныя гісторыі былі ў Абхазіі. У Сухумі мы занялі пяціпавярховік, сядзім, каву зварылі. І тут забягаюць нашы, кажуць: там пацаны свае засталіся пад агнём, трое, трэба выцягнуць. Я кажу: а што вы да нас прыбеглі? Вось Шаміль, да яго ідзіце. А Шаміль адказвае: хай ляжаць, не трэба. Я здзівіўся, кажу: ты ж загадваў усіх забіраць сваіх? Ён тлумачыць: калі выцягваць, то яшчэ чалавек пяць нашых загіне. Тады адзін наш, Руслан, кажа мне: хадзем, самі іх выцягнем. Ну, тут не адмовішся, кажу: добра, давай. Абмеркавалі план. Шаміль слухаў, але маўчаў. Выцягнулі ў выніку. Адзін з іх, рускі, мёртвы быў, двое іншых пасля інвалідамі засталіся. А Шаміль пасля сказаў нам: «Вы не думайце, што вы тут героі цяпер!» Слова за слова... Карацей, пасля мы перайшлі ад яго ў іншую брыгаду».



Дзяўчынкі выбіраюць сабе рэчы па памеры падчас раздачы рэчаў у Брэсце.

Калі пачалася другая вайна, усю сям'ю Мансур адправіў у родавое сяло, у горы, да сваякоў. Сам быў у Грозным.

«А ў той час вярнуўся адзін чалавек з Масквы — чачэнец, раней ён там круціў крымінальныя справы нейкія, добрыя грошы меў. Ён быў стрыечным братам Хозы [Мікалай Хоза Сулейманаў, лідар «Астанкінскай» брыгады чачэнскай мафіі ў Маскве — НН]. І ён вярнуўся ў Грозны і пачаў ствараць брыгаду сваю, каб супраць рускіх ваяваць. Грошы ёсць, зброі накупляў, машыны... І мой брат да яго пайшоў ахоўнікам. Яны не ваякі былі, канечне, але выглядалі як Рэмба — тут пісталеты, тут тое, там сёе, — узгадвае Мансур. — Пасля брата параніла майго. Я пайшоў яго шукаць, знайшоў — усё было нармальна з ім. Ну так я і застаўся пасля ў іхняй брыгадзе... Тая брыгада падпарадкоўвалася Гелаеву, гэта быў яго кірунак. Ваяваў...

Калі вайна ўжо скончылася, у 2000-м я пакінуў Грозны, сыходзіў разам з Гелаевым. Дайшлі да Шатоя, Гелаеў рушыў у сяло Камсамольскае, некаторыя — і я з імі — пайшлі ў горы. Я жыў у сяле, асабліва не хаваўся... Але аўтамат у мяне быў закапаны, калі што — мог узяць яго і сысці. Адтуль мяне потым забраў бацька. Прыехаў, сказаў, што нармальна ўсё, нічога не пагражае, можна вяртацца».

Мансур прыехаў у Грозны. На той момант у Чачні ўлада была ў Ахмата Кадырава.

«Гэта быў кампрамісны варыянт, які больш-менш задавальняў усіх. Не скажу, каб я яго вельмі паважаў... Але і супраць не быў. Да таго ж ён ніколі не юліў. Памятаю, неяк журналісты спыталі яго: «Вы ж казалі раней, што чачэнцу трэба забіць 150 рускіх!» А Ахмат-хаджы адказвае: «Не 150, а столькі, колькі зможаш». Не адракаўся сваіх слоў», — расказвае Мансур.

Але дома без праблем не абышлося. У 2000 годзе, неўзабаве пасля вяртання, Мансура арыштавалі: «Узялі мяне і кажуць: «Выбірай, зброя ці наркотыкі? За што сядзеш? Ёсць загад цябе закрыць». Тады ж тэракты былі, і мне патлумачылі, што я небяспечны і мяне на ўсякі выпадак трэба ізаляваць».

Выбіраць Мансур адмовіўся.

«Тады адна іх знаёмая напісала, што я абрабаваў яе. І закрылі мяне на два гады», — кажа Мансур.

Пасля турмы ён вярнуўся дамоў.

«У Грозным на той час праца была ў асноўным на будоўлях — адноўлялі горад.

Я збіраў медзь, алюміній. Таксама збіраў і чысціў цэглу ад будынкаў, што разбамбілі, здаваў на заводы. Можна было жыць, — узгадвае Мансур. — Прыкладна так і цягнулася ўсё».

А затым Мансур трапіў у батальён Суліма Ямадаева «Усход».

«У 2006 годзе пад'ехала да мяне машына. Выйшлі людзі з аўтаматамі. А я быў у працоўнай

# «Чачэнцы прывезлі нам адзёр, але ж яны таксама людзі»

Чачэнцы масава бягуць з Расіі ў Еўропу. Звычайна ў пунктах пропуску іх разварочваюць назад, яны вяртаюцца, але ў хуткім часе зноў накіроўваюцца ў бок мяжы. Так некаторыя чачэнцы месяцамі жывуць у Берасці.

На гэтую сітуацыю беларусы глядзяць па-рознаму. Адны спрабуюць дапамагчы, збіраюць неабходныя чачэнцам рэчы — іншыя асуджаюць і ўвогуле за ўцекачоў не лічаць. А хтосьці асцярожна не займае ніякай пазіцыі: раптам людзі бягуць, бо іх жыццё сапраўды ў небяспецы?



**Іна Хоміч, жыхарка Берасця:**

«Вялікай праблемы я не бачу. Але ж чачэнцы прывезлі нам адзёр, якога ў Беларусі не было. Беларусы пакуль не хварэлі, выпадкі толькі сярод бежанцаў. Тым не менш акушэрка мне распавяла, што ў іх у радзільні вісіць спіс пад'ездаў. Калі вязуць парадзіху з пад'езда са спісу, яе дастаўляюць у каранцінную радзільню.

Ведаю, што многія мамы пасля папярэджання пазбягалі наведваць вакзал з дзецьмі. Цяпер сітуацыя нібыта наладзілася, але я б з малым дзіцём на вакзал без неабходнасці дакладна не пайшла б. З другога боку, як і ў любое іншае шматлюднае месца, незалежна ад таго, ці ёсць там замежнікі.

Вось гэтая санітарная абстаноўка мне асабіста не падабаецца. Яна не крытычная, канечне, але крыху горшая, чым калі б чачэнцаў тут не было. Разам з тым, крыміналагенная сітуацыя асабліва не пагоршала. Чачэнцы проста сноўдаюць па вакзале ці каля яго. Думаю, паляпшаюць нам эканоміку: штосьці купляюць, кватэры здымаюць.

Я выдатна разумею праваабаронцаў, якія кажуць, што Польшча ігнаруе міжнароднае заканадаўства і ўзятыя на сябе абавязальніцтвы па бежанцах. Трэба ўпускаць і пасля ўжо правяраць, хто бежанец, а хто не.

З іншага боку, я выдатна разумею, што далёка не ўсе бежанцы. Але ўпэўнена, ёсць і тыя, што ўцякаюць ад Кадырава, якія, можа быць, так адкрыта пра гэта не гавораць, бо баяцца. Я не падтрымліваю фабулу, што раз у Чачні няма вайны, значыць, няма чаго ім ехаць. Зразумела, вайна можа быць схаванай і пагроза жыццю можа існаваць і без адкрытых ваенных дзеянняў».

**Актывістка арганізацыі па дапамозе ўцекачам у Польшчы, якая пажадала застацца неназванай:**

«Шчыра? Едуць тыя, хто проста не хоча працаваць у сябе — лянівы народ. Адзін з іх сказаў мне, што кожны год прыязджае, лечыць сябе, зарабляе грошай і вяртаецца. А яшчэ была ў нас нядаўна сітуацыя, што адны такія знялі кватэру ў палякаў, а пасля прадалі мэблю з яе. У выніку цяпер людзі баяцца здаваць жытло іншым уцекачам».



**Зміцер Міцкевіч, эксперт партала «Belarus Security Blog»:**

«Сітуацыя складаная. Папершае, нам невядома, колькі іх, гэта пужае. Па-другое, мы не ведаем, хто гэтыя людзі. А яны могуць быць кім заўгодна, пачынаючы ад звычайных уцекачоў і заканчваючы тэрарыстамі.

На маю думку, збольшага гэта банальная міграцыя ў эканамічных мэтах. Людзі сунуцца ў Еўропу, каб палепшыць свой дабрабыт.

Ёсць невялічкі польскі горад Ломжа, дзе чачэнская дыяспара трымае крымінальнае поле. Я сам быў у Ломжы і размаўляў з мясцовымі жыхарамі. Імідж чачэнцаў там яўна не вельмі добры.

Калі ім хочацца ў Еўропу толькі для паляпшэння матэрыяльнага становішча, то пытанне пра статус уцекачоў увогуле не стаіць. Адпаведна, нашым праваахоўным органам і памежным службам варта заняцца распрацоўкай пэўнай міграцыйнай стратэгіі, таму што яна ў нас у прынцыпе адсутнічае».

**Максім Хлябец, жыхар Берасця:**

«Берасцейцы чачэнцаў не любяць. Але ж чачэнцы ўжо тут, у Берасці, і праблему трэба вырашаць. Ім трэба дапамагчы ці



з'ехаць назад, ці з'ехаць у Польшчу. Трэба зрабіць, каб для іх вяртанне прайшло як мага менш балюча. Каб яны таксама не пачалі злавацца на беларусаў».



**Наталля Гарачая, валанцёрка дабрачыннага праекта «Калі ласка», які перадае рэчы тым, хто апынуўся ў бядзе, у тым ліку і чачэнцам:**

«Мы дапамагаем людзям незалежна ад таго, з якой яны краіны. Людзі, якім трэба дапамога тут і зараз, — наша мэтавая аўдыторыя. Мы хутка зарыентаваліся і назбіралі для чачэнцаў неабходныя рэчы, каб ім было цёпла, каб яны не хварэлі. Няма розніцы, з якой краіны чалавек, якой ён нацыянальнасці, куды ён імкнецца і якія ў яго мэты. Ён проста жывы чалавек, і калі ён пакутуе, то ўсе астатнія людзі павінны яму нейкім чынам дапамагчы.

У хуткім часе збіраемся перадаць дзесьці 300 кілаграмаў рэчаў, спадзяюся, яны будуць патрэбныя.

Гавараць, што найперш трэба дапамагчы беларусам, а потым думаць пра замежнікаў, тое самае, што набіваць свайму дзіцяці чарговую цацку, калі ў Афрыцы дзеці галадаюць. Трэба дапамагаць усім, хто знаходзіцца побач».



**Алена Анісім, намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы, дэпутатка Палаты прадстаўнікоў:**

«Тэма ўцекачоў вельмі няпростая. Не ведаючы ўсіх нюансаў, не ведаючы, што людзей выштурхнула з дому, прымусіла сарвацца і бегчы шукаць месца ў свеце, мне складана каментаваць. Ва ўсякай справе ёсць тое, што насамрэч людзі адчуваюць, і спекуляцыі на гэтую тэму. Мне б не хацелася ў такой далікатнай сферы, якая тычыцца жыцця людзей, іх здароўя і жыццёвых абставін, сходу рабіць нейкія каментары. Калі чачэнцы на сваёй этнічнай тэрыторыі, у сваёй уласнай дзяржаве падвяргаюцца дыскрымінацыі... Якія там абставіны? Усё гэта трэба разглядаць праз прызму заканадаўства».

Настасся Роўда

вопратцы, цэглу чысціў. Гляджу на аднаго — знаёмы. Паехалі, кажа ён мне, размова ёсць, — узгадвае суразмоўца. — Прыехалі ў Гудэрмес. Там прывялі мяне да Суліма Ямадаева. Ён кажа: ты ж мяне ведаеш, раней разам справы рабілі... Распытаў, чым я займаюся. Я кажу: цэглу вось здаю. А ён пытаецца: дык чаму да мяне не ідзеш? Ну, адказваю, я сваім жыццём задаволены, але калі ты працу прапануеш, то я згодны.

Узялі мяне ў батальён. Дый такога чалавека меръ пачэсна, можаш там і не рабіць асабліва нічога, галоўнае, каб быў сярод іх. Тыпу прыклад для моладзі, ветэран».

Але, сцвярджае Мансур, ён не хацеў там заставацца. Тое, чым займаўся батальён, сам ён называе «беспрэдзелам». Варта дадаць, што імя батальёна «Усход» сапраўды фігуравала ў шэрагу крымінальных гісторый.

«Месяцаў праз 7—8 я прыхварэў. А раней у мяне быў туберкулёз, таму адправілі лячыцца ў ваенны шпіталь у Падмаскоўі. Там я піў пастаянна з начальнікам шпіталя, дык і папрасіўся, каб ён мяне камісаваў. Усё, выдалі паперку, і я звольніўся з батальёна, — пасміхаецца Мансур. — Тэхнічна сышоў, усё па законе».

Пасля, узгадвае ён, жыў сабе ціха, працаваў то тут, то там... У Маскву ездзіў на заробкі. Машыны ганяў...

А ў 2008 годзе пазнаёміўся з Назірай. Яна таксама вырасла і жыла ў Грозным.

«Калі заканчваецца Уразабайрам, пачынаецца Рамадан. Прыходзіць шмат гасцей. І Мансур прыйшоў да нас у госці, ён быў знаёмы з маім стрыечным братам. А пасля ён і сам прыйшоў — хацеў менавіта са мною пазнаёміцца. Мы пачалі сустракацца... А праз тры месяцы ён заслаў сватоў. І я выйшла за яго замуж, — расказвае Назіра. — Нягледзячы ні на што, не шкадую і па сёння».

Але ў тым жа годзе ім прыйшлося з'язджаць з Чачні.

«У жніўні ж пачалася вайна ў Асеціі. «Усход» жа быў там. Я ў батальёне не служыў, але прыехалі, сказалі, што і мне туды трэба ехаць. Грошы абяцалі добрыя, здаецца, 150 тысяч [расійскіх рублёў] адразу на картку, потым яшчэ. Я пачаў выкручвацца... і якраз там усё хутка скончылася, — кажа Мансур. — Але было зразумела, што батальён у Чачню вернецца і ў мяне будуць праблемы. Я хутка зрабіў пашпарты, і мы з'ехалі. Ехалі таксама праз Брэст, спачатку былі ў Польшчы. Палітычнага прытулку не прасілі. Я нават не казаў нікому, што ваяваў. Хацелі трохі адсядзецца, а там ужо будзе бачна... Я там падпрацоўваў нелегальна рабочым на будоўлі, нават дворнікам».

У Польшчы Назіра нарадзіла дзвюх дачок. Адна з іх была хворая, палякі не маглі знайсці, што з ёй.

«Тады мы паехалі ў Аўстрыю. Там жылі ў лагеры для бежанцаў. Дачку паклалі ў шпіталь, ёй паставілі дыягназ нарэшце», — кажа Назіра. У Аўстрыі ў іх нарадзілася яшчэ адна дачка. Але неўзабаве яны вярнуліся ў Грозны.

У 2010 годзе Мансур з Назірай і дзецьмі прыехалі у Чачню.

«Вярнуліся праз Мансура. Нас ультыматыўна прымусілі, бо ўсіх сваякоў мужа забіралі сілавікі: маці, сястру, братоў... Патрабавалі, каб ён вярнуўся, — кажа Назіра. — А калі мы прыехалі, то і Мансура забралі таксама. Прыйшлося яго выкупляць. Абышлося гэта нам у 200 тысяч рублёў. Прыйшлося прадаць дом».

Затым яшчэ некалькі гадоў Назіра з Мансурам жылі ў Грозным.

«Эканамічна праблем у нас аніякіх не было. Грошай і ў мяне хапала, і браты вельмі добра зараблялі, дапамагалі... Але Мансура пастаянна забіралі сілавікі. Збівалі. Ніхто не хацеў на працу браць», — кажа Назіра.

«Там забіраюць і для прафілактыкі, можна сказаць. Напрыклад, заходзіў я праведаць бацькоў свайго знаёмага. А сам ён і па сёння ў гарах сядзіць. Але вось прайшлі чуткі, што яго бачылі ў Грозным... і ўсё, па маю душу прыехалі. Адвозяць у тэрытарыяльны аддзел міліцыі, дапытваюцца: сувязь падтрымліваеце? — тлумачыць Мансур. — Але часам такую сітуацыю можна перасядзець, пакуль яны зловяць таго, каго шукаюць. Аднойчы я ведаў, што там з адным чалавекам... адбылася гісторыя, скажам так. І зразумела, што прыйдуць да мяне. Вырашыў перачакаць на кватэры ў знаёмых...»


У Назіры і  Мансура трое дачок: 5-ці,6-ці і 7-мі гадоў.


Дзіцячыя цацкі ў зале чакання брэсцкага чыгуначнага вакзала. На вакзале жыве каля 30 чалавек. Палова з іх — дзеці.


Цацак у дзяцей амаль няма. Самалёцік зроблены з бланка адмовы на ўезд. З іншага боку намаляваны дом, пра які марыць дачка Назіры.

«Тады мяне забралі, — працягвае Назіра. — Я ішла да прыпынку, хацела да маці сваёй паехаць. І раптам пад'ехала машына, мяне закінулі, адвезлі — куды, я не ведаю. Завялі ў нейкі падвал, спыталі, дзе муж. Пару разоў ударылі... І я прызналася, што ведаю дзе. Спужалася. Паехалі, узялі яго, і толькі тады мяне выпусцілі. Мансура тады з тыдзень дома не было».

Дый часам разам з ім забіралі іншых сваякоў-мужчын — проста на ўсякі выпадак.

«І я ўжо не магла больш гэта цярпець... І брат мой ужо адкрыта казаў нам: з'язджайце, бо нармальнага жыцця не будзе. А з'едзеце, то хоць мы ад гэтага ўсяго адпачнём», — кажа Назіра.

Пасля пачаліся баявыя дзеянні ва Украіне. Мансур сцвярджае, што яму «добраахвотна-прымусова» прапанавалі накіравацца туды.

«Хацелі, каб я паехаў. Неабавязкова ваяваць — моладзь трэніраваць на баку сепаратыстаў, — кажа ён. — Абяцалі ад 200 да 300 тысяч рублёў за гэта. Казалі, што можна і трафеяў набраць — напрыклад, машыну сабе вывезці.

Але не хачу я ваяваць за Расію, за Кадырава. Я не баюся, тры вайны прайшоў, чаго мне баяцца. Гэтая вайна — не мая. Каб у Чачні пачалі страляць, то я б за Чачню ваяваў. А там, ва Украіне, мне няма чаго рабіць», — кажа Мансур.

«Расія Чачню не адпусціць. Імперыя, якая не можа ўтрымаць сваю тэрыторыю, хутка развaліцца. Але я асабіста хачу, каб Чачня была незалежнай дзяржавай. З Расіяй не трэба ваяваць, не трэба сварыцца. Трэба сябраваць. Але не з гэтай Расіяй, якая сёння існуе. А сённяшняе халопскае існаванне Чачні... — Мансур паціскае плячыма. — Я з'язджаю адтуль, бо хачу, каб дзяўчынкі выраслі ў нармальнай краіне. З мяне ўжо чалавека не выйдзе, усё, хана... А дочкі хай як людзі жывуць. У Чачні карупцыя страшная. Грошы кіруюць усім. Хочаш — праплочвай і ваенную пенсію будзеш атрымліваць. Хочаш, каб цябе лячылі нармальна — трэба даплаціць. Яны там тэрарыстаў усё шукаюць. А галоўныя тэрарысты ў школах працуюць, у бальніцах, у выканкамах. Тыя, хто цягне грошы з людзей».

Праўда, прызнаюцца Мансур з Назірай, яны і самі хацелі гэтым скарыстацца ў 2012 годзе.

«Нам паабяцалі, што дапамогуць аформіць дакументы на дзяцей, нібыта яны нарадзіліся ў Чачні. Адпаведна, усе грошы дапамогі на дзяцей за гэтыя пару гадоў нам выплацяць адразу. Дамовіліся, што нам выдадуць палову, астатнія грошы пойдуць як адкат чыноўніцы. Мы пагадзіліся. І вось перад выбарамі прэзідэнцкімі нам тэлефануе чыноўніца, кажа: «Калі на выбары не пойдзеце, то грошай не ўбачыце», — расказваюць яны.

Схадзілі, прагаласавалі.

«За Пуціна, канечне. А за каго яшчэ?» — кажуць.

«Я да яго аніяк не стаўлюся. Не за і не супраць», — тлумачыць Мансур.

Увогуле, Расія, на яго думку, хутка разваліцца, бо «зноў пачалася гонка з Амерыкай». А ў Чачні, сцвярджае ён, жыць нельга:

«Людзям паказваюць, што ўсё добра ў Чачні... А гэта проста малюнак, плёнка. Як коўдрай прыгожай накрылі. А ў ёй дзірку зрабіць і паглядзець туды — там страшныя справы робяцца, вельмі страшныя. Тыя, хто жыве там, тыя ведаюць. Людзей і па сёння цкуюць, выкрадаюць, забіваюць. Бруд, кроў і грошы... Гэта і будзе сапраўдная Чачня. Нават калі вайна ішла, было прасцей. Там хаця б зразумела, што рабіць: тут страляюць — сыходзь адсюль, там бамбяць — бяжы туды, дзе не бамбяць. А сёння і бегчы няма куды».

Таму, кажа ён, застаецца бегчы за мяжу.

«Знаёмых хапае за мяжой, не прападу. Галоўнае — адсюль з'ехаць. Увогуле, хацелася б у Францыю трапіць. А цяпер вяртацца ўжо немагчыма — нам у Чачні жыцця не будзе. Кадыраў жа расказвае, што ўсе задаволеныя ў Чачні, а мы сядзім на мяжы і крычым, што мы бежанцы. Журналісты нас знялі і ўсё, гэтага дастаткова. Вярнуся дамоў — будуць праблемы, — упэўнены Мансур. — Ужо там, у Грозным, ходзяць размовы, што мы тут усе здраднікі. А калі вярнуся, то пачакаюць трохі, пакуль пра мяне забудуць, і зробяць, што захочуць. Знікну проста, хутчэй за ўсё...»

Пакуль што Мансур з Назірай і дзецьмі сядзяць у Брэсце і спрабуюць з'ехаць у Еўропу праз Польшчу. Кватэру здымаюць пасуткава — 20 даляраў суткі. Па іх словах, здаваць чачэнцам жытло на працяглы тэрмін не хочуць самі беларусы.

Але грошы імкліва канчаюцца. Ежа, квіткі на цягнік на ўсю сям'ю...

Апошні варыянт для Мансура з сям'ёй — Украіна. Калі фінансаў не застанецца, будуць спрабаваць з'ехаць туды. Да таго ж там у Назіры стрыечны брат.

«Але я баюся, што Мансура не пусцяць — ён жа ў батальёне Ямадаева служыў... Не ведаю. Назад — не, у Чачню аніяк. Я з братам звязвалася, ён казаў, што намі ўжо цікавіліся. Сказаў, каб мы не вярталіся ані ў якім разе... Ну, грошы скончацца, то будзем міласціну прасіць. А што рабіць? Лепш жабраваць, чым знікнуць».

**Улад Швядовіч,**
**Ірына Арахоўская,**
**фота Ірыны Арахоўскай.**

### Не ўсе чачэнцы жывуць на здымных кватэрах

Каля трыццаці чалавек жывуць проста ў зале чакання брэсцкага чыгуначнага вакзала. Прыкладна палова з іх — дзеці.

«У нас ужо грошай няма ні на што», — журацца чачэнцы з вакзала.

Па іх словах, варыянтаў у іх таксама няма. Назад у Чачню ім дарогі няма — падрабязна расказваць не хочуць, але сцвярджаюць, што вяртанне для іх немагчымае. Ва Украіну таксама дарога закрыта: «Шмат хто спрабаваў, заварочвалі ўкраінцы назад, не пускалі праз мяжу. А мужчынаў не пускаюць зусім».

І ў канцы верасня сярод «вакзальных» пранесліся нядобрыя чуткі: нібыта праз пару дзён павінны прыйсці міліцыянты забіраць дзяцей.

«Нам і раней казалі: ідзіце на кватэры адсюль, бо будуць праблемы», — расказваюць жанчыны. Міліцыянты прызналіся: чэчэнцаў такім чынам яны вырашылі проста прыстрашыць, бо на іх і іх дзяцей нярэдка скардзяцца пасажыры. Хаця, сцвярджаюць міліцыянты, пры жаданні яны могуць і ажыццявіць свае пагрозы.

На чачэнцаў і іх дзяцей сапраўды нярэдка скардзяцца пасажыры: ад малых шумна.

«Чырвоны Крыж раз на месяц дае пакунак з ежай: рыс, кансервы, усякае такое… Мы аддаем тым, хто здымае кватэры, яны гатуюць і прыносяць нам», — кажуць жанчыны.

Сярод іх і наша знаёмая Назіра. Пакуль што яна прыехала пагаварыць са знаёмымі, якія жывуць у зале чакання. Але, кажа, неўзабаве сюды можа пераехаць і іх сям'я.

«Усё, грошы і ў нас амаль скончыліся. Хутчэй за ўсё, і мы будзем тут».

# Вечны горад

Усе дарогі вядуць у Рым — лагістыка — Асліная брама — Калізей — адчуваць — ньёкі — згубіцца — Торэ Арджэнціна — карбанара — Чынэчыта — людзі — вада — прыгажосць — сустрэцца — піца — Кампа дэй Ф'ёры — мора.

*«Чалавек, які правёў тыдзень у Вечным горадзе, — яму хочацца напісаць пра Рым кнігу. Той, хто правёў некалькі месяцаў, — ён, мабыць, напіша артыкул. А чалавек, які пражыў у Рыме некалькі гадоў, — ён ужо нічога не можа напісаць».*
***Стэндаль***



Мне пісаць пра Рым ужо складана, але пакуль яшчэ магчыма. Час, праведзены разам, нястрымна набліжаецца да месяца. Калі не напішу зараз, пачуцце Вялікага горада, што выспявала гадамі, яшчэ крыху — і застанецца толькі са мной. Трэба пісаць. Як бы ні было складана, асабліва пасля Фларэнцыі, дзе ўжо ўзгаданы Стэндаль увогуле анямеў. Не ведаю, з кім вандраваў аўтар «Чырвога і чорнага», мне ж мову страціць не далі каханая жонка і гарэзы-дзеці.

### Рым — найлепшы горад на Зямлі, адразу пасля Мінска

Аднойчы па дарозе ў Іспанію я па ўласнай памылцы не паспеў на свой самалёт у Мілане. Збянтэжаны, я не ведаў, што рабіць, італьянцы ж смяяліся, жартавалі. Праз паўгадзіны я ўжо піў віно ў рэстаране, а на руках меў квіткі на наступны рэйс — і усё бясплатна, за кошт *Alitalia*.

«Як усё лёгка і проста, быццам гуляючы», — зрабіў я тады для сябе выснову.

З таго моманту ў Італіі я пабываў неаднойчы, але італьянская лёгкасць не перастае здзіўляць. Не паспела ў самалёце прагучаць «зашпіліце рамяні», а я ўжо ведаю ўсё пра суседа. Ён з Неапаля, завуць яго Арыс, мае дваіх дзяцей, у іх найлепшая піца і найпрыгажэйшае ў свеце метро. Ён пацiскае майму шасцігадоваму сыну руку, сцюардэсе дорыць усмешку. Ніякай змушанасці, усё натуральна. Калі самалёт узлятае, Арыс моліцца Богу, ужо ў небе мы глядзім яго сямейны альбом. Ён адданы фанат футбола, бачыў на ўласныя вочы гульню Марадоны і ніколі не даруе пераход Ігуаіна ў «Ювентус». Усё з усмешкай. Арыс просіць, каб я запісаў ягоны тэлефон і абавязкова завітаў да яго ў Неапалі. А якую пасту гатуе яго маці!

### Італія — гэта найперш італьянцы

А яны сапраўды такія, як італьянская музыка.

Мы прыляцелі. Чао, Рым, да сустрэчы, Арыс.

Не заблукаеш, усё адно ўсе дарогі вядуць у Рым. Пытанне часу, але ты трапіш у Рым. Тое самае быццам можна сказаць і пра іншыя гарады:

— Усе дарогі вядуць у Сноў.
— Усе дарогі вядуць у Мазыр.
— Слонім, Баранавічы, Пінск.

Толькі першым быў Старажытны Рым, які з пашырэннем сваіх уладанняў злучаў сталіцу і новыя землі сеткай дарог. Прайшлі тысячагоддзі, а дарогі, акрэсленыя рымлянамі, працягваюць існаваць у выглядзе сучасных магістраляў.

### Як?

Для беларусаў дарога ў Рым звычайна праходзіць праз Вільню, Варшаву ці Кіеў. Так танней, бо беларускія авіялініі — варыянт дарагі, калі толькі вам не пашанцавала набыць квіткі па акцыі, пільнуючы іх начамі. Аэрапортаў у Рыме два: Чампіна абслугоўвае лаўкостары, Да Вінчы (Ф'юмічына) прымае галоўную плыню прылятаючых.

«Пачынаецца пасадка на самалёт да Рыма». А ў пасадачных талонах пазначана: Аэрапорт імя Скарыны (Мінск) — Аэрапорт імя Да Вінчы (Рым).

Прыгожа? Мо ў хуткім часе славутыя дзеячы Сярэднявечча змогуць хай не лётаць самі, дык перадаваць адзін аднаму вітанне праз сваіх нашчадкаў.

Да горада з аэрапортаў дабрацца можна на цягніку ці аўтобусе і, зразумела, на таксі. У залежнасці ад часу прылёту і колькасці вандроўнікаў таксі можа быць найлепшым варыянтам, бо грамадскі транспарт ходзіць абмежаваны час і пасля прыбыцця на цэнтральны вакзал Тэрміні, вам, хутчэй за ўсё, давядзецца рабіць яшчэ перасадку, а гэта ўсё — грошы. Нам танней ехаць на таксі, і, апроч іншага, так мы паспяваем на вячэру. А вячэра ў Рыме — гэта святое.

### Лагістыка

Гатэляў у Рыме, разам з апартаментамі, пад 8 000 і ў летні час яны амаль усе занятыя. Цэны розныя, але збольшага прымальныя, стартуюць прыкладна ад 35€ за нумар на дзве персоны. Акрамя пражывання, давядзецца яшчэ заплаціць і турыстычны падатак у памеры 3,5€ за дзень. Дзецям да 10 гадоў і тут шанцуе: плаціць ім не трэба, таму, дакладней, шанцуе іх бацькам. Парады звычайныя: чытайце водгукі і пазбягайце турыстычных эпіцэнтраў кшталту фантана Трэві, дзе, як сцвярджае мой добры знаёмы, усё рамантычна, толькі заснуць немагчыма.

Калі выбіраеш гатэль ці апартаменты ў Рыме, трэба ўлічваць, што хадзіць прыйдзецца шмат.

Браць аўтамабіль напракат не мае ніякага сэнсу, бо ўсё важнае знаходзіцца адносна недалёка, а, улічваючы платную паркоўку і вузкія вуліцы, гэта ўсё стварае непатрэбны клопат.

Ідэальна спыніцца недзе паміж Іспанскай лесвіцай, Калізеем і Трастэверэ.

Па-першае, тады можна сэканоміць на транспарце. Па-другое, вы не абмежаваныя часам і можаце папіваць свой апероль колькі вам заўгодна — як-небудзь прысунецеся да гатэля. У іншым выпадку давядзецца прытрымлівацца раскладу грамадскага транспарту, а ён у Рыме ходзіць па-паўднёваму свавольна. Аўтобусы і трамваі могуць лёгка спазніцца на паўгадзіны ці ўвогуле не прыйсці. Метро больш фармальнае і працуе да поўначы.

### Метро

Метро тут адно з наймаладзейшых у Еўропе, будуюць метро павольна, надаючы асаблівую ўвагу магчымым археалагічным знаходкам.

У горадзе, дзе памеры культурнага слою дасягаюць 7 метраў, будаўнікі метро проста вымушаныя быць трошкі і археолагамі.

Рымская падземка ўтылітарная: ніякага мармуру ды крышталю, многія цягнікі не маюць кандыцыянераў і выглядаюць занядбана, нібы вітанне з 60-х. На дадзены момант працуе тры лініі, апошнюю запусцілі некалькі год таму.

Для зручнасці месцы асаблівай увагі пазначаны назвай славутасці: напрыклад, станцыя *Barberini* —



У гэтым горадзе трэба губляцца.



Фантан Трэві, *Lepanto* — Ватыкан і гэтак далей.

Кошт праезду звычайны для Паўднёвай Еўропы: аднаразовы — 1,5€, праязны на тры дні — 18€, на тыдзень — 24€. Дзецям да 10 гадоў — бясплатна. Астатнім не раю ездзіць без аплаты. Кантралёры могуць па сярэдзіне маршрута спыніць аўтобус і праверыць білеты. Акрамя сораму, гарантаваны штраф у памеры ад 100€, чаго мы былі сведкамі.

### Асліная брама

Калі нешта не разумееш ці не прымаеш, працей за ўсё — абразіць аб'ект свайго неразумення. Каб патлумачыць гэта, цудоўна падыходзіць Асліная брама (Азінарыі). Праз яе ў старажытныя часы траплялі ў горад першыя хрысціяне. Чым жа была вінная гэтая брама, што атрымала назву гэтай боскай жывёлы? Спрацавала біблейская аналогія: менавіта на асле ў свой час Хрыстос увайшоў у Іерусалім.

Шлях да веры самога Рыма быў цяжкім, да першых хрысціян ставіліся як да сектантаў, што неслі пагрозу імперыі. Таму абраза была найбольш бяскрыўдным з таго, што давялося зазнаць паслядоўнікам Хрыста. А былі яшчэ пагромы, катаванні, забойствы.

Лёс апостала Паўла стаў падмуркам для пераўтварэння Рыма. Мінула два тысячагоддзі, хрысціянства прайшло праз цемру вякоў, зведала Рэнесанс, Асветніцтва і розныя рэвалюцыі. Пры ўсіх цяжкасцях і спакусах яно было і застаецца адной з асноўных рэлігій планеты, а Рым, разам з Ватыканам, — духоўным цэнтрам яе каталіцкай часткі.

Брама Азінарыі знаходзіцца ў паўднёва-ўсходняй частцы старога горада, аточаная старажытным мурам, уздоўж якога бегаюць прыхільнікі здаровага ладу жыцця, яна па-ранейшаму застаецца пунктам уваходу ў Рым, толькі на гэты раз для чатырох праваслаўных геданістаў, што жывуць побач з брамай.

### Калізей

*«Глядзіце, вы бачыце неба такім, якім яго бачылі старажытныя — у абрысе Калізея».*

***М. В. Гогаль***

Аўтар «Вечароў на хутары каля Дзіканькі» быў адным з найлепшых гідаў па Рыме. Ён прыводзіў сваіх сяброў у Калізей, які ў той час стаяў засыпаны больш чым на палову зямлёй, і прапаноўваў ім легчы пасярэдзіне арэны, каб адчуць веліч амфітэатра і повязь эпох. Гэта цяпер Калізей — галоўны сімвал Рыма, а да сярэдзіны XIX стагоддзя арэна была сімвалам паганства.

Толькі вялікія памеры дазволілі яму захавацца. Як толькі Рым стаў хрысціянскім, Калізей пачалі разбураць. Мармур з арэны ішоў на будаўніцтва новых палацаў, так, напрыклад, узводзіліся храмы Ватыкана.

«Мы наш, мы новы свет збудуем».

Калізей выжыў. Стаіць увесь пабіты, у лахманах, з-пад якіх тырчаць адныя рэбры, ды ўсміхаецца. Вось тут быў зуб, яго яму выбіў Мікеланджэла дзеля храма Святога Пятра, тут сківіцу знеслі, каб пабудаваць палац Фарнезі. Збіты на горкі яблык хуліган, якім захапляюцца ўсё дзяўчыны двара.

Без гогалеўскага «неба старажытных» у Калізеі няма чаго рабіць. Там доўгія чэргі і паліць сонца. Мая парада: разам з Калізеем звычайна наведваюць яшчэ Форум і Палаціна, менавіта ў апошнім месцы лепш за ўсё набываць квіткі, бо там амаль няма чэргаў. Каштуе ўваход 12€ дарослым, а дзецям да 18... ну зразумела, бясплатна. Няма падзелу на грамадзянства: дзяцей у Італіі любяць незалежна ад герба на пашпарце.

Калізей у часы свайго росквіту мог прыняць да 87 тысяч гледачоў. Белыя з мармуру сцены вышынёй 50 метраў здзіўляюць нават сучаснага чалавека, што ўжо казаць пра старажытных. Уздоўж усёй сцяны ў праёмах арак стаялі пазалочаныя фігуры імператараў і вояроў. Кульмінацыяй усяго быў велічэзны ветразь чырвонага колеру, які раскрывалі падчас дажджу маракі, утвараючы дах над трыбунамі. На самой арэне праходзілі спаборніцтвы гладыятараў, цкавалі звяроў, ладзілі марскія баі.

### «Хлеба, відовішчаў»

Была кроў, шмат крыві на пацеху публіцы.

Сын залазіць на пастаменты і ўяўляе сябе ваяром...

Калізей — вялікі помнік чалавецтву, якое прайшло шлях ад забойства дзеля забавы да каштоўнасці кожнага асобнага жыцця. Адно толькі шкада: нельга зрабіць, як раіў Гогаль, — пабачыць неба ў абрысе Калізея. У цэнтр ходу няма.

### Адчуваць

Рым пазнаецца нагамі і сэрцам. А паколькі ў кожнага з нас свой рытм і даўжыня кроку, горад атрымліваецца розным. Безумоўна, ёсць знакамітыя пункты, але не яны робяць наш успамін. У Рыме цікава гуляць, збіваць абцасы, па вуліцах, мастах, уздоўж Тыбра заходзіць на выспы, узбірацца ўгору. Рым гэтае любіць і будзе ўдзячным. Няма тут на картах вуліцы Шчасця, але ёсць супадзенне грукату сэрца і поступу ног.

Знойдзеце ці не — ніякіх гарантый. Не адзін кіламетр мы прайшлі, каб выйсці на вуліцу Джуліі. Храмы, брукаванка, майстэрні ювеліраў, домам нумар 79 валодалі Медычы. Ужо потым даведаліся, што гэта першая простая вуліца Рыма, што будавалі яе Мікеланджэла і Рафаэль. Мы проста сядзелі на каменных лавах з адчуваннем, што нешта знайшлі.

— Паста стыне, давай дахаты.

Уяўная Медычы-маці магла так клікаць дзіця дадому. Адсюль не хацелася ісці. Месца, на якое вы, магчыма, увогуле не звярнулі б увагі, а мы ў ім нешта знайшлі.

Рым трэба прайсці, узняцца на пагоркі колькасцю сем. Адчуць, якім яго бачаць птушкі, з вышыні апельсінавага саду на Авентын. Потым зноўку ісці, спыняцца, каб выпіць кавы, набраць вады. Ляжаць на травах вілы Баргезі, у цені манумента Бакача быць закаханай парай.

Ісці, ісці, каб на захадзе сонца спыніцца. Хлеб, сыр, бутэлька віна. Недзе тут, на Капіталійскам пагорку, пачалася гісторыя Рыма. Ваўчыца, Ромул, Рэм. Яна ўзгадавала іх сваім малаком. Мы сядзелі на прыступках, крышылі сырам. Прыйшоў вожык, потым жонка ягоная, дзеці. Вячэру дзялілі на ўсіх, быццам за Ромула і Рэма прыродзе вярталі даўгі.

### Ньёкі

Тое, што назва Клецка паходзіць ад слова «клецьі», ніяк не замінае нам пагуляцца ў словы.

— Уяві, калі б назва паходзіла ад клёцак?

— Ежай звычайна не называюць, наадварот бывае, як з той Пармай.

— Ну а ўсё ж, калі б ад клёцак? Вось у італьянцаў клёцкі — ньёкі, як бы тады Клецк называўся на італьянскі манер?

— Скажы яшчэ, што рэцэпт клёцак завёз сам Скарына?

— Канечне! Падчас вучобы ў Падуі Францыск мусіў харчавацца клёцкамі і пельменямі (равіёлі) — звычайнай ежай студэнтаў. Можа, тады горад зваўся б Ньёцак?

— Хутчэй, Ньёкавічы ці Ньёкаў.

А як пераламляецца беларускае ў італьянскім? Як па мне, дык цудоўна. Чырвоныя кеды лідскай вытворчасці пасуюць дарогам Італіі, а Палессе з кніг Марціновіча цікава чытаецца як у Ватыкане, так і пад шум Тырэнскага мора.

Дробязі? Можа быць. Пад перчаныя ньёкі са слімакамі ды пад халоднае тасканскае чаго толькі галава не надумае.

### Згубіцца

Што за прынцэса, што ў Рыме не гублялася? Кінематограф падарыў нам безліч гісторый з падобным сюжэтам. У «Рымскіх вакацыях» знікла прынцэса Ганна (Одры Хэпберн), у «Шалёна закаханым» гераіня Арнелы Муці «замуціла» ўцёкі з лавеласам Барнебі (Чэлентана). Калі раней прынцэс можна было пазнаць па пярыне і нейкай там гарошыне, сёння толькі Рым можа пацвердзіць высакародны статус доны.

У фільме Вудзі Алена «To Rome with Love» шмат калізій, каханне, Іспанская лесвіца, опера — і, як без таго, каб адна з гераінь не згубілася. Чамусьці ў нашым пракаце стужка прайшла пад назвай «Рымскія вакацыі», як па мне, дык вакацыі — гэта калі да бабулі на вёску, а тут прыгоды, рамантыка, Рым. У гэтым горадзе трэба губляцца, быццам кажуць нам з шырокіх экранаў. Губляцца, каб потым знаходзіць не сябе, а таго, каго варта шукаць усё жыццё.

Працяг на старонцы 16.



**Калізей — вялікі помнік чалавецтву, якое прайшло шлях ад забойства дзеля забавы да каштоўнасці кожнага асобнага жыцця.**

# Вечны горад

Працяг са старонкі 15.

Згубілася ў Рыме і мая прынцэса, не знарок — так здарылася. Яе прынц фотаапарата і штопара не дагледзеў, кудысьці спяшаўся. На маё шчасце, прынцэса знайшлася. У горадзе, напоўненым сонцам і смакам, істотна не з кім ты прыязджаеш, а з кім яго пакідаеш.


На плошчы Торэ дэ Арджэнціна жывуць дзвесце катоў.

### Торэ Арджэнціна

У 2012 годзе іспанскі археолаг знайшоў месца забойства Юлія Цэзара, ім аказалася рымская плошча Торэ ды Арджэнціна.

— І ты, Брут?

Здзівіўся Цэзар, калі пабачыў сярод людзей, што прыйшлі за ім: па адной версіі — сябра, па другой — сына. Гісторыя здрады, узмоцненая геніем Шэкспіра, атрымала дакладнае месца. Археолаг Мантэроса знайшоў пліту-помнік, якую ў гонар імператара паставіў яго прыёмны сын Актавіян. Згодна з гістарычнымі тэкстамі, забойства адбылося ў курыі Пампеі, дзе засядаў Сенат Рымскай рэспублікі, але драматург перанёс падзеі ў тэатр Пампеі.

«Увесь свет — тэатр, а людзі ў ім — акцёры».

Гісторыя займела дататковы цымус, а вольніцу з фактамі можна дараваць мастаку.

Саму плошчу Торэ ды Арджэнціна археолагі раскапалі ў пачатку XX стагоддзя. Былі выяўлены рэшткі чатырох храмаў, датаваных I стагоддзем да н. э. Апроч таго на, здавалася б, такой невялікай прасторы знаходзіліся два тэатры (Пампея і Бальбы), цырк Фламінія і, урэшце, курыя Пампеі. Колькі і чаго дзіўнага да нашага часу хаваецца пад зямлёй, можна толькі здагадвацца. Сюжэт фелініеўскага «Рыма», калі пры будаўніцтве метро раскопваюць палац у спрадвечнай прыгажосці, цалкам рэальны.

Любіце катоў? Тады гэта ваша плошча: 200 катоў пасяліліся і жывуць сярод рэштаў былое славы. Усё легальна, з шыльдамі і надпісамі, што гэта іх месца жыхарства. Асабліва пазначана, што рымскіх пухнацікаў ды мурзікаў карміць забараняецца, бо яны потым удзячна пабягуць за вамі і могуць трапіць пад машыны. Так, гэта ўсё пра вулічных катоў, якім проста ахвяравалі гістарычную спадчыну. А колькі ў іх гонару, годнасці — не менш чым у таго Юлія Цэзара. Кожны — імператар і кароль у вусатай пысе. Чорныя, белыя, чарапахавыя — усіх нават адразу і не заўважыш, гойсаюць з каменя на калону, спяць пад аркамі, лянява пазіруюць турыстам. Што там Цэзар, што там Брут? Арджэнціна належыць катам. І калі Сяргей Міхалок з брыгадай рэвалюцыянераў імя Арнелы Муці надумаюць тут выступіць, дазвол трэба будзе спытаць у катоў. Я нават ведаю, якім будзе іх адказ.

— І ты, Брута?

### Карбанара

Аднойчы я вяртаўся з Рыма праз Вільню. Начны пералёт, потым ранішні цягнік — я адразу ж зваліўся ў сон. Пад грукат колаў я сніў марожанае, піцу, ліманчэла: нібыта нехта расказваў, а я за кожным словам бачыў знаёмы мне смак, я нікуды не адлятаў, вячэраю недзе ў Рыме, хутка будзе дэсерт. Калі ж мяне разбудзіў праваднік, побач са мною сядзелі хлопец з дзяўчынай — гэта іх Італію я слухаў увесь час.

Італія смачная, як успаміны з дзяцінства. Калі бабуля на світанку распальвала печ і пякла нам аладкі. Малымі, мы не ведалі, што такое шашлык, затое якім смачным быў мокры батон, што пасыпалі цукрам. Простыя рэчы, незабыўныя, смачныя.

Італьянская кухня па-хатняму свойская, тое што мы згубілі ў шматпавярховых будынках сучасных гарадоў, італьянцы змаглі захаваць. Дольчэ віта мусіць пачынацца з сябе.

Мы едзем у Італію, каб атрымаць асалоду. Гісторыя, культура, традыцыі, кухня — усё пераплецена, трэба пазнаць усё, каб пачуць сімфонію цалкам. Ніякай пагарды да ежы быць не можа, яна — частка культуры. Паганіні, Вердзі, Феліні — усе яны добра гатавалі, а Расіні нават пісаў кулінарныя кнігі.

«У Гальяні іль Кольоні
Закажі себе в Твери
С пармезаном макароні
Да яїчницу свари».
А.С. Пушкін

Усе словы будуць пустымі. Трэба кінуцца ў бойку з відэльцам і лыжкай і здацца ў палон на дэджысты. Пазнаць, што макарона можа быць самадастатковай стравай, а кветкі цукініі з анчоусам выклікаюць гастранамічны аргазм.

Жыццё больш не будзе такім, як раней: вы кінеце ламаць перад варкай спагеці, а на апошнія грошы купіце кулінарную кнігу, каб паўтарыць зведаны цуд. Халоднымі восеньскімі вечарамі станеце пужаць землякоў сваім «так, мы ў Італію есці», а пры выбары віна звяртаць увагу на рэгіён.

### «Макарона аб'яднае Італію»

*«Макарона аб'яднае Італію».*
***Гарыбальдзі***

У 1861 італьянцы здолелі вызваліцца з-пад улады аўстрыйцаў і ўтварыць адзіную дзяржаву. Ці трымаецца еднасць Італіі на макароне — хто яго ведае?

Рымская паста — гэта карбанар, белая з жоўтым: саюз вяршкоў, пармезану з беконам і спагеці аль дэнтэ. Найлепшую пшаніцу для пасты вырошчваюць на поўдні Сіцыліі, пармезан паходзіць з-пад Пармы, з поўначы. Вось яна — Італія, аб'ядналая мовай Дантэ і пастай аль дэнтэ.

Рымскія рэстараны не дарагія. Лічыцца, што найлепшыя знаходзяцца ў раёне Трастэверэ. Яны ўсе розныя, з вайфаем і без, у некаторых можа не быць нават шыльды, а кухар будзе гатаваць не па меню, а па натхненні. Там не будзе раскошы палацаў і са срэбра відэльцаў, затое там вас чакае атмасфера дома і смак незабыўнай кухні, як у бабулі ў дзяцінстве.

### Чынечыта

На лініі А рымскага метро ёсць станцыя «Чынечыта», а ў Мінску — незразумелая «Маскоўская». Што чакае чалавека, калі ён выходзіць на гэтай станцыі? Вуліцы такой там няма, гастраном «Маскоўскі» не заўважны таксама. Можа, нехта кагосьці хацеў заблытаць, скіраваць у іншы бок? Партызаншчына чыстай вады, прытым што побач месціцца нацыянальная кінастудыя. Наша Чынечыта. Цудоўная атрымалася б назва — «Партызанфільм», выбачайце, «Беларусьфільм».

— Асцярожна, дзверы зачыняюцца. Наступная станцыя....

«Чынечыта» перакладаецца як «горад кіно». Слова сугучнае з італьянскім «феліччыта», што па-нашаму значыць «шчасце»: на гэтай студыі нарадзілася новая плынь у кіно, неарэалізм. Фільмы Антаніёні, Вісконці, Феліні не толькі прынеслі славу студыі, але і сталі залатым фондам сусветнага кінематографа. Спадчына атрымалася настолькі велізарнай, што сучасным італьянскім кінематаграфістам увесь час прыходзіцца даказваць сваю адпаведнасць папярэднім майстрам.

Сёння кожны ахвотны можа наведаць студыю і пабачыць павільёны, якія называюцца прыгожым словам *teatro*. Святая святых — тэатра за нумарам 5, тут здымаў свае фільмы Феліні.

Каб паласавацца марожаным на Іспанскай лесвіцы ці прызнацца ва ўсім зробленым перад Бока Верычыта непатрэбна ніякая студыя. Вось яны «Рымскія вакацыі». Лёгка, нібы ў кіно, пераадолець 320 прыступак і апынуцца на вяршыні сабора Святога Пятра. Вось яны, героі фільма Феліні, якія можна ўсё, нават залезці пад струмені вады на Трэві. Не дазволіць паліцыя? А вы паспрабуйце — гэта ж вам не красці веласіпед.

Рым можа сабе дазволіць ніяк не пазначаць кінаславутасці — і без таго турыстаў хапае. Калі ідзеш па вуліцы Венета, нішто не кажа, што тут здымаліся эпізоды «салодкага жыцця» багемы з удзелам фатографа Папарацы, чыё імя потым стала агульным.

Рым сам па сабе — гэта ўжо гатовыя дэкарацыі, хоць зараз бяры ды здымай фільмы пра розныя эпохі і нават краіны. Такое адчуванне, што трапляеш у нейкі Дыснейлэнд.

Вось, напрыклад, што заўгодна можна было чакаць убачыць у Рыме, толькі не піраміду, а яна ёсць. Палкаводзец Цэстый, што ваяваў у Егіпце, з дапамогай тутэйшых зладзіў сабе вось такую сціплую пахавальню. Не заленаваліся прывезці адтуль і шматлікія абеліскі з характэрнымі для Егіпта выявамі, а каб не знішчылі, наверсе ўсталявалі крыжы. Ці вось іншы прыклад. Усім вядома, што на тэрыторыі Рыма знаходзіцца такая дзяржава, як Ватыкан. Толькі гэта не адзіная краіна, якой даў прытулак Вечны горад. Ёсць яшчэ адна памерамі ў адзін двор — Мальтыйскі ордэн. Праз замочную шчыліну гэтай краіны можна пабачыць уласна Мальтыйскі ордэн, Італію і Ватыкан. А што такое сам кінематограф як не аўтарскі позірк рэжысёра праз дыяфрагму кінакамеры? Цікавага тут шмат, асабліва калі ведаць гісторыю.

### Людзі

*«Рым — гэта маці, якая нікога не абавязвае паводзіць сябе прыстойна. А рымляне — вялікія дзеці, смешныя і простыя, якія больш за ўсё жадаюць, каб ніхто не парушаў іх векавых традыцый».*
***Федэрыка Феліні***

Што можа даведацца турыст пра рымлян? Хутчэй за ўсё, нічога. Кропкі перасячэння абмежаваныя і тычацца пераважна сферы абслугоўвання. Стоп. Гэта не тое слова, якое характарызуе ўзаемаадносіны мясцовых жыхароў і гасцей. Хутчэй — партнёрскія адносіны, дзе амаль не назіраецца звычайнага ў такіх выпадках паслужлівага: «Чаго жадаеце?»

У Рыме няма адчування, што горад жыве дзеля турызму, хутчэй, ён вымушаны прымаць яго як непазбежнасць, своеасаблівую адказнасць перад гісторыяй. Пры ўсёй глабалізацыі і адкрытых межах рымляне здолелі захаваць сваю ідэнтычнасць. Тут не сустрэнеш, як, напрыклад, у Іспаніі, цэлыя кварталы, дзе жывуць адны турысты, а мясцовай мовы не ведаюць нават афіцыянты. Пра яго нельга сказаць і сумнае: «Быў я ў там Парыжы, там адныя арабы ды афры-


Італія — гэта найперш італьянцы. А яны такія, як італьянская музыка.


«Так, мы ў Італію ездзім у тым ліку есці», а найлепшая кухня — у малых сямейных рэстаранчыках.

канцы». Рым нейкім чынам абсарбуе замежнікаў, не дазваляе ім змяняць горад пад сябе.

Якія ж яны, сучасныя рымляне? Дакладна ведаю: шчодрыя. Нам у рэстаране рабілі зніжку ў 50%. Проста так. Незнаёмец на пляжы, заўважыўшы, што мяч у сына не трымае паветра, прэзентаваў дзецям два абсалютна новыя.

— Падарунак. Бясплатна.

У прадуктовай краме касір спытаў, ці ёсць у нас картка іх сеткі, пачуўшы нашае «no», дастаў з кішэні сваю і зрабіў нам зніжку ў 4€. Не ўзялі грошы і за праезд сына да аэрапорта, хаця па правілах мусілі.

Рымляне, яны іранічныя.

— Сіньёрэ? Які ж я сіньёрэ? Сіньорэ — гэта Бог, а я Амадэо, кажа нам афіцыянт і дае малым па цукерцы, на адной намаляваны леў, на другой — малпа, што супадае з сімволікай гадоў нараджэння дзяцей.

— Вялікі атрымаўся рахунак?

— Un momento.

Складае паперку шматкроць і ўсміхаецца. Сапраўды, лічба ўжо не пужае.

Іншага не скажу, бо не ведаю. Мы бачылі на аўтобусным прыпынку такіх жа стомленых людзей, як пасля працоўнай змены на МАЗе. Эліта, багема? Турыстам яе не спазнаеш, а вось у пранізліва сумотнай «Вялікай прыгажосці» пабачыш.

## Вада

Вечны горад.

— А чаму ён Вечны? — Бо быў заўсёды. — А чаму ён не толькі быў, а такім і застаецца? «Вечны» — гэта ж пра тое, што ён і цяпер «у форме». — Мо таму што ў ім заўсёды была вада?

Нафта? Кіньце! Пра што першае паведамляюць, калі знаходзяць новую планету? Ці ёсць там вада, ды і сам чалавек — гэта на 85% яна. Вада была і заўсёды будзе асновай жыцця. Катар, саўдыты — усё гэта былое, Беларусь — вось патэнцыйна самая багатая краіна ў свеце. І Рым будзе квітнець, бо ў ім заўсёды была сістэма водазабеспячэння, яе пабудавалі яшчэ старажытныя рымляне. Горад безліч разоў разбуралі, але ён ізноў адбудоўваўся, бо, дзе вада, там чалавеку зручна жыць.

Сёння мы ходзім па Рыме і паўсюль бачым крыніцы. Для нас, турыстаў, гэта проста збаўленне, бо ў спёку выпіваецца безліч вады, а тут яна проста дарма. Не паспяваеш напоўніць бутэлькі вадой, як трэба зноў. Калі мы жылі побач з Ватыканам, звычайна выхад у горад пачынаўся з папаўнення запасаў вады з крыніц Святога Пасаду.

У Рыме летам, здаецца, можна не есці, а вось без вады — ніяк.

Але сапраўдным бенефісам вады ў Рыме сталі яго фантаны, іх у горадзе каля 200, а раней колькасць даходзіла аж да 800. Яны, нібы дыяменты на пярсцёнках, упрыгожваюць плошчы італьянскай сталіцы, а галоўны каштоўны камень — Трэві. Архітэктурны комплекс са статуямі і барэльефамі, фантан стаў візітоўкай Рыма. У Рыме за год з вады дастаюць да мільёна еўра. Людзі хочуць вяртацца.

А колькі фантанаў схавана ва ўнутраных дварах прыватных тэрыторый! Некаторыя з іх давялося ўбачыць. Адзін быў з залатымі рыбкамі, а другі бруіўся для навучэнцаў і выкладчыкаў школы.

Фантаны — гэта як з тортам. Быццам не галоўная страва, але калі ён ёсць, адразу ўзнікае адчуванне свята. Так і фантаны, зусім не абавязковыя на плошчах, але гэтыя пырскі вады, гуляючы з сонцам, ствараюць атмасферу, так неабходную гораду. І хто ведае, можа, калі жывеш і навучаешся сярод такой прыгажосці, міжволі набываеш добры густ.

## Прыгажосць

Форма карабінерам пасуе, але ж ці магло быць інакш у краіне-заканадаўцы мод? Мяркую, што не, бо *Armani* і *Valentino* не ўмеюць кепска шыць, а карабінеры — неадпаведна выглядаць. Італьянскія мужчыны сочаць за сабой: штотыдзень наведваюць цырульню, апранаюцца з густам і абутак заўсёды маюць чысты. Яны, канешне, таксама губляюць шкарпэткі, а муж нашай сяброўкі Тані нават вывучыў фразу па-расейску:

— *Gde moi nosochki?*

Аднак гэта — сусветная змова жанчын, нічога не зробіш. А вось быць у форме — на гэта мужчыны здольныя. Мы за ўвесь час убачылі толькі аднаго карабінера з пузам, і тое недзе ў далёкіх закутках аэрапорта. Відаць, ён проста згубіўся, нібы той кот, і яго прытуліла якая-небудзь сіньёра, а каб не збег, напэўна, корміць яго без перапынку смачнай карбанарай. Астатнія ахоўнікі правапарадку — зграбныя і падцягнутыя. Форма пасуе і жанчынам, яна не робіць іх мужчынападобнымі, а падкрэслівае іх прыгажосць.

Давялося пабачыць і вайскоўцаў: турбулентнасць у свеце прымусіла ўрад задзейнічаць іх дзеля забеспячэння спакою на вуліцах. Чорная форма, капялюш з залатой кукардай ды з пяром глушца на баку — так выглядае італьянскі стралок *bersagliere*. Капялюш называецца вайра, носяць яго па-піжонску, набакір, хаваючы мочку правага вуха.

Гэта Італія — тут галоўнае прыгажосць. Гатуеш ты піцу, шыеш вопратку, ствараеш суперкар ці мапед — усё мусіць быць прыгожым. Не кроў, а прага прыгожага робіць сучасных італьянцаў нашчадкамі як дзеячаў Ренесансу, так і старажытных рымлян. Жыць прыгожа, смачна ды з густам. Таму добрая вопратка карабінераў і вайскоўцаў — гэта ўсё не выпадкова. З пёрамі стралкам, напэўна, нязручна, затое па-шляхецку шыкоўна.

## Сустрэцца

З кім бы я хацеў ды так і не сустрэўся ў Рыме?

— З Францэска Тоці, легендарным капітанам футбольнага клуба «Рома». Усю кар'еру Францэска праводзіць у адным клубе. Дарэмна яго заваблівалі славай у Мадрыд, ён не спакусіўся на нафтадаляры шэйхаў.

— З Рабэрта Беніні. Жыццё цудоўнае, а яго ход — здымаць у кожным сваім фільме сваю жонку — геніяльны.

З кім мне ніколі не сустрэцца, а хацелася б:

— З Джардана Бруна. Я б паказаў яму інтэрнэт.

— З Мікеланджэла. Проста здалёк паглядзець бы, як ён малюе той дотык.

## Піца

— Сіньёр, сіньёр, у нас добрая піца. — Печ на дровах? — Вядома.

Звычайна там, дзе так заклікаюць, нічога добрага чакаць не прыходзіцца. Я б яшчэ прайшоўся, пашукаў ціхенькую вулачку, куды турысты не даходзяць, а кліенты пераважна з мясцовых. Толькі на гадзінніку ўжо трэцяя, а ў такі час італьянцы ўжо паабедалі, у лепшым выпадку папіваюць сабе каву з цірамісу. Да таго ж дзеці віснуць на руцэ, усім сваім выглядам паказваючы, што калі я не кіну так здзекавацца з іх і мы не зойдзем у гэтую піцэрыю, мяне чакае вясёлая старасць. Выбар такі, што яго няма, — трэба заходзіць.

Атрымаўшы нашу згоду, італьянец выбягае на сярэдзіну чатырохпалоснай вуліцы і ўскінутымі ўгару рукамі намагаецца спыніць аўтамабільны рух.

— Сіньёры вырашылі пакаштаваць нашу піцу!

У гэты момант, відаць, спыніліся таргі на рымскай біржы. Тэлекампаніі накіравалі свае гелікоптары на скрыжаванне вуліц Пеперoні і Тальятэлі. Жанчыны кінулі ўсе свае справы: малыя плачуць, рагу а-ля баланьезэ пачало падгараць. У барах цішыня, парламент за хвіліну прымае лёсавырашальны закон, які дазваляе турыстам, што пажадалі паспытаць піцу, пераходзіць дарогу, дзе і як ім заўгодна. Толькі мы, беларусы, ведаем, што закон пачынае дзейнічаць з подпісам прэзідэнта і пасля публікацыі ў адпаведных СМІ, а на гэта спатрэбяцца яшчэ пару хвілін. Таму, каб не чакаць, мы рушылі да святлафора.

Піца — гэта Італія. Маргарыта — колераў італьянскага сцяга. Чатыры сыры — як чатыры сыны. Гарганцола, Скаморца, Ды Фантына і Гран Падана, — годныя хлопцы, сем'ямі сабраліся на Ферагоста. А вось сама Капрычоза — свавольная модніца, у кожным рэгіёне ў новых спадніцах-інгрэдыентах. У падсмаленым подыху Везувія нараджаецца найлепшая піца ў свеце — Напалі: белае мора мацарэлы, у хвалях якога гуляюць анчоусы.

Што робяць італьянцы такога і чаму не атрымліваецца ў іншых? Самы лагічны адказ: яны маюць найлепшыя прадукты і ведаюць, як іх спалучаць. Папулярная ва ўсім свеце, на сваёй гістарычнай радзіме піца тонкая, і прыносяць яе неразрэзанай. У залежнасці ад соусу асновы падзяляецца на белую і чырвоную, а галоўным інгрэдыентам лічыцца сыр.

Піцу любяць старыя і дзеці. Нам было смачна.

— Грац'е, сіньёр.

## Кампа дэй Ф'ёры

*«... І не трэба так трагічна, даражэнькі. Глядзіце на гэта з уласцівым вам гумарам ... З гумарам! Урэшце, Галілей жа ў нас таксама выракаўся. — Таму я заўсёды больш любіў Джардана Бруна...»*

***Рыгор Горын***

***«Той самы Мюнхгаўзен»***

«Поле кветак» — так перакладаецца назва пляца Campo dei Fiori. Гэта калі рабіць тое дакладна, у стылі гугл транслэйт. Дадамо трошкі ўяўлення — і «поле» ператвараецца ў «мора», а з глытком віна — перад намі цэлы сусвет: кветак, зор.

Вандраваць без фантазіі сумна, і без ведання фактуры перад вачыма застаюцца выключна голыя камяні і нейкія людзі, што мітусяцца навокал. Каб растлумачыць гэтую думку, варта прыгадаць дзяцей. Ім цікавая гульня, а цуды архітэктуры і шэдэўры мастацтва іх не кранаюць праз узрост і малы жыццёвы досвед. З часам яны дойдуць да ўспрымання прыгожага, прачытаюць цікавыя кнігі і зразумеюць веліч гісторыі і ролю асобаў у ёй. А пакуль толькі абяцанае марожанае можа прымусіць іх слухаць, навошта ў такую спёку бацькі зацягнулі іх у гэтае месца.

Мора, сусвет, кветкі. Колькі ў свеце кветак? Ці падлічваў хто-небудзь? А зор? Прыкладна тая ж бясконцасць, што зразумела сёння кожнаму. «У Сусвеце існуе незлічоная колькасць целаў, падобных да нашага Сонца», — сказаў Джардана Бруна, і яго спалілі. Менавіта на *Campo dei Fiori*. Зрабілі тое цішком, бо баяліся, што яго словы і ідэі прывядуць да чарговага падзелу царквы. Затрыманы па даносе свайго вучня, імя якога не вартае ўспаміну, Джардана Бруна правёў за кратамі шэсць гадоў. Катавалі, абяцалі рознае — усё вытрываў. «Спаліць — не значыць абвергнуць!» — і быў такім.

Амаль праз тры стагоддзі на месцы страты паставяць помнік, але для царквы Джардана Бруна да гэтага часу не рэабілітаваны.

Сёння на *Campo dei Fiori* — рэстарацыі і кавярні, штоўранак тут праходзіць кірмаш, дзе гандлююць пераважна бангладэшцы. Кветкі, прысмакі, гэтак жа, як і людзі з розных краінаў, спраўджваюць думку філосафа пра разнастайнасць жыцця. Ён казаў пра космас? Няхай так. Для мяне ж космас тут, на пляцы.

Між тым у Рыме спякотна. Гойсаюць ровары, веспы. У рэстарацыі «Ла Карбанара» гатуюць карбанару. Дзеці з матуляй заходзяць па марожанае ў кавярню *Mama mia*. Я сяджу на прыступках дома насупраць, сёрбаю замарожаны напой з мяты.

Месца на *Campo dei Fiori* хапае ўсім, а зорак у небе — бязмежнае мора.

## Мора

Усё ў нас, беларусаў, ёсць. Свая краіна, чэмпіён па футболе, металічныя грошы ў кішэнях, напоі, урэшце, мова, на якой я пішу і размаўляю дома. Толькі мора няма, а ёсць сум, што калісьці было ад мора да мора.

Спадар любіць горача — Чорнае мора, таварыш не любіць купацца, паважае з паненкай шпацыр — вось вам Балтыйскі прыліў. Было і няма. Ёсць рэкі, азёры, а на вуснах не стае солі, калі выходзіш з-пад хвалі.

У рымлян ёсць мора. 15 кіламетраў па мапе, трыццаць хвілін цягніком. За тысячагоддзе Вечны горад так і не стаў партовым, затрымаўся за крок да вады. Мора для Рыма — гэта ўцёкі са спякотнага горада ў лета, *Mare Nostrum*, па-нашаму — лецішча.

Мы едзем да яго шторанку. Перасадка на станцыі *Piramida*, крама з напоямі, у пясок — парасон. Купаемся, загараем, скурай аблазім. Нашы замкі змывае вадой. Недзе тут здымаў фінальную сцэну *La Dolce Vita* Феліні. Мора, сосны, бяссонны Рым, прыгажосць дзяўчыны.

Пайшлі цітры:

Fine.

**Андрэй Дзмітранок**


Непаўторная Італія.

# «Дзе наша Віленшчына, Нёмну хвалі?..»

Пра невядомыя радкі вядомага верша піша гісторык **Аляксандр Пашкевіч**.

29 верасня 2016 года споўнілася роўна 90 гадоў з таго дня, як з-пад пяра беларускага паэта Уладзіміра Дубоўкі выйшаў верш, вядомы як пад аўтарскай назвай «На ўшанаванне новага падзелу беларускай зямлі», так і пад назвай, дадзенай па першым радку твора — «За ўсе краі, за ўсе народы свету...». Літаратуразнаўца Дзмітрый Бугаёў у сваёй манаграфіі, прысвечанай жыццю і творчасці паэта, пішучы пра гэты верш, адзначаў, што, «рызыкуючы ўсім, Дубоўка даў адзін з самых яскравых узораў патрыятычнай паэзіі, якая натхнялася думкай пра беларускую незалежнасць».

Адкрыта антысавецкі характар твора рабіў цалкам немагчымым яго легальную публікацыю ў савецкіх падцэнзурных выданнях. Больш за тое, яго аўтару пагражала вялікая асабістая небяспека, бо, хоць магутны махавік рэпрэсій у савецкай імперыі ў той час яшчэ не паспеў разгарнуцца на поўную моц, сапраўдным палітычным плюралізмам у ёй ніколі і не пахла. Дзеля таго твор быў падпісаны нікому не вядомым псеўданімам «Янка Крывічанін» і распаўсюджваўся патаемна, у рукапісных ды машынапісных копіях. Толькі ў сярэдзіне наступнага, 1927, года верш быў нарэшце надрукаваны, але толькі за мяжой, у Вільні.

Доўгі час аўтарства гэтага верша было дакладна не ўстаноўлена, калісьці яно прыпісвалася нават Янку Купалу. Толькі ў 1995 годзе вядомы гісторык Уладзімір Міхнюк, папрацаваўшы са следчымі матэрыяламі па справе «Саюза вызвалення Беларусі», што захоўваюцца ў архіве КДБ Беларусі, неаспрэчна даказаў, што аўтарам твора быў Уладзімір Дубоўка, які фактычна за яго і быў арыштаваны. Акрамя таго, у тых матэрыялах апісваўся і працэс перадачы верша за мяжу для публікацыі. Паводле звестак, сабраных чэкістамі, актыўны ўдзел у перапраўцы верша на Захад браў партыйны дзеяч, вядомы нацыянал-камуніст Алесь Адамовіч, які падчас Акадэмічнай канферэнцыі ў Менску ў лістападзе 1926 г. азнаёміў з яго тэкстам, а пасля прапанаваў перадрукаваць у рэдагаваных імі выданнях спачатку Вацлаву Ластоўскаму з Коўна, а пасля Канстанціну Езавітаву ў Рызе. Ластоўскі нібыта паставіўся да гэтай прапановы вельмі насцярожана і ўзяць верш адмовіўся, Езавітаў жа перадачу прыняў. Праўда, у сваім уласным выданні (а ён выдаваў тады ў Рызе газету «Голас беларуса») апублікаваць верш Езавітаў таксама не наважыўся, замест гэтага пераслаўшы яго далей, віленскім знаёмым. У Вільні твор і быў нарэшце апублікаваны ў сярэдзіне 1927 г. на старонках часопіса «Беларуская культура». Паводле гэтай першапублікацыі пазней, пачынаючы з 1990-х гг., рабіліся і ўсе шматлікія перадрукі твора ўжо ў незалежнай Беларусі, бо ў следчых справах захаваліся толькі нелітаратурныя пераклады верша на расійскую мову.

У той віленскай публікацыі верш, аднак, быў надрукаваны не цалкам. У яго сярэдзіне былі пакінуты прагал памерам у адно чатырохрадкоўе, вылучаны кропкамі. Даследчыкі творчасці Дубоўкі, натуральна, не маглі не звярнуць на гэта ўвагу і выказвалі гіпотэзы адносна таго, што ж мусіла быць замест гэтых кропак у арыгінале. Часам гэтыя версіі былі дастаткова экзатычныя. Так, Дзмітрый Давідоўскі, аўтар некалькіх навуковых артыкулаў пра Дубоўку, у тым ліку адмыслова прысвечаных гэтаму вершу, у №8 часопіса «Крыніца» за 1997 год пісаў:

«Паводле сведчання Алесі Адамаўны Бабарэкі, у вершы была страфа, у якой на беларускі лад асэнсоўваўся вядомы антысеміцкі лозунг «Бі жыдоў — ратуй Расію». Перапісваючы свой твор на машынцы, Ул. Дубоўка замест гэтае страфы пакінуў чатырохрадкоўе кропак. На жаль, аднавіць гэты фрагмент тэксту немагчыма, бо рукапіс верша паэт спаліў».

Іншая версія ўтрымлівалася ў следчых паказаннях Алеся Адамовіча. Прызнаючыся ў здзейсненым «злачынстве», ён адзначыў, што «гэты верш з'явіўся ў Вільні ў фашысцкім часопісе, і радкі супраць Польшчы былі выкінутыя». І якраз яна з'яўляецца слушнай, бо пацвярджаецца архіўнымі матэрыяламі. У справах фонда ЦК КПБ у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захаваліся дакументы, у якіх апісваліся антысавецкія настроі ў беларускім грамадстве. Сярод іншага там цытаваўся на мове арыгінала і ўвесь тэкст верша «Янкі Крывічаніна», без цэнзурных купюр. Ніжэй мы прыводзім поўную версію твора паводле публікацыі ў «Беларускай культуры», але з дадаткам апушчанага там фрагмента (вылучаны тлустым шрыфтам):

За ўсе краі, за ўсе народы свету,
І што былі, і прыйдуць што пасля:
Аздобленае горкім цьмяным цветам
Зазнаць нам гора лёс благі пасляў.

Скараліся і моўчкі ўсё прымалі:
Самохаць можа прыйдзе лепшы час.
Як лісцінку на поплаве качалі
І зневажалі чужаніцы нас.

Калонія праз некалькі сталеццяў,
Наедак ненажорным груганом...
Я прысягаю — праклянуць нас дзеці...
За апяшаласць нашу нам праклён.

На плечы ганьбы мы прынялі многа:
Нявольніцтва, жабрацтва навакол.
Слязьмі сясцёр чужынцам мыем ногі,
Заместа песень стогны бедакоў.

Прыцік наш край: ад гутарак аскома...
Прыцік наш край: маўчаць, усе маўчаць.
Свабодай карыстаюцца сачкомы,
Каб тых, хто мысліць, у астрог саджаць.

Дакуль чакаць і варажыць павінны?
Пакуль раса не выесць вочы нам...
З усіх бакоў над нашаю краінай
Сплялася несусветная мана.

На нашым карку торг спраўляе смела
Масква з Варшавай, з Рыгай і Літвой,
І наша змучанае катам цела
Штогодна новай кроіцца мяжой.

Масква сусвету вушы прашумела
Пра самавызначэнне аж да зор.
Смаленск дзе? Невель? Гомель дзе падзела?
Стварыла гомельскі ганебны калідор.

**Дзе наша Віленшчына, Нёмну хвалі?
З іх лупіць скуру, узяўшы ў Рызе, пан.
І сёння вось Літве замацавалі
Наш гэты край, стаптаны на дзірван.**

Мы цацкай нейкай для чужынцаў сталі,
Пасмешышчам для свету усяго,
Як быццам мала ў нашай волі сталі,
Як быццам ў сэрцах нашых згас агонь.

Браты мае! Даволі ашуканства!
Гасцей да хаты выправіць пара.
З лазы заплаканай сплящём ім кайстры
Для нарабаванага у нас дабра.

Сляды іх гідкія пяском пасыпем,
Пясочкам светленькім пасыпем іх,
Каб гэтай шумы, акупантаў-злыдняў
Апошні водгук прагучэў і сціх.

А не, дык надармо усё, жыццё надарма,
Лажыся ў яму Сам, Народзе мой, —
Пакуль ты сам не будзеш гаспадарыць,
Не развітаешся з жабрацкай калітой.

Каб зразумець, чаму і як гэтыя радкі аказаліся з верша выдаленыя, варта звярнуцца да сітуацыі, што склалася тады ў беларускім жыцці ў Вільні. Беларускі рух у Заходняй Беларусі ў 2-й палове 1920-х быў неаднародны і падзяляўся на некалькі не зусім прыязных, а часам і непрыхавана варожых адна да адной груповак, кожная з якіх мела свае друкаваныя органы. У Вільні ў той час рэгулярна выходзілі адразу некалькі беларускіх газет (як правіла, з перыядычнасцю раз ці два на тыдзень), якія асвятлялі такія асноўныя плыні беларускага руху, як радыкальна-сацыялістычную (грамадоўскую і постграмадоўскую), памяркоўна-нацыянальную (перадусім звязаную з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй і яе саюзнікамі) і паланафільскую. Такая вялікая разнастайнасць беларускай прэсы давала вершу Дубоўкі шанцаў на публікацыю.

Не кожнае віленскае беларускае выданне, аднак, на яе адважылася б. Перадусім адпадалі радыкальныя газеты, звязаныя з Беларускай сялянска-работніцкай грамадой. Прадстаўнікі гэтай плыні стаялі на выразна прасавецкіх пазіцыях — больш за тое, яны нават фінансаваліся з-за ўсходняй мяжы. Натуральна, што пры такіх варунках на друк яўна антысавецкага твора яны не пайшлі б. Больш шанцаў у верша было б выйсці на старонках «Сялянскай нівы» (органа Беларускага сялянскага саюза Васіля Рагулі і Фабіяна Ярэміча) ці «Беларускай крыніцы» (органа Беларускай хрысціянскай дэмакратыі), якія ставіліся да савецкай рэчаіснасці больш узважана і змяшчалі на сваіх старонках шмат крытычных артыкулаў адносна яе. Аднак з рэдакцыямі гэтых выданняў таксама па нейкіх прычынах дасягнуць паразумення не ўдалося (калі верш ім увогуле прапаноўваўся). Магчыма, БХД і БСС таксама мусілі ўлічваць моцныя прасавецкія настроі ў грамадстве, за ўплывы ў якім яны вялі жорсткую барацьбу з прыхільнікамі радыкальных арганізацый, і таму баяліся даць лішнія падставы для ўзмацнення агітацыйнай кампаніі супраць сябе.

У выніку з усіх беларускіх сілаў у Вільні без нейкіх іміджавых стратаў для сябе маглі апублікаваць праблемны верш толькі тыя, якія належалі да т.зв. паланафільскага лагеру, то бок якія цвёрда стаялі на пазіцыях польскай дзяржаўнасці і нават мелі арганізацыйную і фінансавую падтрымку сваёй дзейнасці з боку польскага ўрада ці спецслужбаў. Якраз тады ў развіцці гэтых арганізацый пазначыўся новы этап, звязаны з тым, што пасля разгрому польскімі ўладамі ў пачатку 1927 г. Беларускай сялянска-работніцкай грамады адным з кірункаў польскай дзяржаўнай палітыкі стала на некаторы час падтрымка лаяльных адносна Польшчы беларускіх арганізацый (вядомы прынцып спалучэння бізуна і перніка). Такія арганізацыі, праўда, існавалі і раней, але да таго часу паспелі сябе значна дыскрэдытаваць, у тым ліку і дзеля не надта годных паводзін свайго кіраўніцтва. Ва ўмовах жа своеасаблівай «перазагрузкі» дзяржаўнай палітыкі ў гэтай галіне новым тварам паланафільскай часткі беларускага руху пагадзіўся стаць стары беларускі дзеяч яшчэ нашаніўскіх часоў Францішак Умястоўскі, які да таго часу фактычна ўжо быў адышоў ад беларускіх спраў. У сакавіку 1927 г. ён пачаў выдаваць штотыднёвую грамадска-палітычную і гаспадарчую газету «Беларускі дзень», а ў ліпені пад ягонай рэдакцыяй выйшаў першы нумар літаратурна-грамадскага штомесячніка «Беларуская культура», на старонках якога знайшлося месца і крамоль-



Рэдкалегія часопіса «Узвышша»: Уладзімір Дубоўка сядзіць у цэнтры. Злева — Кузьма Чорны, справа — Кандрат Крапіва. Стаяць Адам Бабарэка (злева) і Язэп Пушча. 1927 год.



**Алесь Пашкевіч**

Нар. 1978. Гісторык, кандыдат гістарычных навук. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Arche-Пачатак». Даследуе гісторыю нацыянальнага руху 1-й паловы XX ст., гісторыю Заходняй Беларусі ў складзе Польшчы (1921—1939).

наму вершу «Янкі Крывічаніна» (хоць пры публікацыі верш пайшоў як цалкам ананімны, не падпісаны нават і псеўданімам). Вышэйцытаваныя словы Алеся Адамовіча, што верш быў надрукаваны ў «фашысцкім» часопісе, адлюстроўваюць толькі тагачасную прынятую бальшавіцкай прапагандай практыку ўсё апазіцыйнае адносна сябе трактаваць як фашысцкае, нават калі яно рэальна з гэтай ідэалогіяй нічога супольнага не мела.

На жаль, у нас пакуль што няма ніякіх звестак пра тое, хто і як непасрэдна звязваўся з Умястоўскім і як прымалася рашэнне аб друку верша на старонках «Беларускай культуры». Відавочна, аднак, што ў выдаўца часопіса ўзніклі праблемы ў сувязі з тым, што палова аднаго з чатырохрадкоўяў насіла выразна антыпольскі характар: «Дзе наша Віленшчына, Нёмну хвалі? З іх дзярэ скуру, узяўшы ў Рызе, пан...». Тагачасная польская цэнзура канфіскоўвала беларускія выданні і за куды больш бяскрыўдныя радкі. Дзеля таго гэтым чатырохрадкоўем было вырашана тады ахвяраваць, а месца, дзе яно мусіла быць, запоўніць кропкамі. Цяжка сказаць, прымалася гэта рашэнне рэдакцыяй часопіса самастойна ў рамках самацэнзуры ці падобнае рашэнне было настойліва парэкамендавана ёй зверху. Тое, што ў надрукаваным варыянце ўсё ж такі засталіся іншыя зусім не добразычлівыя ў дачыненні да Польшчы радкі: «На нашым карку торг спраўляе смела / Масква з Варшавай, Рыгай і Літвой», схіляе, аднак, нас да думкі, што пытанне з цэнзарамі загадзя ўзгаднялася, і ў выніку быў прыняты такі кампрамісны варыянт.

Апошнія ж два радкі рэпрэсаванага чатырохрадкоўя дапамагаюць нам зразумець, чаму верш быў напісаны (ці прынамсі пазначаны такой датай) менавіта 29 верасня 1926 г. і чаму ён меў такую не зусім зразумелую сённяшняму чытачу аўтарскую назву: «На ўшанаванне новага падзелу беларускай зямлі» (якая, як правіла, апускалася і пры першапублікацыі ў «Беларускай культуры», і ў большасці сучасных передрукаў). Беларускія землі, як вядома, актыўна дзяліліся паміж суседзямі ў 1915—1921 гг., калі на іх тэрыторыі ішлі ваенныя дзеянні, але пасля Рыжскай мірнай дамовы гэты працэс змяніўся на адваротны, і аж да 1939 г. Беларусь ужо не дзялілася, а толькі «ўзбуйнялася». Што ж угнявіла Дубоўку і прымусіла яго напісаць гэты верш, адзначыўшы, што «і сёння вось Літве замацавалі наш гэты край, стаптаны на дзірван»?

Справа ў тым, што за дзень да пазначанай даты напісання верша, 28 верасня 1926 г., у Маскве была заключана дамова аб сяброўстве і нейтралітэце паміж СССР і Літоўскай Рэспублікай. Савецкі Саюз, незадоўга перад гэтым выйшаўшы з міжнароднай ізаляцыі, вёў актыўную геапалітычную гульню, імкнучыся пашырыць свае ўплывы сярод іншага і ў балтыйскіх дзяржавах, дзеля чаго не саромеўся іграць на балючых для іх урадаў струнках. Для Літвы такой стрункі не даводзілася доўга шукаць, бо як палітычная эліта краіны, так і ўсё літоўскае грамадства ўвесь міжваенны час былі апантаныя ідэяй уключэння ў склад сваёй дзяржавы старажытнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага — Вільні. Яшчэ 12 ліпеня 1920 г. літоўскаму ўраду ўдалося падпісаць з урадам Савецкай Расіі міждзяржаўную дамову, паводле якой Літве мела адысці Вільня разам з вялікімі прылеглымі этнічна беларускімі тэрыторыямі аж да Горадні і Маладзечна. Пры дапамозе Чырвонай Арміі літоўцам на некалькі месяцаў удалося нават узяць гэтыя землі пад кантроль, але ў рэшце рэшт палякам, пры дапамозе хітрых камбінацый з «бунтам» вайсковых фармаванняў пад камандаваннем генерала Люцыяна Жалігоўскага, стварэннем марыянеткавай «Сярэдняй Літвы» і наступным далучэннем яе да Польшчы, удалося пакінуць Вільню і Віленшчыну за сабой і нават дамагчыся афіцыйнага прызнання гэтага акту з боку Лігі Нацый. СССР жа, не з'яўляючыся ў той час членам Лігі Нацый і праз тое маючы развязаныя рукі, пры заключэнні вышэйзгаданай дамовы з Літвой ад 28 верасня 1926 г. пагадзіўся далучыць да галоўнай канвенцыі дадатак, што савецкі ўрад не прызнае заняцця Віленшчыны Польшчай і лічыць яе часткай тэрыторыі літоўскай дзяржавы. Паняцце ж Літвы ў дадатку акрэслівалася межамі, вызначанымі літоўска-расійскай дамовай ад 12 ліпеня 1920 г. Менавіта заключэнне гэтай дамовы, якая фактычна чарговы раз вызначала (хай сабе пакуль што і толькі на паперы) будучыню беларускіх земляў без удзелу саміх беларусаў, і выклікала абурэнне Уладзіміра Дубоўкі. Акурат 29 верасня 1926 г. паведамленні пра заключэнне савецка-літоўскай дамовы і асноўныя яе палажэнні з'явіліся ў «Правде» і іншых савецкіх газетах, ды і сам характар тагачаснай працы паэта (ён працаваў у Маскве перакладчыкам на беларускую мову заканадаўчых і нарматыўных актаў ЦВК і СНК БССР) несумненна спрыяў ягонай інфармаванасці ў справах вялікай палітыкі.

Так сталася, што ўвесь перыяд існавання незалежнай Беларусі верш Уладзіміра Дубоўкі «На ўшанаванне новага падзелу беларускай зямлі» шмат разоў перадрукоўваўся ў перыядычным друку, уключаўся ў зборнікі выбраных твораў паэта і ў анталогіі беларускай літаратуры — але заўсёды без выкінутага польскімі цэнзарамі чатырохрадкоўя. Думаецца, самы час аднавіць справядлівасць і пачаць друкаваць гэты верш у тым выглядзе, у якім яго 90 гадоў таму выпусціў на свет аўтар.

# «Палын-палын»: раман Зянона Пазняка, які я прачытаў з адкрытым ротам

Неяк перад II сусветнаю вайною Зосі Бэлтушцы, якая жыла ў вёсцы на Віленшчыне, раптоўна забалеў жывот. Балела вельмі моцна, што бедная Зося аж курчылася. Калі яе паглядзеў лекар, то сказаў, што яна будзе неўзабаве нараджаць.

— Чаго, — утаропілася Бэлтушка, — чаго нараджаць? Мне жывот баліць.

Гэтак на свет прыйшоў адзін з герояў рамана «Палын-палын» Ёська Гарох — незаконнанароджаны сын беларускай вяскоўкі, падманутай віленскім аферыстам.

Раман «Палын-палын» — першы буйны празаічны мастацкі твор Зянона Пазняка, які хоць і пісаў раней мастацкія нарысы ды абразкі, спрабаваў сябе ў вершаскладанні, быў больш вядомы сваёй публіцыстыкай.




### Бязбацькавіч, у якога войска забрала тоеснасць

Ёська, пра якога піша Зянон, ніколі не бачыў свайго бацькі і рос на лес гледзячы. Хадзіў у школу, але вучыцца не любіў, час бавіў, залазячы на дрэвы і галёкаючы.

Хлопец быў хуліганам, любіў пабіцца, дачапіцца да людзей, але вельмі істотна змяніўся пасля службы ў войску — цалкам перайшоў на расейскую мову ды ўвесь час сыпаў завучанымі фразамі пра «пабудову камунізму». Пасля войска маладзён пастанавіў усімі сіламі рабіць сабе кар'еру ў камуністычнай сістэме, не грэбуючы супрацай з КДБ ды марачы пра высокае званне ў гэтай службе.

Гэтак у вобразе Ёські Гароха, які пазней нават зменіць прозвішча на Горахаў, Зянон Пазняк абагульніў свой досвед пра шмат якіх маладых беларусаў, якіх цалкам ламала савецкае войска, змушала іх саромецца матчынай мовы ды рабіла ворагамі ўсяго беларускага. Сваё змаганне з беларушчынай Ёська працягнуў з новаю сілаю, закончыўшы партыйную школу.

### З Вялікім Княствам у сэрцах

Праўда, як паказвае Зянон Пазняк у рамане, былі ў часы БССР і вялікія беларускія патрыёты, «людзі з Вялікім Княствам Літоўскім у сэрцах». Гэтак Зянон Пазняк паказвае ў сваім рамане, што хай схавана, непрыкметна на першы погляд, патаемна, але нават пры карнай камуністычнай сістэме ў думках шмат якіх людзей жыла вольная Беларусь, ішло змаганне на нябачных франтах. Гэтыя людзі захапляліся беларускай культурай, пры самай жорсткай русіфікацыі размаўлялі па-беларуску ды нават друкавалі самвыдатам патрыятычную літаратуру.

Паказваючы невядомыя старонкі беларускага руху ў савецкія часы, Зянон Пазняк, як мне падаецца, працягвае справу Уладзіміра Караткевіча, які ў «Каласах пад сярпом тваім» па-мастацку распавёў пра змаганне беларусаў за вольнасць Бацькаўшчыны ў часы Кастуся Каліноўскага. «Палын-палын» натхняе, дадае сілы, веры і надзеі — калі рух за вольную Беларусь, цягнучыся ад Каліноўскага, не спыняўся нават у савецкія часы, то мы тым больш не можам дапусціць, каб ён згас і цяпер, калі набірае шалу ды агрэсіі «русскій мір».

Караткевічавага Алеся Загорскага нагадвае сваёй высакароднасцю, летуценнасцю ды вялікай любоўю да роднай зямлі Рамук Шляхта з рамана «Палын-палын». Рамук — партыец, чалец КПСС, але і вялікі беларускі патрыёт. Ён, як і яшчэ некаторыя героі рамана, трымаецца погляду, што трэба фармальна заставацца ў партыі, каб дзякуючы гэтаму чыніць добрыя справы ды спрыяць беларушчыне. Адкрытае супрацьстаянне выклікала б толькі непатрэбныя рэпрэсіі ды тое, што беларусаў замянілі б на кіроўных пасадах людзьмі Крамля.

Як і ў Караткевіча, які паказваў барацьбу шляхты за вольнасць сваёй старонкі, беларускія дзеячы і патрыёты ў часы СССР — гэта передусім нашчадкі старых шляхецкіх родаў. Пры гэтым для аўтара, як падаецца, важнае не само па сабе паходжанне, а шляхетнасць душы — пачуццё годнасці, адказнасці, сумленнасць ды справядлівасць у людзях. Менавіта з гэтай прычыны пазітыўны герой Рамук Шляхта перадусім носіць сваё гаваркое прозвішча.

### Рэальная гісторыя

«Палын-палын» — гэта мастацкая проза, але ў некаторых героях вельмі лёгка распазнаюцца рэальныя асобы. Гэтак, прататыпам гісторыка Яўгена Ермаковіча, які спатыкаўся з патрыятычнай моладдзю, студэнтамі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, ды расказваў ім пра мінуўшчыну Беларусі, безумоўна, стаўся слынны гісторык Мікола Ермаловіч, які трагічна загінуў пад коламі аўтамабіля.

Прататыпам аднаго з герояў — Антося Бальцэвіча, — трэба меркаваць, стаўся мастак Лявон Баразна, актывіст захавання беларускай гістарычнай і культурнай спадчыны ў БССР. У 1972 Баразна рыхтаваў публічную акцыю пратэсту супраць разбурэння Нямігі. 15 жніўня 1972 у Старым горадзе ў Менску ён кінуўся на вуліцы ратаваць жанчыну, на якую напалі бандыты. Кабета імгненна знікла, а Лявона забілі нажом. Пазней стала вядома, што забойцы Лявона Баразны — два сыны палкоўніка КДБ Міхаіла Золатава, начальніка аховы Дома ўрада ў Менску. Злачынцаў вызвалілі па амністыі неўзабаве пасля суда.

Апісаная ў рамане суполка студэнтаў-патрыётаў «Вышыня» мела таксама адпаведнік у рэальнасці — апазіцыйны асяродак «На паддашку» ў майстэрні мастака Яўгена Куліка, куды ў свой час прыходзіў Зянон Пазняк, Алесь Разанаў, Алесь Марачкін, Міхась Чарняўскі ды іншыя.

### Змушае працаваць мазгі

У рамане «Палын-палын» Зянон Пазняк выяўляе сябе як філосаф, разважаючы вуснамі сваіх герояў пра беларускі характар, да прыкладу, пра самую станоўчую і самую дадатную рысу нашага народа.

«Цярпімасць і павага да ўсіх людзей, незалежна ад паходжання» — гэткая самая вялікая цнота беларусаў, адзначае герой твора Рамук Шляхта.

Самая ж вялікая загана вынікае з цноты — беларус «чужых ставіць вышэй за сваіх», а з гэтым звязана і тое, што беларусы пры любых рэжымах і ўладах «здавалі» перадусім сваіх, можам мы прачытаць у кнізе.

«А я сваім розумам думаю, што трэба так: паважаць сябе, шанаваць сваіх і бараніць сваіх перад чужымі. Вось і ўся філасофія. А здраднікаў трэба чысціць. Злодзею можна прабачыць, ашуканцу-круцялю, ды шмат каму, але здрадніку — не. Здраднік — гэта забойца нацыі», — кажа старшыня калгаса і беларускі патрыёт Рафал Рубайла.

Вуснамі іншага героя — партыйнага дзеяча Аляксандра Равіча — Зянон Пазняк распавядае, да прыкладу, пра камунізм як толькі форму рэпрэсіяў, а зусім не сутнасць савецкага часу: «... Пакуль будзе існаваць Масква і Расея, датуль галоўным для нас (для ўсіх нас) будзе Беларусь, беларусы і беларуская мова. Усё астатняе ідзе потым. Такая логіка гэтай нашай цывілізацыйнай вайны з Масквой. Камунізм тут не сутнасць. Так сабе, форма імперыі і метад рэпрэсіяў іншых народаў... Расею ніхто ніколі не перайначыць...»

### Ёсць і смех

Акрамя сур'ёзных тэмаў, ёсць месца ў рамане і гумару, здаровай іроніі. Апісваючы мядовы месяц студэнтаў-мастакоў Антося і Людвісі Бальцэвічаў, аўтар падкрэслівае, што «ад шчасця яны нібы прыдурэлі і галасна выяўлялі свой стан кахання і захаплення. Людка ў сваім стылі лямантавала нібы ў лесе: «А-ёй-а-я-ёй, ой-ой, ах-ах, ох-ох» (Ну як тут ні крычаць, калі само крычыцца)». Любошчы маладых скончыліся аднаго разу тым, што з грукатам зламаўся ложак і яны ўдваіх скаціліся на падлогу. «Гэта як удар Перуна сярод ночы».

Раніцай ім грукала ў дзверы суседка знізу: «У вас совесць есць? Вы што, лашадзей туда завелі? Ілі ў вас іпадром?»

Трэба сказаць, што ў рамане даволі шмат трасянкі, на якой размаўляюць перадусім адмоўныя персанажы, але трасянка ўся дублюецца беларускай моваю ў зносках унізе старонкі.

### Чаму «палын»?

Што датычыць назвы рамана, то, бадай, сімвал палыну стаўся асабліва вымоўным для беларусаў пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, бо чарнобыль — гэта іншая назва палыну ў беларускіх гаворках. Палын — гэта таксама горкі лёс, цяжкая чалавечая доля, як у Зосі Бэлтушкі, ад якой адрокся родны сын, бо хацеў быць партыйным начальнікам і жыць без вясковых успамінаў.

Палын — гэта таксама водар свабоды, які не можа быць салодкі, бо «за волю кладуць галаву».

Адзіны мінус рамана — гэта наклад усяго 200 асобнікаў, выдадзеных за кошт самога аўтара. Хочацца спадзявацца, што Зянон зноў парадуе нас новай мастацкай прозай, бо гэтым раманам ён толькі нарабіў смаку.

**Віктар Шукеловіч, belsat.eu**

# Адам Пуслоўскі: пакараны смерцю за суткі ўдзелу ў паўстанні

Пры дарозе з Любчы ў Шчорсы ёсць невялікая вёска Сенна, у якой магутным крыжам узвышаецца дзесяціметровы чыгунны помнік — сведчанне бязмежнай мацярынскай любові. У засыпаным пяском склепе на сёння не захавалася ні труны мацеры, ні сына, параскіданых у часы жудаснага ліхалецця, але нам застаецца ў спадчыну памяць пра іх — Эвеліну Пуслоўскую і яе сына Адама, таемна тут перазахаванага паўстанца 1863 года.

### Адась

Эвеліна нарадзілася 1 студзеня 1800 года і належала да заможнага па мясцовых мерках роду Абуховічаў. Яе бацькі валодалі маёнткам Сенна на 2064 дзесяціны і 437 рэвізскіх душ. Яе мужам стаў удавец Ян Пуслоўскі. Пуслоўскія,шляхецкі род прадпрымальнікаў, уладальнікаў буйных прамысловых прадпрыемстваў, былі адной з найзаможнейшых сем'яў на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага. Ян ад першага шлюбу меў трох дзяцей. З Эвелінай у іх нарадзіліся яшчэ двое — дачка і сын. Але дачка памерла малая, таму ўся любоў маці сканцэнтравалася на Адаме, якога ў сям'і называлі Адасём.

Хлопчык з дзяцінства цягнуўся да ведаў, пачатковую адукацыю ён атрымаў ад хатняга настаўніка Вінцэнта Каратынскага — вядомага ў будучым пісьменніка, сакратара Уладзіслава Сыракомлі, які лічыцца магчымым аўтарам папулярных напярэдадні паўстання Каліноўскага ананімных твораў «Гутарка старога дзеда» і «Гутарка двух суседаў».

Пасля заканчэння гімназіі Адам паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт, адкуль праз два гады, у верасні 1862 года, падаўся ў Кракаўскі. Але з пачаткам паўстання, у студзені 1863 года, ён вяртаецца ў роднае Сенна.

### Паўстанцы ў Сенне

Менавіта сюды 18 красавіка прыбывае атрад з 60 чалавек, сфармаваны вікарыем Навагрудскага касцёла Феліцыянам Лашкевічам. Паўстанцы кіраваліся ў Ашмянскі павет. Там, пад Налібокамі, яны мусілі злучыцца з атрадам, які дзейнічаў у Навагрудскім павеце. Камандаваў ім адстаўны штабс-капітан Караль Шалевіч. Яго 46 чалавек разам з людзьмі Лашкевіча ўяўлялі б досыць значную сілу. Але з самага пачатку іх пераследавалі няшчасці. Так, Шалевіч, які не паспеў у час прыбыць да свайго атрада, быў схоплены сялянамі ў мястэчку Мір і перададзены ўладам.


Адам Пуслоўскі.

У Сенне ж паўстанцы знаходзіліся ўсяго гадзіну. Забраўшы 11 коней і 9 чалавек, у тым ліку Пуслоўскага, рушылі ў кірунку Панемання (Калядзіна), каб перайсці Нёман. Папераджэ калоны на кані ехаў Адам, які паказваў дарогу.

У той самы час на перахоп паўстанцам ішоў атрад рускіх войскаў на чале з маёрам Сляшынскім. Яму было загадана дазволіць паўстанцам злучыцца, а пасля іх знішчыць.

### Бой пад Налібокамі

Ранкам 19 красавіка Сляшынскі быў каля мястэчка Дзераўная, непадалёк ад Налібокаў. Рускія адсочвалі перамяшчэнне паўстанцаў. І калі тыя выступілі з Дзераўной ва ўрочышча Белыя Імхі па дарозе на нёманскую пераправу, рушылі за імі.

Паўстанцы сталі лагерам каля возера Кромань.

Сляшынскі загадаў адной са сваіх частак на чале з прапаршчыкам Масальскім абысці лагер з правага фланга, а сам з асноўнымі войскамі ўдарыў на левы і ў цэнтр. Пасля двухгадзіннай перастрэлкі паўстанцы нарэшце не вытрымалі і пачалі адступаць да возера. На полі бою засталося ляжаць два дзясяткі забітых і параненых. Апошніх тут жа на месцы бязлітасна дабівалі.

За грашовую ўзнагароду мясцовыя жыхары дапамагалі лавіць паўстанцаў. У палон трапілі 29 чалавек, з іх 13 — сяляне. Рускія захапілі таксама 8 падводаў і 20 коней, збрую і розныя прыпасы, а таксама вялікую колькасць друкаваных агітацыйных матэрыялаў — выданні Літоўскага правінцыйнага камітэта.

Сляшынскі прайшоў праз Налібокі і на наступны дзень 20 красавіка на ноч стаў у Шчорсах. 21 красавіка пад канвоем рускага атрада палонныя паўстанцы ўступілі ў Навагрудак. Сярод іх быў і Адам Пуслоўскі.

### Прысуд за прозвішча

У Навагрудку пры трэцяй пяхотнай дывізіі на чале з генералам Гельтгоерам неадкладна пачаў працу ваенна-палявы суд. Пуслоўскага звінавацілі ў кіраўніцтве атрадам, таму ён быў залічаны да першай катэгорыі злачынцаў. Яму пагражала смяротнае пакаранне.

Сваім камандзірам Адама назвалі некалькі палонных. Адзін з іх, фурман Раман Захараў, сказаў, што Пуслоўскі выдаў яму пісталет; мешчанін Чыкорскі паказаў, што Адам прывёз у лес паўстанцкі сцяг ці значок. Але пасля вочнай стаўкі яны адмовіліся ад паказанняў. Іншыя ж схопленыя паўстанцы казалі, што камандзіра ў іх не было, бо іх група рухалася на злучэнне з іншай паўстанцкай часткаю. Толькі пасля мусіла адбыцца прызначэнне камандзіра. Ім, хутчэй за ўсё, павінен быў стаць штабс-капітан Шалевіч, вайсковы прафесіянал, які скончыў Акадэмію Генеральнага штаба.

У выніку суд палічыў не даказаным тое, што Пуслоўскі быў кіраўніком атрада, але вынес даволі жорсткі прысуд: расстрэл за ўдзел у атрадзе са зброяй у руках. Ні следчыя, ні сам Адам і яго сям'я, насамрэч, не лічылі такое рашэнне канчатковым, бо звычайнымі ў такіх выпадках быў зварот аб памілаванні на імя імператара Аляксандра II. Нават з улікам гэтага камандзір 3-й пяхотнай дывізіі генерал Гельтгоер не адважыўся сам зацвердзіць прысуд і 14 мая накіраваў справу ў Вільню. Так супала, што туды для задушэння паўстання ў гэты дзень прыбыў новы губернатар — Міхаіл Мураўёў, вядомы як «Вешальнік».

Такім чынам, справа Пуслоўскага была адной з першых, што трапіла яму на разгляд. Мураўёва зацікавіла не столькі сама справа, колькі прозвішча, вядомае на ўвесь край. Значнасць роду Пуслоўскіх перадвызначыла лёс 21-гадовага хлопца, які ўдзельнічаў у паўстанні ўсяго суткі. Мураўёў падпісаў расстрэльны прысуд.

Не змагла дабіцца літасці ні маці Адама Эвеліна, якая ездзіла да Мураўёва, ні яе сястра Рэгіна, жонка генерала, вядомая ў Пецярбурзе.

Паўстанец Канстанцін Кашыц, які пазней узначаліў Навагрудскую падпольную арганізацыю, назваў Пуслоўскага «збавіцельнай ахвярай». Жорсткая расправа з ім вымусіла многіх паўстанцаў скласці зброю, паказаўшы ім, што рускія ўлады не спыняцца ні перад чым і гатовыя патапіць паўстанне ў крыві. Дарэчы, Кашыц таксама быў асуджаны на смяротнае пакаранне, але пасля падрабязных паказанняў і здрады ўратаваў жыццё.

### Расстрэл на Сабачых горках

Пакаранне Адама Пуслоўскага адбылося 8 ліпеня 1863 года а 18-й гадзіне і выглядала сапраўднай расправай. Асуджанаму на смерць не было паведамлена ні пра прысуд, ні пра час яго здзяйснення. Яму сказалі, што вядуць у следчую камісію, але замест гэтага вывелі на поле за межамі Навагрудка. Там яго дабраславіў ксёндз Эймунт.

На краі яра салдаты ўкопвалі слуп, выцягнуты з найбліжэйшага плота. Тут жа капалася яма, а салдаты правяралі зброю. Адам толькі паспеў сказаць ксяндзу, што яму нічога не паведамілі пра прысуд, як два салдаты схапілі яго і прывязалі да слупа. Папярэдне яго рукі былі звязаныя за спінаю. Афіцэр дастаў з кішэні хустку і завязаў Адаму вочы, не зважаючы на яго просьбу пакінуць іх адкрытымі. Салдатам было загадана падысці да асуджанага так блізка, што багнеты амаль дакраналіся да яго цела. Пасля стрэлаў цела абвісла на вяроўках.

Слуп выкапалі і паставілі на ранейшае месца ў плоце. А цела Адама разам з вяроўкамі і хусткай афіцэра кінулі ў неглыбокую яму, якая была зараўнэная і прытаптаная нагамі салдат.

Пуслоўскага расстралялі ў месцы, якое ў народзе называлася «Сабачымі горкамі». Зараз гэта раён школы №4 Навагрудка.

### Выкраданне цела

Па загадзе бацькі Адама Пуслоўскага цела сына было выкрадзенае і спачатку пераханавае ў скляпеннях Навагрудскай фары. Эвеліна ж выдаткавала грошы на ўзвядзенне сямейнага склепа побач з радавым маёнткам Сенна. Яна перажыла сына на 17 гадоў. Паміраючы, Эвеліна загадала дастаць яго парэшткі з касцельных скляпенняў і пахаваць у адной труне з ёю...

У 1990 настаўнік з Карэліцкага раёна Леанід Навара, продак якога селянін Андрэй Жылка быў у адным атрадзе з Адамам Пуслоўскім, прывёў помнік у Сенне ў парадак і прымацаваў да яго мемарыяльную шыльду: «Тут разам з Эвелінай Пуслоўскай спачывае прах яе сына Адама Пуслоўскага. Ён быў адным з кіраўнікоў паўстання 1863 г. на Наваградчыне. За ўдзел у паўстанні расстраляны 26 чэрвеня 1863 года ў Навагрудку».

Сёння гэтаму помніку зноў патрэбна рэстаўрацыя і ўвага мясцовых уладаў.

**Васіль Герасімчык**





**Васіль Герасімчык**
Гісторык. Нар. 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

# Памёр доктар Іван Шэга



Раніцай 4 кастрычніка ў Слоніме памёр вядомы доктар і грамадскі дзеяч, заснавальнік недзяржаўнай установы «Шэгамедкансульт», каардынатар Слонімскага грамадскага цэнтра, былы дэпутат райсавета Іван Шэга.

Івану Шэгу было 63 гады. У апошніх выбарах ён удзельнічаў, ужо маючы цяжкую форму анкалогіі.

Родам ён быў з вёскі Валеўка Наваградскага раёна. Скончыў Валеўскую сярэднюю школу, а потым Мінскі медыцынскі інстытут.

З 1980 года жыў і працаваў доктарам-траўматолагам у Слоніме. Івана Шэгу ў горадзе ведалі ўсе.

Апошнія 20 гадоў ён актыўна займаўся палітыкай, быў у Сойме БНФ. Свае разважанні і думкі пра лёс краіны ён выказаў і паспеў выдаць асобнай кнігай «Пра краіну і пра нас».

**«Наша Ніва» далучаецца да спачуванняў сям'і вялікага працаўніка.**

Успамін пра сустрэчу з беларускімі Праведнікамі.

# Як беларускія мусульманкі ўратавалі яўрэйскую сям'ю

Сыход чалавека ў вечнасць гуртуе вакол яго асобы людзей. На мінулым тыдні грамадскасць свету развіталася з былым прэзідэнтам Ізраіля Шымонам Перэсам.

У Беларусі Перэса ўспрымалі як блізкага. Перш за ўсё таму, што нарадзіўся ён у мястэчку Вішнева, якое знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі. Калі ў ім пражывала сям'я Перскіх, гэтая тэрыторыя была ў складзе Польшчы, адкуль Перэсы выехалі ў 1931 годзе.

Перэс наведваў сваё месца нараджэння ў 1994 і у 1998 гадах. Апошнім разам пакланіўся брацкай магіле яўрэяў, якія ў 1942 г. загінулі ад рук гітлераўцаў.

У 2010 г. Шымону Перэсу давялося ў Ерусаліме прымаць дэлегацыю Праведнікаў народаў свету з Беларусі. Можна зразумець, што рабіў ён гэта як прэзідэнт і як чалавек — усе сваякі з Вішнева, сярод якіх і яго любімы дзед рабін Цві Мельцэр, сталі ахвярамі.

У склад дэлегацыі ўваходзіла Ганна (Айша) Сулейманаўна Канапацкая.

Калі пачалася вайна, Ганне было 15 гадоў, а яе маці Фаціме — 40. Гэтыя дзве беларускія татаркі заставаліся ўдзвюх пасля таго, калі восенню 1941 г. памерла бабуля Ганны.

Бацькі разам з братам маці не стала яшчэ раней — у 1935 г. яны прапалі бясследна. Зварот да ўладаў аб росшуку не даў вынікаў. Апошнім разам у 1940 г. Фаціма Мустафаўна атрымала адказ, што яны на тэрыторыі БССР не знойдзены, будуць шукаць па СССР. На самай справе, у 1937-м Сулейман Канапацкі і Хасень Мухля былі расстраляныя сярод іншых у Курапатах — дакладныя звесткі аб гэтым знойдзеныя Ібрагімам Канапацкім у архіве КДБ.



**Шымон Перэс, Ганна Канапацкая, Рахіль Давідсон. Фота з асабістага архіва сям'і Г.С.Канапацкай.**

І вось дзве безабаронныя — вайна! — жанчыны ў сваім доме ў раёне Кальварыі ў Мінску ратавалі ад смерці яўрэйскую сям'ю Давідсонаў з пяці чалавек. Ісраэль і Фрума Давідсоны з дзецьмі Рахіль, Мірай і самым малым Вовам падчас пагромаў прыбягалі з гета і хаваліся на некалькі дзён. У чэрвені 1942 г. Ісраэль Давідсон пасяліўся ў Канапацкіх надоўга. У хляве ён выкапаў нару-схоў, замаскіраваў яе кучай дроў і пражыў там цэлы год. Не трэба мець вялікага ўяўлення, каб зразумець, што чакала ўсіх разам з гаспадынямі ў горшым выпадку. Па некалькі разоў прамаўляла Ганна аль-Фатыху — гэтай малітве навучыла яе бабуля. У чэрвені 1943 г. сям'я Давідсонаў падалася ў партызаны, усе яны выжылі.

Імёны Фаціmy і Ганны Канапацкіх сярод іншых Праведнікаў, у тым ліку і з Беларусі, выгравіраваныя на сцяне мемарыяла Яд ва-Шэм у Ерусаліме. У Ізраілі жыве Рахіль разам з дзецьмі і мужам, які паходзіць з Іўя (дачка і маці Канапацкія былі на іх вяселлі). У Ерусалімскай студыі тэлебачання з трансляцыяй на ўсю краіну адбылася іх сустрэча пасля расставання.

Прыём 20 чэрвеня 2010 г. пакінуў след, а магчыма, дадаў яшчэ адну рану на сэрцы Перэса. Аб гэтай сустрэчы вельмі цёпла распавядала мне Ганна Сулейманаўна.

Ганне Сулейманаўне было прапанавана выступіць са сваім словам. Стрымліваючы хваляванне, яна знайшла словы, каб яны маглі гучаць як бы з вуснаў кожнага з дзесяці Праведнікаў, хоць падзвіг кожнага меў свае нюансы. Зразумеўшы гэта, нехта з журналістаў спытаўся: «Што Вы адчуваеце цяпер?» Ганна Сулейманаўна шчыра адказала: «Вялікую ўдзячнасць». Ад яе слоў стрыманы Перэс падскочыў і здзіўлена сказаў: «Ды не, гэта мы Вам вельмі ўдзячныя!», — абхапіў яе за рукі, пасля пацягнуўся абняць, але гэтага не хапіла для яго пачуццяў — і ён пацалаваў у твар Ганну Сулейманаўну. Маркую, у гэты момант ён быў не дыпламат, а звычайны пажылы чалавек з цяжарам пройдзенага шляху і з памяццю адзінаццацігадовага хлапчука. Ганна Сулейманаўна адзначае яго высакароднасць і звышінтэлігентнасць.

Ганна Сулейманаўна не паспела сказаць Перэсу, што мужам яе ўнучкі, названай у гонар бабулі, з'яўляецца палесцінец і ў жылах яе трох праўнукаў цячэ палесцінская, татарская, беларуская і польская кроў.

Шымону Перэсу таксама было б што сказаць у адказ, бо ў 1992 годзе разам з лідарам Арганізацыі вызвалення Палесціны Ясірам Арафатам яны правялі сакрэтныя перамовы, на падставе якіх у Осла было падпісана пагадненне. За гэтае дасягненне Арафату, Перэсу і тагачаснаму прэм'еру Ізраіля Іцхаку Рабіну прысуджаная Нобелеўская прэмія міру.

І, гаворачы аб мірным суіснаванні людзей, нельга не сказаць аб канфесійнай згодзе на зямлі Беларусі. І гэта ідзе найперш ад саміх людзей, асобна ад кожнага. Не магу не выказаць суму па сыходзе ў іншы свет яшчэ аднаго чалавека — 85-гадовага Іосіфа Александровіча. Так сталася, што яны з Перэсам былі прызваныя Богам у адзін дзень. Для нешматлікай грамады беларускіх татараў страта кожнага асобнага чалавека заўважная.

## Няхай Бог будзе справядлівы да кожнага!

Александровіч быў апошні жыхар самага старажытнага на землях Беларусі мусульманскага Лоўчыцкага прыхода, годам заснавання якога быў 1420-ы. Бацька Іосіфа быў апошнім імамам старой мячэці. Іосіф Ях'яневіч добраахвотна прыглядаў за мізарам і адрэканструяванай на ім мячэццю, якія былі бачныя нават з вокнаў яго драўлянай хаты. Як большасць з яго пакалення, адслужыў у арміі, працаваў большую частку жыцця на адным месцы — у электрасетках. На развітанне з ім прыехала некалькі дзясяткаў татараў з Навагрудка і Іўя, а таксама калегі па працы на чале з кіраўніком. Жонка-беларуска і дочкі зрабілі ўсё, каб развітанне з нябожчыкам і адпяванне адбылося згодна з мусульманскім абрадам. Кожны з прысутных быў запрошаны за жалобны стол, а таксама атрымаў садагу (памінальны пачастунак) для сваіх блізкіх.

Абодва ўраджэнцы гістарычнай Наваградчыны сышлі ў вечнасць. Іосіфа Александровіча пахавалі на пагорку Лоўчыцкага мізару, Шымон Перэс будзе пакоіцца на гары Герцля ў Ерусаліме. У час сустрэчы з Усявышнім кожны з іх будзе трымаць адказ за сябе і свае справы. Няхай Бог будзе справядлівы да кожнага!

**Разалія Александровіч, Мінск**

# «Вось і не стала другога сына бабы Васіліны»



**У кожнага свая дарога ў вечнасць.**

Вось і не стала другога сына бабы Васіліны Віці.

У канцы красавіка, калі ў яго здарыўся інсульт, старая стала рыхтавацца да пахавання. Сын ляжаў у лякарні ў коме, а маці мыла ў хаце сцены, прала фіранкі… І купіла яму строгі гарнітур.

Праз тры дні Віця ачуняў, а праз месяц вярнуўся дадому. Кінуў піць і паліць. Баба Васіліна папрасіла мяне на ўсякі выпадак схаваць у сваім пограбе іхную гарэлку… І гарнітур — «бо Віця раззлуецца, калі даведаецца, што я касцюм купіла».

Яшчэ праз тры месяцы Віця памёр — цыроз пячонкі. Ён ляжаў у труне такі нежывы ў сваім новым гарнітуры, які трымалі ад яго ў сакрэце. А мужыкі вярталіся з памінак на плячах у сваіх жонак, напіўшыся гарэлкі, якую хавалі ад Віці ў пограбе.

Цяпер у вёсцы з мясцовых засталіся толькі баба Васіліна і баба Нона. Абедзве пахавалі ўсіх сваіх сыноў. Пяцярых на дзвюх.

**Аўгіня Манцэвіч, Маладзечанскі раён, Мінская вобласць**

## У сэрцы

### «Дзеля аднаго гэтага слова я б вывучыў беларускую мову»

«Я русскій бы выучіл только за то…» — так некалі сказаў Уладзімір Маякоўскі пра сваю мову. Я скажу таксама нешта падобнае. Беларускую мову я вывучыў бы толькі за тое, што ў ёй святое без выключэння для кожнага беларуса слова — «кахаю». Не люблю, а менавіта кахаю. А колькі пяшчоты, колькі таемнасці ў гэтым слове!..

Што вылучае нашу мову з іншых моў,
Што са славянскімі яе яднае?
Сярод мільёнаў мілагучных слоў
Ёсць шчырае, прыгожае — кахаю.
Яно гучыць у радасці, у журбе,
Яго я ў будзень, у свята паўтараю.
Я не скажу «люблю», каханая, табе,
Скажу ласкава: я цябе кахаю.

Аб сабе. Рунцэвіч Уладзімір Міхайлавіч, Мар'іна Горка. Да выхаду на пенсію 38 гадоў адпрацаваў на льнозаводзе рабочым. Зараз працую вартаўніком. Мне 63 гады. Вершы пішу ад 1971 года, але стала ад 1980. Ва ўсім спадзяюся на Бога, і ён дапамагае мне.

**Уладзімір Рунцэвіч, Мар'іна Горка**

## Водгук

### Дзякуй Сяргею Нікалюку

Некалькі разоў перачытаў цудоўны артыкул Арцёма Гарбацэвіча «Сяргей Нікалюк: Або Беларусь стане Захадам, або яе не стане» ў нумары за 7 верасня. Выдатныя высновы робіць сп. Нікалюк, якія я цалкам падтрымліваю: «новая Беларусь мусіць узнікнуць эканамічна», «у нармальнай сітуацыі паітычныя эліты павінны паказваць людзям вобраз будучыні».

Нафта, газ, уранавая руда рана ці позна закончацца і нам ужо сёння неабходна думаць аб тым, якім чынам будуць выжываць наступныя пакаленні, бо праблема тэрмаядзэрнага сінтэзу пакуль не вырашана і ці будзе вырашана, пакуль невядома.

І калі мы будзем ствараць будучыню ўжо сёння, то нашчадкі нас успомняць добрым словам.

**Вячаслаў Сухарэбскі, Русіны, Баранавіцкі раён**

## Прыватныя абвесткі

**Віншуем дарагую мамачку Уласаву Тамару Васільеўну** з Днём нараджэння. Жадаем здароўя і шчасця. Дзеці

**Народны хор імя Алеся Рашчынскага запрашае ўсіх ахвотных спяваць**
Абвяшчаецца дадатковы набор выканаўцаў у народны хор імя А. Рашчынскага. Мы запрашаем дзяўчат і юнакоў, мужчын і жанчын, якія маюць базавую музычную падрыхтоўку і жаданне спяваць. Аснову рэпертуара хору складаюць аўтарскія творы і беларускія народныя песні ў апрацоўках і аранжыроўках А. Рашчынскага і іншых беларускіх кампазітараў.
Рэпетыцыі адбываюцца на базе Палаца культуры ветэранаў (вул. Я.Купалы, 21) па аўторках у 18.30.
Кантакты:
+375447967886 Ганна,
+375296979786 Юлія

Таццяна Барысік.
Апавяданне.

# Страусава доля

*Папярэджанне. Увага! Дадзены тэкст непрыдатны для выкарыстання ў якасці метадычнага дапаможніка для сярэдніх навучальных установаў, выкладання дысцыплін кшталту «Чалавек і свет», «Біялогія», напісання рэфератаў на тэму «Птушкагадоўля ў Беларусі», а таксама правядзення выхаваўчых мерапрыемстваў, прысвечаных традыцыйнай культуры беларусаў і прафілактыцы алкагольнай залежнасці. З'яўляецца выключна мастацкім творам, усе супадзенні ўласных імёнаў, назваў установаў і прадпрыемстваў лічыць выпадковымі, а выказаныя гіпотэзы навукова не абгрунтаванымі.*

Цалкам магчыма, што менавіта сінявокая Беларусь, гаротная наша Бацькаўшчына, сталася не толькі радзімаю трактароў, белазаў, але і страусаў. У старадаўнія часы гэтыя магутныя годныя птушкі пасвіліся і вяліся ў неймавернай колькасці на абшарах ад Балтыйскага да Чорнага мора. І хаця дакладных пісьмовых звестак пра тое не захавалася, бо ніводзін пісьменны шчэ не нарадзіўся, высnova не падлягае сумневу. Неаспрэчны доказ — дзіўнае сугучча незабыўнай беларускай прымаўкі «мая хата з краю» і адвечнай страусавай звычкі — хаваць галаву ў пясок пры кожнай праўдзівай ці ўяўнай небяспецы. Больш за тое, у тыя дагістарычныя вякі, калі ў Беларусі шчэ не было ані буслоў, ані балотаў, ані прыгожага пісьменства, страусы не толькі басцяліся самі па сабе дзе заўгодна, але і актыўна ўжываліся ў ежу нашымі продкамі. Нездарма ж словы «страва» і «страус» падобныя ў гучанні і на пісьме!

Аднак з цягам часу папуляцыя дзікіх страусаў сышла на нішто, а мізэрная іх колькасць захавалася хіба ў няволі на адной-дзвюх занядбаных фермах у кожным раёне. Мастацтва прыгатавання абрадавай ежы са страусаў да каляндарных і сямейна-побытавых святаў страчанае незваротна. Што ж рабіць — страусы эмігравалі ў паўднёвыя краіны ў пошуках лепшага клімату і долі,тамака распладзіліся. Ну і халера з імі, як той казаў, кій у плечы! Надта тужыць па такой спадчыне не будзем: стаміліся раўці з кожнай нагоды! Што сталася прычынаю эміграцыі? Цяжка сказаць. Можа, балотаў пабалела, а закапваць яйкі ў багну і сунуць туды галаву, пагадзіцеся, нязручна. Можа, раёны і сельсаветы як адміністрацыйныя адзінкі здрабнелі, у выніку — небаракастраус, што дзеля ранішняй размінкі прабег якія дзесяцьдвадцаць кіламетраў, выпадкова трапляў на чужынскую тэрыторыю, дзе з'яўляўся істотай па-за законам, адкрытай гвалту і правакацыям. Адным словам, няхай вучоныя разбіраюцца, ім за гэта грошы плацяць. А людзям простым няма чаго галовы сабе тлуміць з-за гэтых страусаў. Не надта іх і ў той Афрыцы ці Аўстраліі шануюць! Тэлевізар усе глядзяць і кніжкі ў школе чыталі, раней яшчэ й радыё слухалі. Але ніхто не бачыў чарнаскурага тубыльца, які пасярод бушу ці саваны жэр бы каўбух ці страусава сцягно так, што аж вушы варушыліся. Насамрэч, малпаў ядуць і кенгуру таксама, але каб падчас вайны ці голаду тамтэйшая бедная ўдава разам з малымі дзецьмі крычала нема, выводзячы з хлява апошняга страуса — у іхніх кніжках і фільмах нават згадкі няма! Таму да свінячай пашаны страусам далёка. Не чулі мы пра іх сто гадоў — яшчэ б столькі не чуць!

Вось і працаўнікі ААТ «Хлебапрадукт» таксама не чулі. Тыя птушкі былі патрэбны, бы ў мосце дзірка, покуль да іхняга не надта квітнеючага прадпрыемства не далучылі стратную птушкафабрыку. Ну, далучылі і далучылі, ці мала дзівосаў на свеце! Птушкафабрыка — не вайсковы аэрадром! Цяперака ў абавязковыя харчовыя пакеты, што лічыліся дадаткам да заробку, хоць насамрэч былі ягонай часткай, пачалі класці, апроч пернікаў, хрушчоў і камбікорму, сініх, змучаных нядоляй курэй.

Ніхто з гэтай нагоды ўголас не абураўся. Жыць і працаваць кожны хоча — самі разумееце. А наладчык Ігнатка Сыч, заўсёдны «Працаўнік года», амаль ветэран вытворчасці (начальства загадае — зямлю есці будзе, асабліва як навідавоку), дык нават цешыўся сваім пекным розумам, прыгадваючы канец 90-х і прадбачлівы сыход з папярэдняга месца працы — шклозавода, дзе заробкі выдавалі разнастайнымі шклянкамі, чаркамі, сувенірнымі лебедзямі. Яно-то, канечне, няблага — не трэба падарункі сваякам на вяселлі і юбілеі купляць. Але ж у рот тыя вазы і лебедзяў не пакладзеш. А прадукты не прадасі — дык хоць пад'ясі! Экстрасэнс у тэлевізары праўду казаў: свет па спіралі развіваецца. Дачакаўшыся вяртання да мінулага, практычны Ігнатка прыстасаваўся: гаспадарку развёў, а пернікі і курэй на камбікорм выменьваў.

Прыбіральшчыца Наташка Кузіна дасюль спадзявалася, што хто-небудзь нарэшце ацэніць, калі не яе саму, дык хаця б ейную адданасць-рахманасць, і з гэтай нагоды бубнела сама сабе, за шафаю седзячы: «Ну, нічога, куры дык куры. Хоць і сінія, але затое — натуральныя. Вось прыйдзе ў госці мой сыначка — халадца звару...» Але ніхто яе не чуў. Складалася ўражанне, што Наташка за шафай нарадзілася, пражыла ўсё жыццё. Вылазіла на божы свет зрэдку, працавала як мокрае гарыць, ведама — якая з капухі работніца! Бясконца перакладала свае анучкі, скарбоначкі, выключна дзеля таго, каб усімі сваімі словамі і паводзінамі правакаваць на гвалт прысутных. У выніку — муж, які калаціў Наташку бы грушу, пакуль самога да смерці не збілі, як у інтэрнат да каханкі прыпёрся. На працы менавіта Кузінай спіхвалі латарэйныя білеты і часцей за іншых адпраўлялі ад цэха на ўсеагульны суботнік.

«Вось прыйдзе да мяне сына ў госці, я яму катлеткі патушу, галёначкі запяку ў цесце. Гэта мужчынам мяса трэба. А нам хопіць і маннай кашкі з ягадкамі...» — суцяшала Кузіна сябе чарговым бурчэннем і кожнаму, нават таму, хто бачыў Наташку ўпершыню, хацелася яе калі не адлупцаваць, дык хоць чым-небудзь пакрыўдзіць.

Пра тое, што на гэтай птушкафабрыцы не толькі куры, але й страусы вядуцца, неаднаразова даводзіў калегам ахоўнік з прахадной Грышка Мілюцін, у яго тамака кум робіць. Дык, аказваецца, тыя страусы ад дзюбы да кіпцяў на перапрацоўку ідуць! Але, мусіць, не надта выгадныя, бо не чуваць, каб за іхнімі яйкамі ці шапкамі скуранымі нехта ў чэргах душыўся. Ну, што сказаў, то і ладна, да пратаколу не падшываецца, ніхто да тых Грышкавых размоваў дужа не прыслухоўваўся і аб страусах не думаў. Але, як гаворыцца, калі ты не цікавішся страусам, дык ён зацікавіцца табой. Так яно й выйшла! Аднаго разу, толькі паспелі яшчэ з бытовак выйсці і да працы прыступіць, як той самы Грышка Мілюцін патэлефанаваў з прахадной сваёй жонцы, упакоўшчыцы Алене, занятай фасоўкаю дыябетычных хрушчоў, і паведаміў: «Пакеты прывезлі, разгружаюць ужо. Камбікорму няма, ёсць пернікі, старыя абаранкі, курыныя грудкі і рагу страусавае, косткі значыць. Курэй малавата, на ўсіх не хопіць». Навіна імгненна разнеслася па цэху. Нечуванае ўзрушэнне і самыя супрацьлеглыя пачуцці запанавалі між людзьмі. Інстынктыўная цікавасць (які ж ён, гэты страус?) суседнічала з пратэстам: на халеру ён мне ўсраўся! Збянтэжанасць (а што ж я з гэтымі косткамі рабіць буду?) межавала са спадзяваннем: а мо неяк абміне?

І толькі адзін чалавек — малады спецыяліст, учорашні навучэнец каледжа харчовай прамысловасці Андруша Ваўчок дарослымі праблемамі не цікавіўся. Сядзеў, затуліўшыся ў куток, беспаспяхова тыркаў свой мабільнік, шукаючы адказ на складанае пытанне — страус гэта хто: звер або птушка? Інтэрнэт глючыў, а Андруша ўпершыню шкадаваў, што прагульваў школьныя ўрокі, нават экскурсію ў заасад прапаў. Не, па сучасных мерках хлапец быў не зусім тупым і трохі амбітным, проста лёс склаўся так: у каледжы, куды яго бацька паступіў, і на працы, куды пасля ўладкаваў, урокаў заалогіі чамусьці не праводзілі. Бацька ж лічыў тэхнікум, цяперашні каледж, асноваю поспеху ў жыцці. Часцяком пад п'янае вока слязліва наракаў: «Каб мне тады хаця б які сярлівы тэхнікум — міністрам быў бы. Вучыся, сынку, вучыся». Андруша адвучыўся, цэлыя чатыры гады адтрубіў, спадзеючыся на ўдалы лёс. Толькі апынуўшыся на працы, зразумеў: тое было даўно і няпраўда. Тэхнікум за плячыма меў ледзьве не кожны, а з міністэрства ні за кім так і не прыехалі! З гэтага часу Андруша паліў сваю жыццёвую праграму выкананай: тэхнікум маю — а далей бацькаў клопат! У вольныя часіны цалкам аддаваў сябе любімай справе — гульням у тэлефоне. Спадзеючыся больш на бацькавы сувязі і шчаслівы выпадак, чым на адукацыю, марыў аб пасадзе брыгадзіра. Зарабляў аўтарытэт дзеля гэтага — ніводнага разу не праспаў на змену, у спартланды ўдзельнічаў. І вось цяпер гэты страус — клятае боўдзіла! Пакажаш сваю недасведчанасць — выставіш сябе гракам, бывай кар'ера — ніякія «Вясёлыя старты» не дапамогуць!

— Кінулі тую косту нашаму Тузіку — не есць падла! А хрыбет у гэтага страуса як у дыназаўра! Дзіва што лётаць не можа, — трывожна, нібы ваенная зводка, пранеслася па цэху чарговая тэлефонная размова Алены з мужам.

— Ага, усё-такі птушка! І дыназаўраў я бачыў, гульня такая была! — у адрозненне ад старэйшых, узрадаваўся навіне Андрушка, ягоны твар набыў звыклую бесклапотнасць, вочы шукалі ў тэлефоне ўчорашні дзень.

Імклівай хадою ўварвалася ў цэх майстар Галіна Капітонаўна, змучаная сямейным жыццём і вымоваю за цвілыя батоны кабета:

— Ну, вы ўжо ўсё ведаеце, нам выдзелілі восем курэй і двух страусаў. Можа, хто сам па сваёй волі возьме? — слабая надзея пакуль трымцела ў голасе кіраўнічкі сярэдняга звяна.

Спярша, як заўжды, хацела Кузінай страусаў усырыўць. Але ж мінулым разам Кузінай і так шыйкі замест кумпякоў дасталіся. Яна супраць слова не сказала, наадварот, на людзях нібыта выяўляла радасць, але пасля паўтыдня за шафаю бурчэла:

— Канечне, я чалавек адзінокі, заступніца няма каму...

Не, не па-чалавечы.

Ігнатка Сыч адразу ўсчаў лямант, не чакаючы працягу, бо напад, як вядома, найлепшая самаабарона:

— Што, я, ударнік працы, за дваццаць пяць гадоў камбікорму не заслужыў?!

Разлік аказаўся дакладным, Капітонаўна, абмінуўшы найлепшага рабочага ўсіх часоў, адразу перайшла да іншай кандыдатуры:

— Мо ты, Алена? Сям'я вялікая — з'ясце!

— Што вы, Капітонаўна, майму ж Грышку і так абавязкова страуса ўсунуць, ён жа век ні з кім сварыцца не будзе — здароўе беражэ. А два страусы на адну сям'ю — куды! Дзецям жа такое няможна: у большага гастрыт, у сярэдняй малакроўе, а меншы проста распешчаны — абы-што есці не будзе!

А вось Аксана Цяцерка, лабарантка, жанчына прыемная ва ўсіх адносінах, ні на грам не турбавалася. Яе вочы выпраменьвалі радасны спакой і ўпэўненасць, што афрыканская птушка да яе ніякім бокам, бо на 8 Сакавіка яна ад сябе асабіста паднесла Капітонаўне каробку цукерак і бутэльку лікёру. А як жа інакш? Ласкавае цялятка дзвюх матак ссе — яшчэ з дзяцінства была перакананая Цяцерка. У выніку кіраўніцтва лічыла яе чалавекам, што з любым супольную мову знойдзе. «Калі ёй гэта выгадна», — цішком пасміхалася Алена Малюціна.

А электрык Пеця, экскаватаршчык Давыдаў, механік Гаўрылавіч клікалі жанчынай прыемнай ва ўсіх адносінах. Мусіць, ведалі, што казалі, па чарзе частуючы шакаладкамі і запрашаючы на прыроду. Але час не стаіць на месцы. Механік Гаўрылавіч пайшоў у іншы свет, экскаватаршчык Давыдаў на інваліднасць, з экскаватара ссадзілі, а як тэхнікі ў руках няма — дык чаго з ім на прыроду ездзіць? Электрык Пеця кінуў падпрацоўку, з узростам пачаў любіць канапу і шклянку болей за Аксану. Ды і сама Цяцерка была ўжо не тая. У сваёй брыгадзе на тле адвечнай ахвяры гвалту Наташкі Кузінай і Алены, суровай, шматдзетнай маці ў шэсць пудоў вагі, яна ўсё яшчэ пачувала сябе дзеўкай-краскай. Але, апынуўшыся на карпаратыве побач з кіраўніцамі, кіраўнічымі жонкамі і дочкамі, імгненна ператваралася ў ласкавае цялятка, якое не надта разбірае, хто перад ім — матка,бацька ці нейкая зусім іншая істота.

У калектыве ж, нацягнуўшы маску паспяховай гаспадыні, яна, здавалася, нават не разважляла, а бясконца хвалілася, перакананая, што ёй усе навокал зайздросцяць.

— Во, гэта муж мне купіў! — радасна абвяшчала, прыйшоўшы на працу ў новым паліто. З разлікам на тое, што ўсе астатнія ўчора нарадзіліся, жывуць на Месяцы і не ведаюць: мужык яе цюхцяй, сядзіць на льготнай пенсіі, удвая меншай за жончын заробак, разбіраецца ў гатунках пладова-ягаднага лепш, як у жаночых трантах. Таму ягоны ўдзел у куплянні паліто ў лепшым выпадку абмяжоўваўся стаяннем ля прымерачнай і няпэўнымі словамі: «Ну, гэтае во — нічога».

Галоўным жа гонарам і нагодай для Аксанінай пахвальбы была пабудова лецішча і звышпрацавітасць сямеечкі. Згодна з яе словамі, увесь час для лецішча нешта набывалася: то сайдынг, то шыфер , то плёнка, то душавая кабіна. Але сам факт таго, што будаўніцтва цягнулася апошнія пятнаццаць гадоў, а хата па-ранейшаму выглядала знадворку не цудам сучаснага дойлідства, а, хутчэй, буданом палепшанай планіроўкі, абвяргаў міф аб заможнасці ды руплівасці гаспадароў, каторыя па выхадных, здаралася, то прыбівалі новую дошку, то аддзіралі старую, а болей проста адпачывалі на свежым паветры...

— Ну, а ты, Цяцерка, як? — абрынуўся начальніцкі запыт, бы вядро вады на галаву.

Аксанка ад неспадзеўкі нават не здолела адрэагаваць як след. Захістаўшы барадою, пачала рашуча некаць. Такі прыбытак у дом быў ёй відавочна не патрэбны.

Сантэхнік Піпкін, электрык Пецька і слесар Скіба (чалавек апазіцыйных поглядаў, калісьці баявы, гарачы, а цяпер астматык перад пенсіяй, жыць і працаваць усім трэба — самі разумееце) сціпла сядзелі ў куце.

Тужлівая ціша запанавала



**Таццяна Барысік**

Нар. 1977. Скончыла факультэт дашкольнага выхавання Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1999). Працавала ў школах Бабруйскага і Магілёўскага раёнаў. Цяпер жыве ў Магілёве. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтар самвыдатаўскага зборніка паэзіі «Гаркну ў бліскучы мацюгальнік» (Асіповічы, 2003), зборніка апавяданняў «Жанчына і леапард» (2014). Сталая аўтарка «НН». Лаўрэатка 2-й прэміі Ежы Гедройца — 2015.

наўкола. «Ага, я прэзенты насі, а мужыкоў дык баішся зачапіць сваім страусам», — крыўдавала ў думках Цяцерка.

— Ну, калі не надумаеце, дык я да канца змены добраахвотна-прымусова прызначу, — узлавалася Капітонаўна.

Дзень цягнуўся надзвычай доўга, на працягу некалькіх гадзін высветлілася: сумесная праца нікога не аб'ядноўвае, хутчэй наадварот.

Адзінае, што цешыла электрыка Пецьку ў няўтульнай і дэпрэсіўнай абстаноўцы, дык гэта запрашэнне лабаранткі Аксаны правесці разам абедзенны перапынак:

— Зайдзі да мяне ў абед, з дому тое-сёе прынесла. Хрэсьбіны былі ў майго ўнучыка — адзначым.

«Яно-то, канечне, гады ўжо не тыя, але Аксанка як была жанчынай, прыемнай ва ўсіх адносінах, так і засталася — доступ да спірту мае», — гэтая думка, нібы сонечны праменьчык, ратавала Пецьку ў цяжкі час.

Па абедзе ў лабараторыі панаваў суцэльны пазітыў, на стале дымілася бульбачка, тушонкай запраўленая, маласольныя гуркі на сподачку, а ўсмешлівая чароўная Аксана, не шкадуючы, падлівала і падлівала ў чарачку:

— Выпі, Пецька, за майго ўнука. Учора гулялі — за сталом чалавек сорак было. І на стале — усяго хапіла. Я люблю, калі ў мяне стол поўны. Апраўдаліся хрэсьбіны!

«Ну канечне апраўдаліся — на што разлічвала, тое і выйшла. На стале усё як ва ўсіх: салат з гарошку і смажаныя куры. За стол прыцёгліся, каго звалі і каго не. Грошы на дзіця прынеслі, але ж і двор абрыгалі!» — употайкі пасміхаўся Пецька, у ахвотку выпіваў і закусваў. Пакрысе на душы харашэла, жыццё рабілася бесклапотным, як у рэкламным ролiку...

А праз паўгадзіны «ласкавае цялятка» ўжо шаптала ў кабінеце Капітонаўны:

— Мне з вамі пагаварыць трэба. Вы, Галіна Капітонаўна, хаця не падумайце, што я шасцёрка якая, але вас паважаю і не хачу, каб у вас зноў праблемы былі, як тады з тымі батонамі. Карацей, Пецька выпіўшы.

— П'яны?

— Не, я ж кажу: выпіўшы, на сваіх нагах, але з пахам.

— Ну, Аксана, што мне з ім рабіць? — у роспачы абхапіла галаву рукамі затурканая Капітонаўна. — Папусціся — дык астатнія на галаву сядуць, будуць хадзіць, не прасыхаючы. Напісаць дакладную і дадому адправіць? Хто ж мне лінію сёння падключыць? Ды і ўвесь завод ведаць будзе — ізноў непрыемнасці!

— А вы яго на гадзінку ў канцёрцы зачыніце, каб не швэндаўся навідавоку, і страуса яму ўсуньце, раз заляцеў!

— Ай, і праўда, ну Цяцерка, ну галава, хаця б табе які тэхнікум — міністрам была б! — адшукаўшы годнае вырашэнне адразу двух праблем, упэўнена пахвалiла падначаленую Капітонаўна, нібы насамрэч верыла ўласным словам.

Адвячоркам Пецька цягнуўся да прахадной з торбай страусаў і дваістым пачуццём. З аднаго боку, не пашчасціла і заляцеў па-дурному, са страусам гэтым, думай цяпер, куды падзець. А з іншага — яшчэ лёгка абышлося: маглі і звольніць ці дэпрэміраваць. «Нічога, затое натуральнае», — суцяшала яго прыбіральшчыца Кузіна, першы раз у жыцці адчуваючы сябе пераможцай.

«Што ні кажыце, а п'яніца на вытворчасці — паўсюль чалавек патрэбны і выгадны. Ніяк без яго», — дзяліўся з сантэхнікам Піпкіным сваімі думкамі астматык апазіцыйных поглядаў слесар Скіба і, апусціўшы галаву долу, здавалася, хаваў свой позірк глыбока-глыбока ў зямлю.

# Пані Відаўская і Зюнечка

Віктар Шукеловіч.
Апавяданне.

Хата пані Відаўскай стаяла па пагорку, уся аточаная кустамі ружаў. Вясною, калі кветкі цвілі, а ў паветры стаяў густы і моцны водар, падавалася, што дом пані Відаўскай быў намазаны ружавым варэннем. Каля дому на пагорку была лазня, хлеў, пуня, дзве паветкі, гумно, дрыботня і катушок. Можна было падумаць, што гаспадыня трымае шмат гавяды, але ў пані Відаўскай не было ніякай жывёлы, апрача некалькіх старых і тоўстых пацукоў, што жылі ў хаце пад падлогай, але ўзімку лазілі грэцца на печ.

— Сплю гэта я, значыцца, на ложку каля печы, — распавядала пані Відаўская ў вёсцы. — А тут чах — нешта цяжкое мне на жывот звалілася. Я ўжо спалохалася праз сон, думаю: пажар, гару, а гэна бэлькі валіцца. Аж толькі чую, што маленькія ножкі па маім жываце туп-туп, падрыбталі — гэна пацук з печы на мяне зваліўся, каб яго халерыя.



**Віктар Шукеловіч**

пісьменнік. Нарадзіўся ў 1982 у Жупранах (Ашмянскі раён). Скончыў беларускі філфак БДУ (2004), тэалагічны факультэт Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта (2011).

Пані Відаўская не была гультайкай — яна паходзіла са шляхты, «з добрай фаміліі», як сама казала. За польскім часам праз заможнасць бацькоў яна здолела павучыцца ў школе ды нахапацца «мондрых» словаў, якія любіла ўплятаць у гаворку — гэта падавалася ёй вяршыняй элегантнасці.

— У магазіне надта калейка вялікая была, — расказвала старэнькая апошнія навіны. — А была навучыцелька са школы прыйшоўшы, чакала-чакала ў калейцы, а ніц не дачакалася — самлела на падлозе. Тады самаходам прадсідацель яе ў бальніцу павёз. Мусі, моцна хворая тая навучыцелька або мала паеўшы была.

Пані Відаўская доўга жыла адна — у дзеўках. Выйшаўшы ўжо ў сталым веку замуж, жанчына цяжка працавала, думаючы, каб нешта пакінуць дзецям. Дзяцей аднак не было. Муж захварэў ды памёр, а пані Відаўская распрадала жывёлу ды пачала «ратаваць душу».

Усе ведалі, як пані Відаўская любіла маліцца. Старэнькая не прапускала ніводнага касцельнага фэсту ў наваколлі, ездзіла ў пілігрымку некуды пад Мінск ці нават пад Магілёў. Яна першая прыходзіла да вясковага крыжа на набажэнствы, ведала на памяць усе літаніі, песні ды пацеры, спявала на хаўтурах па нябожчыках ды амаль увесь час пасцілася. Усе сцены ў ейнай хаце былі завешаныя абразамі, а ўсе шафкі былі заваленыя пажоўклымі пабожнымі кніжкамі ды амаль спархнелымі кантычкамі. За савецкім часам яна хрысціла дзяцей, а на імшу не ленавалася ездзіць ажно ў Вільню. За вочы бабулю называлі нават «ксяндзоўкай».

Каля пані Відаўскай, ніжэй у лагчыны, жыў Зюнечка — мужык-бабыль, хата ў якога ніколі не была фарбаваная. У ягоным жытле, як казалі, жаніліся чэрці — гэтак там было брудна ды неахайна.

Неяк цыганы выбілі Зюнечку вокны ды выцягнулі праз шыбу тэлевізар. Выбітыя вокны былі ажно да маразоў — усё Зюнечка не меў часу іх зашкліць. Ён працаваў, як вар'ят: мог касіць ці секчы дровы цэлы дзень без спачынку. Але і піў ён, як ашалелы. Часам як пойдзе ў запой, то ляжыць цэлымі днямі беспрабудна. А тры ягоныя рахманыя каровы, навязаныя на ланцугах ды нядоеныя, рыкалі тады страшней за людажэрных цмокаў. Бывала, цэлы тыдзень Зюнечка мог піць, а пазней, прачнуўшыся ў нядзелю, раптам апрытомнець, спахапіцца ды паляцець з самага рання на касьбу. У такія раніцы пані Відаўская, якая ў белай хустцы ехала роварам — рып-рып — на імшу, прыпынялася каля суседа ды гаварыла:

— Зюнечка, што ж ты за чалавек? Святой нядзелі для цябе няма? Цэлы тыдзень піў ды ляжаў, а цяпер, калі людзі святкуюць, дык ты косіш, як ачмурэлы...

— Адчапіся, шэльма, — Зюнечка працягваў упэўнена махаць касой, нават не зірнуўшы ў бок пані Відаўскай. Тая звычайна яшчэ троху стаяла, пасля жагналася тры разы, шаптала пацеры за душу Зюнечкі ды ехала ў касцёл.

Зюнечка не быў дурны, некалі нават паступіў у інстытут на агранома, але доўга не навучыўся — выгналі яго за п'янку, і на гэтым адукацыя скончылася. Пагаворвалі, што ў яго было некалькі байструкоў у навакольных вёсках. Гэных дзяцей, казалі, вельмі шкадавалі ў свой час бацькі Зюнечкі. Яны былі ўжо надта скупыя: нібыта як пазычалі яйкі, то мералі ніткаю іх велічыню, каб пазней, не дай Божа, нехта меншымі не аддаў. Перад самаю смерцю, нібы ўжо нешта прадчуваючы, старыя папрадавалі ўсю сваю гавяду ды, закруціўшы грошы ў белыя, чыстыя насоўкі, занеслі навакольным байстручкам.

* * *

Аднаго лета ў нашых краёх вельмі ўрадзіла бульба. У талаку на бульбакапанне да маіх дзядоў паклікалі ўсіх суседзяў: і пані Відаўскую, і Зюнечку таксама.

Стары халасцяк з'явіўся яшчэ шэрай раніцай, калі бабуля цадзіла праз марлю сырадой.

— Паратуй, суседка, бо надта трудную пасля ўчарашняга...

— Зараз я цябе, шэльму, паратую калом праз галаву, — жартавала бабуля. — Трэба было табе ўчора жлукціць поўным горлам тую гарэлку?

— Паратуй, гаспадыня, бо памру, надта блага...

Бабуля, злітаваўшыся, выцягвала з-пад печы бутэльку мутнай самагонкі ды цурболіла ў кубачак пахмелку.

— А чаго так мала? — пытаўся бабыль.

— До, бо зараз бічом па баках табе дадам, — знарок сварылася бабуля, баючыся, каб Зюнечка не ап'янеў ды не злёг у баразне на бульбяным полі.

У талацэ быў яшчэ Стасюня — малады хлопец у стракатай кашулі з кветкамі, адзець якую цяпер не пасаромеліся б сталічныя хіпстары. Сваю кашулю Стасюня запраўляў, аднак, у трэнікі. Ды і хадзіў ён пераважна ў гумовіках. Былі б, можа, і з яго людзі, але гарэлку ён цягнуў, як цэмент ваду. Прыйшоў высокі і худы Антук, ды прыкілыгкаў Ванечка з хвораю нагой. На воз пазносілі ўжо мяхі ды кашы, у пярыну закруцілі каструлю з клёцкамі, каб не астылі да абеду, а пані Відаўскай усё не было. Найболыш непакоіўся Зюнечка: яму надта хацелася хутчэй пачаць ды хутчэй скончыць.

— Дзе тая ксяндзоўка? Моліцца ўсё, зара пад абразамі галаву разаб'е...

Нарэшце на гасцінцы паказалася пані Відаўская, якая, перакульваючыся з нагі на нагу, ішла са сваім кашом. Зайшоўшы на двор, пані Відаўская прывіталася пахвалёнкай:

— Пахвалёны Езус Хрыстус.

— На векі, — адказалі ўсе дружна. Толькі Зюнечка маўчаў, задуменна прытуліўшыся плячыма да плоту.

— Дзень добры, санседзе, — прывітала яго асобна пані Відаўская.

— Што гэная шэльма па-польску там лапоча, — прабуркатаў Зюнечка.

— Зара я табе перакладу, — з усмешкай выйшаў наперад Стасюня ў сваёй квяцістай кашулі. — Яна кажа: добры дзень табе, боўдзіла...

Увесь падворак раптам зарагатаў. За бокі трымалася сама пані Відаўская, вішчала мая бабуля, хохкаў дзед, заліваўся кульгавы Ванечка ды тросся ад пацехі Антук. Смех ляцеў па-над поплавам, іржышчам, разараным бульбяным полем, змялелаю рэчкаю, якая ўпадала ў Ашмянку, лугам з парыжэлаю травою ды худой кароваю на ланцугу, якой балеў жывот ды якая спалохана трэсла вушамі. Смех прамчаў па-над грушаю-дзічкай, затрымаўся троху ў коміне старой Стэфачкі, якая жагналася з перапуду, ды ляцеў далей — над борам, над заечай нароою ды лысінай старога лесніка, які лазіў па лесе, над пасохлым маліннікам ды зымшэлымі валунамі, звезенымі некалі з поля.

## Сцісла

### Пісьменнік Саша Філіпенка прысвяціў прэмію Шарамету

Саша Філіпенка ўганараваны прэміяй расейскага часопіса «Сноб» за свой трэці раман «Цкаванне». «Мне сёння паведамілі, што, калі я раптам выйграю прэмію «Зроблена ў Расеі», — стану першым замежнікам, які яе атрымаў, — сказаў Філіпенка ў прамове падчас уганаравання. — Нягледзячы на тое, што кніга ў асноўным пісалася ў Францыі і пісалася ў асноўным беларусам, усё напісанае ў ёй, на жаль, сапраўды зроблена ў Расеі.

Я б хацеў сказаць асобны дзякуй часопісу «Сноб». Некалькі гадоў таму часопіс першы надрукаваў урывак тады яшчэ не апублікаванага рамана «Былы сын». Прачытаўшы ўрывак, Павел Шарамет патэлефанаваў майму цяперашняму выдаўцу Барысу Пастэрнаку і сказаў: «Бора, трэба тэрмінова публікаваць»...

І вось праз тры гады Паўла з намі няма, а я атрымліваю прэмію «Сноба» за раман, у якім распавядаецца, як журналіста цкуюць за ягоную прафесійную дзейнасць. З вашага дазволу я хацеў бы прысвяціць гэтую прэмію Паўлу Шарамету. Дзякуй».

Саша Філіпенка, пісьменнік і журналіст, лаўрэат «Рускай прэміі» 2014 году, аўтар раманаў «Былы сын», «Задумы», «Цкаванне».

### Памёр Валянцін Цвяткоў

23 верасня ў тэатры імя Якуба Коласа ігралі камедыю «Ён. Яна. Акно. Нябожчык», якая захоўваецца ў рэпертуары з 2005 года. У ролі Упраўляючага на сцэну выходзіў артыст, ведучы майстар сцэны Валянцін Цвяткоў. Ён шмат жартаваў з «таварышамі па рабоце», так ён звычайна называў сваіх калег, хаваючы шчырыя пачуцці, якія жылі ў сэрцы гэтага высокага, мажнога чалавека. А 26 верасня, на 69-м годзе жыцця, яго не стала. Абшырны інфаркт, у выніку — ацёк лёгкіх.

Валянцін Цвяткоў працаваў ў тэатры імя Якуба Коласа спачатку манціроўшчыкам, а ў 1974 годзе, пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, запрошаны рэжысёрам Валерыем Мазынскім на ролю Волькі ў спектакль «Званы Віцебска». З тае пары не сыходзіў з падмосткаў. Ён быў цікавы характарны і камедыйны акцёр.

### Беларускі гурт у майках з «Пагоняй» выступіў на «Х-фактары»

Сваю зборную на самае папулярнае і рэйтынгавае ўкраінскае шоу адправіла «Арт-Сядзіба». Гурт «Амплітуда смеласці» бярэ ўдзел у сёмым сезоне конкурса «Х-фактар». Усе суддзі сказалі «так» і прапусцілі «Амплітуду смеласці» ў наступны этап шоу.

**СМ**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Атмасфера на матчы Беларусь—Францыя 6 верасня ў Барысаве была вельмі патрыятычнай.




НАСТАСЯ РОЎДА

1 кастрычніка ўдзельнікі курсаў «Мова Нанова» зладзілі талаку ва Ушачах. Адгукнуліся не толькі слухачы курсаў, але і дзевяцікласнікі адной са сталічных школ. Людзі прыбралі падворак ля дома Барадуліна, пафарбавалі агароджу, паставілі новыя шыльды пра паэта.



Настаўніца з ЗША запрасіла на сваё вяселле дзяцей з сіндромам Даўна. Кінсі Фрэнч — настаўніца спецыяльнай адукацыі са штата Кентукі, яна займаецца з дзецьмі з інваліднасцю. Яна так прывязалася да сваіх вучняў, што запрасіла ўвесь клас на вяселле.



Дзяўчына села на шпагат між верхнімі парэнчамі ў перапоўненым вагоне мінскага метро. Фантастычная расцяжка дзяўчыны не магла пакінуць абыякавымі пасажыраў, на вачах якіх адбылося гімнастычнае шоу.



Празрыстая скрыня ў чорным пакеце — гэтае фота з беларускіх выбараў абышло інтэрнэт.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Грыгаровіч, чаму вы вырашылі з'ехаць з Беларусі? Вам тут не падабаецца?

— Я проста палічыў, што не варты таго, каб жыць у самай шчаслівай краіне свету.

* * *

— Добры дзень, мне патрэбныя антыдэпрэсанты.

— А ў вас ёсць рэцэпт?

— А што, пасведчання аб шлюбе ўжо недастаткова?

* * *

Калі ёсць магчымасць не думаць — не думай!

* * *

— Мама, хутка бацькоўскі сход у школе, і я хацеў бы анансаваць інфармацыйныя атакі, якія рыхтуюцца супраць мяне.

* * *

З цяперашнім бы розумам ды назад у маладосць... От бы я ўжо там нарабіў дурасцяў пад завязку!

## «НН» сто гадоў з вамі

**Рэвалюцыя ў Кітаі.** Кітай — гэта велікан паміж іншымі старонкамі свету. На неабʼятным абшары жыве тутака 400-мільённы народ. Да рэвалюцыі кітайцы прыгатаўляліся ўжо шмат часу. У англійскіх газетах надрукаваны пісьмы рэвалюцыянера Сунь Ятсэна, з катораных відаць, што ён хацеў пазычыць у Англіі 5 мільёнаў рублёў на рэвалюцыю на паруку аднаго кітайскага банка. Быццам блізка ўсё кітайскае войска прылучыцца да рэвалюцыі, а таксама флот.

**«Наша Ніва». №40. 1911**

**Пуцін: Сітуацыя ў адносінах з Беларуссю крытычная.** Гэтыя рэзкія словы прагучалі ў гутарцы прэзідэнта Расеі з кіраўнікамі думскіх фракцый. У Расеі ёсць традыцыя, што кіраўнік краіны абмяркоўвае бягучыя пытанні замежнай і ўнутранай палітыкі з лідарамі розных палітычных сілаў. Асноўнай тэмай апошняй сустрэчы стаў крызіс ва ўзаемінах з Грузіяй. Аднак на канфідэнцыйным спатканні гаворка пайшла і пра Беларусь. Расейскія эксперты расцанілі заявы, зробленыя Аляксандрам Лукашэнкам у мінулую пятніцу на прэс-канферэнцыі для расейскіх журналістаў, як правакацыйныя, скіраваныя на разрыў дачыненняў.

**NN.BY, 5 кастрычніка 2006**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 30 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 04.10.2016.
Замова №3796.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16028